Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 52 (4698) 28 снежня 2012 г.

# З Новым годам і Калядамі!




Фота Кастуся Дробава

Якуб КОЛАС

## Дзед-госць

*Ходзіць дзед белабароды*
*Полем, лесам, пералескам,*
*Засцілае рэчкі лёдам,*
*Брыльянцістым*
*снежным блескам.*

*Сыпле іней на бярозы,*
*Туліць дрэвы лёгкім пухам,*
*Крые руні, травы, лозы*
*Белай воўнаю-кажухам.*

*Дзеда ўсюды носяць ногі,*
*І к нам прыйдзе на хвілінку*
*Адпачыць крыху з дарогі,*
*Важна сеўшы на ялінку.*

*А ялінка!.. Чаго толькі*
*На яе няма галінках!*
*Свецяць зоркі і вясёлкі*
*У бліскучых павуцінках.*

*Тут лісічка, зайчык, мышкі,*
*Рыбкі, буслік даўгавязы.*
*А як ззяюць на ёй шышкі,*
*Нібы ў іх гараць алмазы!*

*Каля ёлкі карагоды,*
*Песні, гутарка жывая,*
*А той дзед белабароды*
*Толькі ў вусы смех пускае.*

*Дык рассунем кола шырай,*
*Патанцуем на памосце,*
*Песняй звонкай,*
*песняй шчырай*
*Прывітаем дзеда-госця.*

1939 г.

# Знакавае імя ў беларускай літаратуры

Што такое літаратура, што сабой уяўляе гэты феномен духоўнай і эстэтычнай творчасці? На такое пытанне існуе безліч адказаў і версій. Сярод іх адным з самых несумненных з'яўляецца, мабыць, сцверджанне, што літаратура — гэта мастацкае адлюстраванне жыццёвага досведу чалавека, усяго ім пражытага, таго, што адкладваецца ў памяці і затым увасабляецца ў творах у вобразнай форме.

Яўген ГАРАДНІЦКІ

Чым багацейшы жыццёвы вопыт аўтара, тым больш відавочным паўстае плён выяўленага ім у мастацтве. Без адчувальнай прысутнасці асабістага досведу твор пісьменніка становіцца пазбаўленым творчай сілы, мастацкай паўнаважкасці.

Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў, выдатны вучоны-гуманітарый, даследчык літаратуры, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, пісьменнік, добра ведае цану жыццёваму вопыту, у яго творчым даробку — шэраг раманаў, у якіх рэчаіснасць паўстае ў сваіх рэальна адчувальных формах, быццёвай паўнаце і шматзначнасці. Для яго сувязь літаратуры з жыццём з'яўляецца самай першаснай і неабходнай умовай выяўлення яе асноўнага прызначэння.

Для Гніламёдава-даследчыка, уважлівага і праніклівага аналітыка працэсаў літаратурнага развіцця, таксама як і для Гніламёдава-пісьменніка, найбольшую каштоўнасць складаюць якраз тыя шматстайныя праявы рэальных жыццёвых клопатаў і спраў чалавека на зямлі, якія, становячыся зместам і пафасам літаратуры, робяць твор слоўнага мастацтва пазнавальным, сэнсава ёмістым. Пры гэтым асаблівая ўвага звяртаецца якраз на тое, што жыццёвы досвед аўтара прадстае ў пераўвасобленым, эстэтычна засвоеным выглядзе.

Большасць літаратуразнаўчых і літаратурна-крытычных прац Уладзіміра Гніламёдава прысвечана аналізу беларускай паэзіі, выяўленню асаблівасцей паэтычнага светаўспрымання яе стваральнікаў. У кожнага з паэтаў Уладзімір Васільевіч імкнецца знайсці тое асаблівае, непаўторна-адметнае, што ўласціва толькі яму. Гэта індывідуальная, чалавечая непаўторнасць аўтара выяўляецца ў літаратурнай творчасці галоўным чынам праз адметнасць стылю. Для Уладзіміра Гніламёдава вядомае афарыстычнае выказванне «стыль — гэта чалавек» з'яўляецца сутнасным адлюстраваннем аднаго з асноўных метадалагічных прынцыпаў даследавання мастацкага свету пісьменніка, крытэрыем гарманічнай суаднесенасці ў літаратурным творы асабовага, біяграфічнага, аўтарскага і ўстойлівых жанрава-стылёвых форм паэтычнага выражэння.

У тэарэтычных даследаваннях апошнім часам актыўна дыскутуецца пытанне тэрміналагічнага размежавання такіх паняццяў, як твор і тэкст. Гэта праблема з'яўляецца выключна важнай для вызначэння стратэгіі літаратуразнаўчага аналізу, сучасных падыходаў да вывучэння літаратурнай творчасці.

Сёння назіраецца тэндэнцыя да замяшчэння тэрмінам *тэкст* традыцыйнага паняцця *твор*. Паводле канцэпцый тэарэтыкаў постмадэрнізму, тэкст, становячыся цэнтральным момантам літаратурнай творчасці, прадстаўляючы сабой не вынік творчага працэсу, а самую працэсуальнасць, пісьмо, пазбаўляе былога дамінуючага значэння катэгорыю *аўтар*. А разам з тым рашуча адсякаючца ад тэксту як самадастатковай і самаўзнаўляемай сістэмы ўсе адзнакі, якія могуць звязваць яго з пазатэкставай рэальнасцю. Яны аказваюцца як бы непатрэбнымі.

Ці так гэта на самай справе? Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў не ўступае звычайна ў палеміку з адэптамі постмадэрнісцкіх і постструктуралісцкіх канцэпцый. У гэтым выяўляецца шырыня яго поглядаў, прыняцце розных думак і меркаванняў. Да пошукаў сучасных маладых аўтараў, якія засяроджваюцца на канструктыўных уласцівасцях тэксту, ён ставіцца з увагай і разуменнем. Аднак усімі сваімі навуковымі працамі і творамі мастацкімі, распрацаваным ім творчым метадам Уладзімір Гніламёдаў якраз даводзіць, што сувязь створанага пісьменнікам з навакольным светам, людзьмі — тое, што тэкст ператварае ў твор — жыццёва неабходна літаратуры.

Да ўласнай літаратурнай творчасці, буйных эпічных твораў Уладзімір Васільевіч прыйшоў, маючы ўжо багаты досвед даследчыцкай, літаратуразнаўчай працы, у поўнай меры раскрыўшы свой талент літаратурнага крытыка. Фокус літаратурна-крытычнай увагі Уладзіміра Гніламёдава канцэнтраваўся галоўным чынам на айчыннай паэзіі, на яе стылёвай адметнасці, разнастайнасці яскравых творчых індывідуальнасцей. А як пісьменнік Уладзімір Васільевіч пачаў працаваць у жанры прозы. У гэтым, як мне здаецца, выявілася яго схільнасць да як мага шырэйшага, вычарпальнага ахопу рэальнай і мастацкай рэчаіснасці, да спалучэння аналітычнасці з мастацкім асэнсаваннем жыцця, пранікненнем у глыбінныя пласты нацыянальнага гістарычнага досведу, уласцівым для празаічнага эпасу.

**(Заканчэнне на стар. 5.)**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі заявіў пра непахіснасць прынцыпу незалежнасці Беларусі. «Усе павінны зразумець, што Беларусь — гэта назаўсёды. Гэта наша, яна ніколі больш не будзе ні польскай, ні расійскай, ні амерыканскай або нямецкай. Да гэтага трэба прывучыць усіх нашых партнёраў», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў з 75-годдзем народнага мастака Беларусі Барыса Герлавана. Творцу па праве называюць адным з найлепшых мастакоў-сцэнографаў Беларусі, дзякуючы таленту, арыгінальнаму мысленню і мастацкай фантазіі якога з'явіліся на свет бліскучыя пастаноўкі, прызнаныя нацыянальнай класікай, адзначаецца ў віншаванні.

✔ Пытанні развіцця беларуска-кітайскага супрацоўніцтва ў навуковай і адукацыйнай сферах былі ў цэнтры ўвагі падчас сустрэчы ў Пекіне з прадстаўнікамі БДУ. Сустрэча адбылася ў беларускім пасольстве з удзелам прарэктара па навуковай рабоце БДУ Алега Івашкевіча, а таксама загадчыка кафедры мовазнаўства і краіназнаўства Усходу БДУ Аляксандра Гардзея. У размове ўдзельнічалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў КНР Віктар Бура, супрацоўнікі пасольства.

✔ Каля 50 праектаў рэалізавана ў ходзе рэспубліканскай акцыі «Нясвіж — культурная сталіца Беларусі 2012 года». Заключныя мерапрыемствы акцыі ўключалі канцэрт струннага квартэта Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь, прэзентацыю кнігі «Нясвіжская краю напеў векавы», мастацкія і фотавыстаўкі, дэманстрацыю фільма «Культурная сталіца Беларусі 2012 года», а таксама святочны канцэрт з удзелам Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь і аматарскіх калектываў, выканаўцаў з Нясвіжскага раёна.

✔ Навагодняе шэсце Дзедаў Марозаў і Снягурачак адбылося ў Мінску 23 снежня. Шэсце адкрыла праграму святкавання Новага года і Каляд. У Мінску ў святочныя дні адбудзецца больш як 120 культурна-забаўляльных мерапрыемстваў. У навагоднюю ноч будзе працаваць каля 30 адкрытых пляцовак. Найбольш значныя з іх — каля Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Мінскага лядовага палаца, Мінскага палаца культуры і спорту чыгуначнікаў. Кульмінацыяй свята стане феерверк каля стэлы «Мінск — горад-герой», першыя залпы якога прагучаць у 1.30.

✔ Больш як 350 мерапрыемстваў для дзяцей пройдзе ў Мінску да навагодніх і калядных свят. Сярод іх — дабрачынныя акцыі, конкурсы, спартыўныя спаборніцтвы, навагоднія ранішнікі. У іх задзейнічаны амаль усе арганізацыі сталіцы.

✔ Прэм'еры фільмаў студыі ў гонар святога Іаана Воіна пры Свята-Елісавецінскім жаночым манастыры адбудуцца на духоўна-асветніцкай выстаўцы «Раство Хрыстова», якая праходзіць з 27 снежня па 5 студзеня ў сталічным Палацы мастацтваў. Паказы запланаваныя на 3 студзеня. Наведвальнікі выстаўкі змогуць убачыць фільмы «Братэрская свечка» рэжысёра Ірыны Волах і «Тры словы пра дараванне», рэжысёрам якой стала манахіня Іаанна (Арлова).

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Год — завершаны. Праца — працягваецца

Вынікі Года кнігі былі падведзеныя на агульным Пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі 22 снежня.

Раіса СІНЯЎСКАЯ,
фота Кастуся Дробава

На пасяджэнні былі заслуханы справаздачы старшынь абласных і Мінскага гарадскога аддзяленняў СПБ. Большасць з іх адзначыла значнае павелічэнне колькасці кніг, выдадзеных у 2012 годзе. Акрамя таго, вырасла і колькасць сустрэч з чытачамі, бібліятэчных акцый і рэгіянальных прэмій. Уладзімір Гаўрыловіч паведаміў, што падчас перамоў з кіраўніком Гомельскай вобласці было дасягнута дамоўленасць аб выдзяленні сродкаў на стварэнне Музея літаратуры Гомельшчыны. Вялікая ўвага надавалася, паводле кіраўнікоў аддзяленняў, і працы з моладдзю: да прыкладу, з 15 кніг, выдадзеных прадстаўнікамі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, 8 — першых, а аўтарам самых таленавітых прапанавана ўступіць у Саюз пісьменнікаў.

Прысутныя на Пленуме госці — першы намеснік Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, намеснік Міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі, першы намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Белкніга» Генадзь Сімінскі, дырэктар Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Алена Кубышкіна, вядучы спецыяліст Упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі міністэрства адукацыі Беларусі Ірына Булаўкіна — далучыліся да абмеркавання стасункаў паміж пісьменнікам, выдаўцом, чытачом, кнігагандлем і бібліятэкай. Як падкрэсліла Лілія Станіславаўна, у гэтым годзе дзякуючы ініцыятыве Прэзідэнта нашай краіны пачаўся рух да кнігі, вялікая праца робіцца па прапагандзе беларускай кнігі за мяжой, шмат увагі надаецца супрацоўніцтву з СПБ.

Дарэчы, старшыня пісьменніцкай арганізацыі Мікалай Чаргінец прапанаваў правесці шэраг сустрэч з бібліятэкарамі ў сценах саюза. А літаратуразнаўца Яўген Гарадніцкі выступіў з прапановай штогадовага семінара для маладых крытыкаў.

«Страціць кнігу — значыць страціць чалавека як асобу» — гэтыя словы падсумавалі сустрэчу творцаў, якіх чакае яшчэ вельмі шмат працы дзеля таго, каб Кніга жыла вечна.




## Сябры «ЛіМа»

# Свяці, «Полымя»!

Старэйшы літаратурна-мастацкі часопіс краіны адзначыў свой 90-гадовы юбілей. Урачыстая вечарына прайшла ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Даніла АРЦІМОВІЧ,
фота Кастуся Дробава



Імпрэза пачалася з віншавання Прэзідэнта Беларусі, якое зачытаў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў. Паводле Кіраўніка дзяржавы, «Полымя» прайшло «заўважны гістарычны шлях і адлюстравала значны перыяд жыцця нашага народа. На старонках часопіса друкаваліся творы класікаў, пісьменнікаў даваеннага і пасляваеннага пакаленняў, якія прынеслі беларускай літаратуры прызнанне ў свеце».

Аляксандр Міхайлавіч павіншаваў калектыў і асабіста. Ён узгадаў, што ў савецкія часы выданне імкнулася падтрымліваць перш за ўсё айчынных майстроў слова. На яго думку, цяпер, у незалежнай Беларусі, варта пашыраць абсяг і прадастаўляць трыбуну творцам з іншых краін. А. Радзькоў пажадаў палымянскаму калектыву працягваць творчыя пошукі і з упэўненасцю канстатаваў: «Вы патрэбныя краіне!»

Намеснік міністра інфармацыі Беларусі Уладзімір Матусевіч адзначыў, што ў савецкія часы публікацыя ў часопісе была мэтай кожнага айчыннага літаратара, і пажадаў працягваць традыцыю. Ён уручыў дзве падзякі міністра: адну — усяму калектыву «Полымя», а другую — асабіста загадчыку аддзела прозы Уладзіміру Саламаху.

Дырэктар—галоўны рэдактар выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч ахарактарызаваў часопіс як «інтэрнацыяналіста», што знаёміць чытачоў з літаратурай народаў свету, асабліва постсавецкай прасторы. Алесь Мікалаевіч уручыў дыпломы «Полымя» аўтарам найбольш цікавых публікацый, што сёлета з'явіліся на старонках часопіса. У сваю чаргу юбілейныя медалі Саюза пісьменнікаў Беларусі ад першага сакратара гэтай арганізацыі Генадзя Пашкова атрымала група айчынных творцаў.

Акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Кавáленя адзначыў плённае супрацоўніцтва «Полымя» і НАН. Так, «круглыя сталы», якія ладзіліся дзвюма арганізацыямі, даўно сталі не святам, а штодзённай працай. Аляксандр Аляксандравіч уручыў ганаровую грамату прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук пісьменніку Алесю Марціновічу.

Акадэмік НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў звярнуў увагу, што з шэрагу літаратурных часопісаў, якія былі заснаваныя ў Савецкім Саюзе ў 1920-я гады, дагэтуль выходзяць толькі «Полымя» і «Сибирские огни». На яго думку, 90 гадоў — сведчанне мастацкай традыцыі, вопыту і далучанасці да гісторыі. «Полымя» заўжды будзе свяціць айчыннай літаратуры!

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



**СУДАРАВА (Мажчэнка) Іна Віктараўна**
*Фантаст*

Нарадзілася 29 мая 1977 года ў г. Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працуе галоўным рэдактарам вэб-сайта ў аддзеле рэкламы ТАА "Белинвестбанк". Аўтар трох раманаў-фэнтэзі і дзвюх кніг для дзяцей. Раман "Двойная честь" (2010) выйшаў у выдавецтве "Ленинградское издательство" (Санкт-Пецярбург).



**ВЯЛЬКО Аляксандр Уладзіміравіч**
*Публіцыст, гісторык*

Нарадзіўся 1 студзеня 1962 года ў г. п. Гарадзея Нясвіжскага раёна. Скончыў фізічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працуе галоўным рэдактарам у выдавецтве Беларускага Экзархата Маскоўскай Патрыярхіі (Беларускай Праваслаўнай Царквы). Аўтар і ўкладальнік дваццаці кніг, якія расказваюць пра знакамітыя постаці асветніцтва, гісторыі, культуры. Дакументальныя нарысы «Святой Праведный Иоанн Кронштадтский», «Святитель Павлин Милостивый» пабачылі свет асобнымі выданнямі (2012).

## Узнагарода

# Уладыку Філарэту — ордэн «Вернасць і вера»

Васіль ПРАТАСЕВІЧ

Старшыня Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Барыс Батура, намеснік упаўнаважанага Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Уладзімір Ламека, прадстаўнікі Сінода, прадстаўнікі грамадскасці ў Дзень памяці святога праведнага Філарэта Міласцівага павіншавалі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.

Цёплае слова пра шматгранную дзейнасць Уладыкі, у тым ліку і на культурнай ніве, сказаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Мікалай Іванавіч, а таксама вядомы мецэнат, даследчык беларускай даўніны Анатоль Статкевіч-Чабаганаў і член праўлення Міжнароднага дабрачыннага фонду «Сям'я — Адзінства — Айчына» Алесь Марціновіч уручылі Мітрапаліту Філарэту вышэйшую ўзнагароду гэтай грамадскай арганізацыі — ордэн «Вернасць і вера».

*Літабсягі*

# Калі табе ад 6 да 16

**Вынікі адразу двух конкурсаў для дзяцей і падлеткаў — на лепшы літаратурны твор і лепшае сачыненне — падведзены ў Нацыянальным банку Беларусі.**

Святлана ВОЦІНАВА

Гэта быў прыгожы фінал. Раскошная белая зала шмат каго на сваім вяку бачыла, і высокія сцены яе чулі нямала разумных і важных слоў, але ж ніколі раней не былі гэта словы мастацкія: справаздачы і планы на будучыню, па большасці, прамаўляліся тут моваю лічбаў і фактаў. А 21 снежня да жырандоляў-руж лягела ўзнёслае...

У конкурсе, арганізаваным спецыяльна ў Год кнігі, узялі ўдзел дзеці супрацоўнікаў Нацбанка па ўсёй краіне. Вершы, казкі, замалёўкі, эсэ і «пазашкольныя сачыненні» на тэму «Кніга — мой лепшы сябар» разглядаліся экспертнай камісіяй, у склад якой увайшлі галоўны рэдактар «ЛіМа» Таццяна Сівец (старшыня камісіі), галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава (сустаршыня), галоўны ідэолаг банка Андрэй Максімчык (намеснік старшыні), галоўны спецыяліст упраўлення ідэалогіі і сацыяльнага развіцця Уладзімір Шавялёў (каардынатар праекта), а таксама галоўныя спецыялісты службаў банка Наталля Бандарэнка, Святлана Замяціна і Вікторыя Шаліма.

За белым авальным сталом... Цікавая і даволі нестандартная форма прадстаўлення фіналістаў і іх работ. Пераможцы ў кожнай намінацыі самі агучвалі свае творы перад членамі экспертнай камісіі, кіраўнікамі банка і — што хвалявала больш за ўсё — бацькамі. Работы адсутных зачытваліся вядучымі. Кожнаму фіналісту па заканчэнні ўручаліся падарункі — ад Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь і Выдавецкага дома «Звязда».



Дыпломы першай ступені і сертыфікаты паўгадавой падпіскі на літаратурна-мастацкі часопіс «Маладосць» атрымалі мінчане Лізавета Гататуліна, Марына Чычаева і Мікіта Сцешыц, а таксама Расціслаў Колб з Пінска і Аляксандра Утлік з Магілёва. Спіс пераможцаў дапаўняюць імёны лаўрэатаў другой і трэцяй ступеняў — Дзяніса Лапаціна (Мінск), Ксеніі Цыбульскі (Мінск), Кацярыны Грынько (Магілёў), Вольгі Аляксеевай (Мінск), Таццяны Сафронавай (Магілёў), Кіры Палтусевай (Магілёў), Марыі Станкевіч (Мінск), Кацярыны Сідскай (Пінск) і Марыны Астравецкай (Магілёў).

Юныя творцы, ёсць спадзяванне, надоўга запомняць і свой першы поспех, і словы, якія ўтульным снежаньскім надвячоркам пачулі яны ад намесніка старшыні праўлення Нацбанка Пятра Мамановіча і галоўнага рэдактара «Маладосці» Святланы Дзянісавай — словы на роднай мове, прыгожыя, светлыя, натхняльныя.

З творамі пераможцаў можна пазнаёміцца на сайце Нацбанка і ў карпаратыўным выданні, а таксама на старонках «ЛіМа» і «Маладосці» на працягу бліжэйшых месяцаў. Лепшыя сачыненні чакаюць сваёй публікацыі ў спецыяльным праекце часопіса «Бярозка» — «Вялікі конкурс школьных сачыненняў».

*Арт-лінія*

# Тэрыторыя свята

**Персанальная выстаўка жывапісу беларускага мастака Юрыя Крупянкова з цыкла «Вандроўка» праходзіць у будынку рэктарата Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

Алеся АРЫЦКАЯ

Атмасфера зімовых гулянняў, святкаванняў Каляд і Новага года, якой прасякнута амаль кожная работа прадстаўленай экспазіцыі, нікога не пакіне абыякавым: героі мастака спяваюць, танчаць, збіраюцца пад калядны зоркай, на іх тварах — радасць і прадчуванне шчасця. Знаёмыя адчуванні, ці не так?

Мастак Ю. Крупянкоў працуе ў галіне тэматычнага жывапісу і партрэта, займаецца кніжнай графікай, супрацоўнічае з беларускімі і расійскімі выдавецтвамі. Нарадзіўся ў Мінску, сябра Саюза мастакоў Беларусі, дацэнт кафедры дызайну БДУ. Работы Ю. Крупянкова экспанаваліся на шматлікіх выстаўках, не раз набываліся прыватнымі калекцыянерамі з ЗША, Нідэрландаў і Германіі, знаходзяцца ў калекцыях Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, светлагорскай карціннай галерэі «Традыцыя». Мастак стварыў вялікую колькасць партрэтаў дзеячаў культуры Беларусі (У. Мулявіна, С. Станюты, З. Азгура, М. Пташука), аўтар серыі карцін «Халакост», «Двое», рабіў ілюстрацыі да кнігі Я. Шварца «Сказка о потерянном времени». Асноўная тэма работ Ю. Крупянкова — простыя людзі, у вобразах якіх добра пазнаюцца тыя персанажы, якіх мы бачым у паўсядзённым жыцці. Яны настолькі рэалістычныя, што міжволі пачынаеш разважаць пра іх жыццё, род дзейнасці, стасункі з іншымі. Персанажы мастака не статычныя, яны перажываюць, думаюць, марацьі працуюць, амаль не адрозніваюцца ад нас з вамі.

У гэтыя калядныя дні праз сваю выстаўку «Вандроўка» мастак дзеліцца з гледачамі атмасферай цяпла і ўтульнасці, распавядае пра блізкае і знаёмае кожнаму: пра святочны родны Мінск, памятныя месцы, першы снег, каханне, любімую жанчыну, маленькую дачку. Тут: вера ў лепшае, любоў да людзей, надзея на шчаслівы і светлы Новы год.



Паводле дацэнта кафедры дызайну БДУ Аксаны Коўрык, Каляды — гэта не толькі хрысціянскае свята. Гэта яшчэ і таямнічы перыяд у жыцці прыроды, час зімовага сонцастаяння, нараджэнне «Ярылы-сонца», калі сыходзяць цемрадзь і смутак, свет павольна, але няўмольна, паварочваецца да вясны. Так і ў прадстаўленых на выстаўцы работах, звязаных з абрадавай каляднай тэматыкай, цікавыя не толькі жыва ўзноўленыя аўтарам фальклорныя антураж і атрыбуты, але важная сама атмасфера народных зімовых гулянняў, якую мастак перадае з мяккім гумарам і цеплынёй. Яго героі: старыя і моладзь, людзі і жывёлы — усе разам святкуюць Каляды.

*Повязі*

# Атмасфера добразычлівасці

**Вялікая зала Музея сучаснага выяўленчага мастацтва да 5 студзеня запрашае наведвальнікаў на выстаўку фатаграфіі Томаша Тамашэўскага (Польшча) «Гарантуецца атмасфера добразычлівасці. Падляшша».**

Дзіяна КАРОЛЬ

На выстаўцы можна пабачыць серыю фатаграфій, прысвечаную побыту, працы і рэлігійна-абрадавым аспектам жыцця насельніцтва Падляшша, сярод якіх значную колькасць складаюць беларусы.

Паводле Томаша Тамашэўскага, ён пазнаваў гэтую краіну па здымках многіх сваіх сяброў, улюбёных у Падляшскае ваяводства. Цудоўныя, некранутыя лясы, птушкі і дзікія жывёлы, звілістыя і зарослыя рэкі — усё гэта добра адлюстроўваюць рамантычныя фатаграфіі.

— Калі я прыехаў сюды зімой на пачатку 2011 года, вывы, якія былі ў памяці, супаставіліся з рэчаіснасцю — і пацвердзіліся. Я быў зачараваны прыгажосцю пейзажа, але ён мяне не здзівіў, бо на гэтую тэму многае ўжо было сказана. Таму я вырашыў звярнуць увагу на людзей, якія таксама ствараюць пэўнага роду пейзаж. Людзі Падляшскага ваяводства адкрыты да новага чалавека, талерантныя і аднachасова моцна звязаныя са сваімі рытуаламі, сваёй ідэнтычнасцю. Яны, крыху аддаленыя ад ілюзорнай цывілізацыі, увесь час звяртаюцца да старых добрых традыцый. Дзе б я ні з'явіўся, яны пазітыўна і з усмешкай сустракалі мяне і стваралі непаўторную атмасферу, — заначае знакаміты фатограф.



Томаш Тамашэўскі з'яўляецца сябрам Польскага саюза мастакоў-фатографікаў, агенцтва «Visum Archiv» у Гамбургу, агенцтва «Image Collection» у Вашынгтоне, а таксама Амерыканскага таварыства фатографаў для часопісаў, займаецца фатаграфіяй для прэсы, публікуе свае працы ў найбуйнейшых часопісах свету: «Stern», «Paris March», «GEO», «New York Times», «Time», «Fortune», «Vogue» і г. д. Выдаў некалькі аўтарскіх кніг, а таксама ілюстраваў сваімі здымкамі больш як дзясятак альбомаў розных аўтараў. Аўтар шматлікіх персанальных выставак у ЗША, Канадзе, Англіі, Ізраілі, Японіі, Галандыі, Германіі, Польшчы і на Мадагаскары. Лаўрэат польскіх і міжнародных фатаграфічных узнагарод.

*З-пад пяра*

➤ Турыстычны кластар «Край жыватворных крыніц» створаць у 2013 г. на Магілёўшчыне. Праект будзе рэалізаваны пры садзейнічанні Праграмы падтрымкі Беларусі федэральным урадам Германіі. Гэта лагічны працяг рэалізаванага ў 2010 — 2011 гг. праекта «Зялёная спадчына Прыдняпроўя», які дазволіў ацаніць экатурыстычны патэнцыял рэгіёна і скласці карту «зялёных» тэрыторый Прыдняпроўшчыны. Цяпер мяркуецца стварыць міжрэгіянальны агратурыстычны кластар на аснове «зялёнага» маршруту і брэндынгу тэрыторыі Магілёўскай вобласці як краю жывой вады.

**Раіса МАРЧУК**

➤ У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася фотавыстаўка, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння фатографа, ваеннага карэспандэнта Аляксандра Дзітлава. Ён нарадзіўся ў Санкт-Пецярбургу яшчэ да Першай сусветнай вайны. Але лёс прывёў яго ў Беларусь, і менавіта наша краіна стала крыніцай натхнення і сапраўднай радзімай для творцы. А. Дзітлаў адчуваў прыгажосць тутэйшага краю і заўжды імкнуўся акцэнтаваць самае характэрнае. На выстаўцы прадстаўленыя работы перыяду працы ваенным карэспандэнтам фотахронікі ТАСС (найбольш вядомыя яго фатаграфіі ваеннай пары), пасляваенная жыцця. Частка работ апублікавана ў аўтарскім фотаальбоме «Там, дзе сінее Нарач», здымкі друкаваліся на старонках часопіса «Маладосць». Гледачы змаглі азнаёміцца з матэрыяламі, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў у Дзяржынску і ў асабістым архіве дачкі фатографа Вольгі Дзітлавай.

**Рына НОВАК**

➤ Конкурс па кітайскай мове «Акенца ў Паднябесную» адбыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Пры яго арганізацыі аб'ядналі намаганні навучальныя ўстановы рознага ўзроўню: Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя, аддзел адукацыі пры пасольстве КНР у нашай краіне і гімназія № 12 г. Мінска. Такім чынам, сваю дасведчанасць у мове і літаратуры ўсходняй краіны прадэманстравалі і школьнікі, і студэнты. Лінгвістычнае спаборніцтва праходзіла ў два этапы: трэба было прадэкламаваць любімыя вершы і выканаць песні на кітайскай мове. На конкурсе сабраліся вучні пяці сталічных гімназій: № 11, 12, 20, 23, 33; а таксама студэнты БДУ, МДЛУ, БНТУ, БДЭУ, Акадэміі кіравання ды іншыя.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

➤ У музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбыўся творчы вечар паэта з Украіны Яўгена Соі. Ён піша пад псеўданімам Yessoya (ЕС Соя) і пазіцыяніруе сябе як паэт-неарамантык. Яўген — аўтар кніг «Бяры», «More», «Hitorimakura», «Кветкі з нічога» ды іншых. Яго выступленні праходзілі ў розных гарадах, у тым ліку і ў Мінску. Падчас сустрэчы адбыліся паэтычныя чытанні, прэзентацыя кніг аўтара, набору паштовак і аўдыёдыска.

**Рыта СТАХ**

# І ўсё ж такі яно ёсць!..

Споўнілася 88 гадоў беларускаму кінематографу: 17 снежня 1924-га была выдадзена пастанова Савета народных камісараў «Аб кінавытворчасці ў БССР». У 1994 г. Указам Прэзідэнта Беларусі дзень 17 снежня прызначаны прафесійным святам беларускіх кінематаграфістаў. Розныя часы яны перажывалі. У апошняе дзесяцігоддзе — тое, што старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў Віктар Васільеў назваў «этапам сырой гліны». Распавесці пра тое, як яна «месіцца», важна не менш, чым перадаць асабліва хвалюючыя моманты святкавання Дня беларускага кіно 17 снежня 2012 г.



*Урачысты момант свята.*

**Таццяна СТУДЗЕНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

З вітальным словам выступіў Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў — асоба, дарэчы, непасрэдна звязаная з кінематографам. Кінарэжысёрам у свой час быў яго бацька, Уладзімір Святлоў. Гэтыя невыпадковыя стасункі ўсяляюць надзею на асабліва пладатворнае ўзаемадзеянне кінематаграфістаў і дзяржаўнай улады. «Сіла беларускага кінематографа, — падкрэсліў міністр, — у яго гісторыі. А апошнім часам яно атрымлівае новае дыханне, выходзіць на новую стабільную арбіту».

Неабходная частка прафесійнага свята — узнагароджванне лепшых. Гэту місію ўзялі на сябе міністр культуры Барыс Святлоў, дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм» Алег Сільвановіч, старшыня прафесійнага саюза дзеячаў кіно Святлана Сухавей і інш. Прыемна, што шанаванне знайшло не толькі выбітных рэжысёраў, акцёраў, аператараў, але і прадстаўнікоў кінапракату, звычайных кінамеханікаў — сталічных, абласных, раённых. Свята кіно — свята ўсіх, хто любіць кіно.







*Вокладкі буклетаў.*

Падчас выступлення старшыні Беларускага саюза кінематаграфістаў Віктара Васільева я раптам зразумела, чаго не хапала святу дагэтуль. Не хапала непаўторнай аўры кінематографа, надзвычайнай узнёсласці, шчырасці пачуццяў «праз край», нястрымнага артыстызму. Увасоблены дух кінематографа... Вось яго і нестае — пры ўсёй безумоўнай фактычнай наяўнасці кінапрацэсу. Пра гэта распавёў дырэктар «Беларусьфільма»: у 2011 г. створана 9 ігравых, 66 дакументальных і 9 анімацыйных фільмаў. У 2012 г. завершана праца над 5 ігравымі кіна- і тэлестужкамі, працягваецца праца яшчэ над 9 праектамі.

Прыемна было і атрымаць падарунак. Усім прысутным уручылі ўнікальныя выданні кінастудыі «Беларусьфільм»: штосьці накшталт мастацкай «справаздачы» пра яе дзейнасць на працягу 2000 — 2012 гг. у галіне ігравога і анімацыйнага кіно. Адпаведна, 52 і 49 найменняў, створаных беларускімі кінематаграфістамі, а таксама ў супрацоўніцтве з калегамі з іншых дзяржаў. Шыкоўная паліграфія, арыгінальнае афармленне. 500 асобнікаў — сапраўдны рарытэт. Застаецца прэзентаваць іх тым, хто кажа, што «кіна няма». З пажаданнямі плённай працы.

# Свет Караткевіча

На філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта 19 снежня адбылася прэзентацыя першых двух тамоў Збору твораў Уладзіміра Караткевіча, аднаго з самых вядомых беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя.

**Таццяна БЕЛЬСКАЯ**

Самае поўнае выданне твораў у 25 тамах было распачата па ініцыятыве навукоўцаў кафедры беларускай літаратуры і культуры філалагічнага факультэта. На пачатку сустрэчы ініцыятар выдання Збору твораў, даследчык спадчыны У. Караткевіча дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры Анатоль Верабей адзначыў, што творчасць пісьменніка займае ў беларускай літаратуры асаблівае і пакуль яшчэ нікім іншым сур'ёзна не аспрэчанае месца.

Адкрываючы прэзентацыю, дэкан філалагічнага факультэта прафесар Іван Роўда падкрэсліў, што сапраўдную сутнасць папулярнасці вядомага аўтара можна вытлумачыць самым істотным фактарам — тым, што яго творчасць адпавядае самым надзённым і важным запатрабаванням сённяшняга дня.

Загадчык кафедры тэорыі літаратуры і рэдактар другога тома Збору твораў У. Караткевіча прафесар Вячаслаў Рагойша ў сваім выступленні зазначыў, што сацыяльна-маральны пафас твораў У. Караткевіча служыць непарыўнасці духоўна-гістарычных сувязей сучаснасці і мінулага — таго мінулага, якое дае ўрок справядлівасці і высакародства, вернасці высокім ідэалам жыцця. У канцы свайго выступлення Вячаслаў Рыгоравіч прыгадаў, што У. Караткевіч быў цесна звязаны з філалагічным факультэтам, цікавіўся пытаннямі літаратуразнаўчай навукі, разумеў высокую місію беларускай літаратуры ў фарміраванні грамадзянскага вобліку сучасніка.

Вяла сустрэчу загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры прафесар Таццяна Шамякіна, якая пры завяршэнні ўрачыстасцей адзначыла, што прапанаванае шырокаму чытачу выданне знаёміць з многімі раней не апублікаванымі творамі пісьменніка, якія раскрываюць сутнасць творчасці У. Караткевіча.

# Іголкі ад змяі

**Алена ВАЯГА**

Хіба ёсць на свеце чалавек, які не любіць Новы год? Вядома, няма!

І не дзіўна, бо гэты дзень па-сапраўднаму казачны. Пачуеш словы «Новы год» — і ў роце адразу з'яўляецца прысмак аліўе, мандарынаў, шампанскага і цукерак. І хай табе тры гады ці сто, у гэты дзень ты верыш у цуд.




«Вожык» таксама любіць гэта свята і робіць усё магчымае, каб чытачы яшчэ раз упэўніліся ў тым, што Новы год — гэта яшчэ і дзень, які неабходна правесці з усмешкай, бо «як Новы год сустрэнеш, так яго і пражывеш».

Апошні нумар гэтага года напоўнены шматлікімі навагоднімі карыкатурамі, якія часам паказваюць не толькі казачны бок гэтага свята, але і рэальны. Упершыню сумесна з Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях Беларусі прадстаўлена рубрыка «Выключайнік», у якой змешчаны малюнкі Алега Папова. Часопіс запрашае ўзяць удзел у стварэнні новых выпускаў рубрыкі і чакае вясёлых двухрадкоўяў і малюнкаў на тэму бяспекі на працы і дома.

Запрашае на «Вернісаж» Аляксандр Пятроў — познабаковы чалавек, які супрацоўнічае з «Вожыкам» не першы год. Асаблівасцю творчасці мастака можна лічыць пэўны псіхалагізм, які чытаецца ў многіх карыкатурах. Растлумачыць гэта можна тым, што цяпер А. Пятроў выкладае практычную псіхалогію ў БДПУ імя М. Танка.

«Вожык» заўсёды з павагай і інтарэсам ставіцца да новых сяброў. Гэтым разам рубрыка «Дэбют» прысвечана мастаку Руслану Богушу. Сваім злёгку спецыфічным, «чорным» адлюстраваннем рэчаіснасці ён нікога не пакіне раўнадушным.

Да таго ж, у гэтым нумары змешчаны вельмі карысны падарунак — каляндар са смешнымі малюнкамі, якія не дазволяць вам сумаваць на працягу ўсяго года.

У іранесцы «Светлавокая варажба» Наталля Кульгавая расказа гісторыю пра тое, як медсястра Марыся вырашыла даведацца сваю будучыню і пайшла да варажбіткі. «— Зноў бачу хлопца са светлымі вачамі, падабаецца яму нехта. А яшчэ кароль цёмны — брунет, дык у яго ўвогуле каханне на сэрцы... — Варажбітка яшчэ нешта гаварыла, але Марыся яе не чула. Яна лунала ў марах: нарэшце пачула тое, што хацела».

З рубрыкі «Іголкатэрапія» вы даведаецеся, як не трапіць у пастку, дзе ў Беларусі можна ўбачыць залатую агароджу, як у Мінску адмывалі грошы. Таксама цікава будзе прачытаць казку пра шыны, якія шукалі сабе прытулак. Рубрыка «Навіны з МУС: матай на вус» расказа пра чавускага гора-шумахера, які «...скраў машыну свайго аднавяскоўца. Але пакатаўся з ветрыкам нядоўга, бо на першым павароце ўрэзаўся ў слуп». Тут жа можна прачытаць пра гільдыю злодзеяў і пра тое, які гербарый лепш не збіраць.

У «Кнігарні «Вожыка»» вы пазнаёміцеся з «Игрой слов» Барыса Кавалерчыка. «Пісьменнік таленавіты ва ўсіх жанрах. Жарты яго выдатныя, адна толькі прадмова «Давайце знаёміцца!» чаго варта. Таму Б. Кавалерчык можа не сумнявацца, што яго выказванне: «Я за лёгкі гумар, за ўсмешку на кожным твары і тоны здаровага смеху на душу насельніцтва» абавязкова падтрымаюць чытачы новай кнігі» — так пра пісьменніка адазваўся Міхась Сліва ў рэцэнзіі «Многае — у нямногіх словах».

Па ўсходнім календары гэта год Змяі. Спадзяёмся, што ў 2013-м яна не будзе нас кусаць, а калі толькі паспрабуе, то ў нашага «Вожыка» заўсёды знойдзецца некалькі вострых іголак, з дапамогай якіх ён зможа растлумачыць, што так рабіць нельга.

«Вожык» яшчэ раз віншуе вас з надыходзячым Новым годам, жадае вам толькі натхнення і добрых твораў!

# Знакавае імя ў беларускай літаратуры

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

І лірыка, і эпас, і літаратурна-крытычная думка скіраваныя па сутнасці ў адным напрамку — да чалавека, да яго спазнання, адкрыцця ў ім не зведаных раней глыбінь. У адным з інтэрв'ю гэту цікавасць да чалавека Уладзімір Гніламёдаў вызначае як асноўную адзнаку сваёй пазіцыі даследчыка. Паводле слоў творцы, яго найперш цікавіць, «ці ёсць там (у творы) новыя звесткі пра чалавека».

У гэтай зацікаўленасці чалавекам, ва ўсім, што звязана з яго жыццём, у цікавасці да самога жыцця ва ўсіх яго праявах — выяўляецца характар Уладзіміра Васільевіча і як асобы, і як вучонага, і як творцы. Нездарма на заканчэнне кнігі пра гэтага выдатнага беларускага творцу — «Уладзімір Гніламёдаў: "Заставацца сабой..."» (словы, якія таксама вельмі стасуюцца да яго духоўнага вобліку!) — змешчана яго выказванне менавіта пра адносіны да жыцця: «Ну, а самае галоўнае маё дасягненне заключаецца ў тым, што нягледзячы на ўзрост, у мяне захавалася цікавасць да жыцця».

Гэта выдатная ўласцівасць характару не толькі дазваляе падтрымлівасць на належнай вышыні жыццёвы тонус, яна дае магчымасць з вялікай увагай, любоўю і захапленнем ставіцца як да шматстайных праяў быцця, так і да іх эстэтычнага пераўвасаблення ў літаратурным творы. У інтэрв'ю, апублікаваным сярод іншых у згаданай вышэй кнізе, у кнізе — даніне павагі выдатнаму вучонаму і пісьменніку ад імя яго шматлікіх вучняў і калег — Уладзімір Васільевіч заўважае, што галоўным пабуджальным стымулам пры знаёмстве з літаратурным творам і ўзнікненні жадання асэнсаваць яго мастацкую адметнасць з'яўляецца для яго пачуццё «закаханасці» ў гэты твор. Гніламёдаў піша пра духоўна і эстэтычна блізкіх яму паэтаў, празаікаў, пра тых, у каго ён знаходзіць тое, чым можна падзяліцца з чытачом як запаветнай радасцю.

Вытокі ўласнай літаратурнай творчасці Уладзіміра Гніламёдава таксама там — у непераадольнай празе спазнання, а яшчэ ва ўсведамленні таго, «што калі я пра гэта не раскажу, то ніхто не раскажа». Памяць асобнага чалавека, сям'і, роду — бясцэнная скарбніца, з якой вырастае цуд мастацтва, ускрылёная слова, як легендарная птушка Фенікс. Найважнейшай задачай, пачэснай місіяй літаратуры, лічыць Уладзімір Васільевіч, з'яўляецца якраз збераджэнне гэтага духоўнага скарбу — людской памяці. Літаратура, на яго думку, самы надзейны сродак у барацьбе супраць энтрапіі, якая пагражае нашай агульнай памяці.

Уладзімір Гніламёдаў зрабіў істотны ўнёсак у развіццё беларускай эпічнай традыцыі ва ўмовах XXI стагоддзя. Гэта трэба асабліва падкрэсліць: гаворка ідзе менавіта пра развіццё эпікі ў новым стагоддзі, у час, калі з вышыні новага гістарычнага перавалу адкрываюцца яшчэ нязведаныя і непраясненыя перспектывы, калі ўжо нават такі найноўшы кірунак як постмадэрнізм прадстае па сутнасці завершаным этапам літаратурнага развіцця. Што ж далей, якім шляхам ісці літаратуры ў будучым? І наогул — ці будзе ў яе гэты новы час?

У пераходны перыяд (які, здаецца, таксама падыходзіць да завяршэння), калі вяліся ажыўленыя дыскусіі наконт перспектыў культуры, пад сумненне бралася часам нават сама магчымасць існавання ў будучым літаратуры. Маўляў, ёй на змену прыйдуць якіясьці новыя спосабы і формы арганізацыі мастацкага выказвання, звязаныя з электроннымі сродкамі камунікацыі, камп'ютарызацыяй і віртуалізацыяй культурнай прасторы.

Пэўныя змены, вядома, адбыліся. Мастацкае слова пашырыла сферу свайго існавання за кошт выкарыстання магчымасцей электронных носьбітаў інфармацыі. Утварылася нават такое адгалінаванне, як сеткавая літаратура. Нелінейны прынцып аповеду, характэрны для многіх постмадэрнісцкіх твораў, блізкі паводле сваёй сутнасці да прынцыпу пабудовы сеткі. З поспехам распрацоўваў такую методыку ў сваіх творах, напрыклад, сербскі пісьменнік Мілорад Павіч.

І ўсё ж літаратура і ў наш час, у XXI стагоддзі, захавала свае асноватворныя ўласцівасці, засталася вернай сваёй чалавеказнаўчай прыродзе. Пазіцыі рэалізму, узбагачанага новымі падыходамі і прыёмамі, новым бачаннем свету і чалавека, сёння якраз умацоўваюцца. Рэалізм — гэта жывая з'ява ў мастацтве, паколькі сувязь з жыццём, з усім тым, што не змяшчаецца ў творы, але настойліва патрабуе свайго ўвасаблення, з'яўляецца яго самай істотнай прыкметай.

Па гэтым шляху як найбольш адпаведным яго эстэтычным уяўленням, мастацкім прынцыпам і ідэйным перакананням ідзе Уладзімір Гніламёдаў. Яго эпіка, трывала спалучаная з нацыянальнай мастацкай традыцыяй, уяўляе сабой характэрную з'яву менавіта сучаснай літаратуры, таму што яна сугучна настроям і светаадчуванню чалавека нашага часу. Раманы Гніламёдава («Уліс з Прускі», «Расія», «Вяртанне», «Валошкі на мяжы») — гэта творы, у якіх у сканцэнтраваным выглядзе ўвасобіўся жыццёвы досвед нашага сучасніка, дзе асабовае і звязанае з ім родава-сямейнае ўспрыманне гісторыі спалучаецца з нацыянальным і агульначалавечым.

Створанае Уладзімірам Васільевічам Гніламёдавым у навуцы пра літаратуру, у літаратурнай крытыцы, у самой літаратуры за дзесяцігоддзі творчай працы ўражвае сваім размахам, шматстайнасцю, філасофскай заглыбленасцю ў праблемы быцця і эстэтычнай чуйнасцю да слова. Створана вельмі багата. У літаратуразнаўстве, можна з пэўнасцю гаварыць пра гэта, існуе і паспяхова развіваецца навуковая школа Гніламёдава. У прозе ім адкрыты па сутнасці новы напрамак развіцця эпікі, у якім сінтэзуюцца жанравыя традыцыі і мастацкія здабыткі сучаснасці.

Аднак жа трэба ўлічваць, што Уладзімір Васільевіч заўсёды кіруецца наступным жыццёвым прынцыпам: не спыняцца на дасягнутым. Таму пажадаем яму творчага плёну, новых здзяйсненняў на карысць айчыннай літаратуры.

*Даніна памяці*

# Уладзімір Андрэевіч... Валодзя...

**Жывым — жывое. Мёртвым... Мёртвым — памяць. Толькі часам атрымліваецца так, што мы, жывыя, пра тых, хто адышоў у вечнасць, забываем. Не, з памяці іх не выкрэсліваем, але нярэдка не карыстаемся нагодай сказаць пра іх добрае слова. Так сталася і ў мяне з Уладзімірам Круком, з дня нараджэння якога 24 чэрвеня споўнілася 85 гадоў. І памятаў жа пра юбілей, бо заўсёды віншаваў яго ў гэты дзень. Нярэдка і сустракаліся. Толькі мітуслівыя будні не дазволілі своечасова напісаць артыкул. Калі якое апраўданне і можа быць, то хіба тое, што ўвесь сёлетні год у дачыненні да ягонай памяці юбілейны. Мяркуйце самі.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



Паўтаруся: 85 гадоў з дня нараджэння. А 60 гадоў таму ў газеце «Літаратура і мастацтва» ўпершыню быў змешчаны яго фотаздымак. У канцы ж 1957 года Крук стаў фотакарэспандэнтам «ЛіМа». Значыць, 55 гадоў таму. Праўда, у штат рэдакцыі «Літаратура і мастацтва» быў прыняты яшчэ ў канцы сакавіка 1951 года. Пасля таго як дэмабілізаваўся з арміі, аддаўшы ёй сем гадоў. У «ЛіМ» жа быў узяты шафёрам. А потым, як прыгадвае тагачасны галоўны рэдактар штотыднёвіка Мікола Гіль, «набыў Уладзімір фотаапарат, а гэта была «палучка» чырвонага байца за сем гадоў службы, і пачаў пацыху, патроху здымаць. Вось так пакрысе, выконваючы сваю шафёрскую работу, авалодаў фотарамяством. Фатакорства за «баранкай» праз пэўны час стала прафесіяй, ён цалкам аддаваўся любімай справе і яна стала мэтай ягонага жыцця».

Увогуле ж, стаж фотарэпарцёрскай работы Уладзіміра Андрэевіча быў больш як 45 гадоў: у верасні 1992 года (яшчэ адна «юбілейная» дата) стаў фотакарэспандэнтам часопіса «Тэатральная Беларусь», які пазней называўся «Тэатральная творчасць». Канчаткова на заслужаны адпачынак пайшоў толькі ў кастрычніку 1999 года. Дарэчы, некаторы час у гэтай рэдакцыі па сумяшчальніцтве працаваў і я, трымаючы гэта ў такім сакрэце, што ў «ЛіМе» ніхто і не здагадваўся. Не ў апошнюю чаргу таму, што ўмеў трымаць язык за зубамі Крук, з якім мы на гэты час ужо даўно сябравалі. Нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце: ажно 19 гадоў атрымліваецца. Нават на «ты» быў з ім. Пачатак жа гэтага сяброўства адбыўся пасля таго, як у 1972 годзе (юбілей на юбілей!) я, прыехаўшы са Слуцка, быў узяты на працу ў «ЛіМ».

Дакладна і сказаць не магу, як мы зблізіліся. Бадай, не ў апошнюю чаргу з-за таго, што некаторыя тадышнія супрацоўнікі штотыднёвіка маё з'яўленне ў рэдакцыі ўспрынялі як прыход правінцыяла. «Раёншчык» — сёй-той казаў, надта не хаваючыся. Ды каб жа самі гэтыя «сталічныя эстэты» штосьці значнае напісалі! А вось менавіта Уладзімір Андрэевіч аказаўся адзін з нямногіх, хто ўспрымаў усё цвяроза. Дый, як я пазней даведаўся, сяго-таго з гэтых «мэтраў» ён недалюбліваў. Таму паступова і пачалі складвацца паміж намі добрыя адносіны.

Яшчэ больш прыязнымі нашыя адносіны сталі пасля таго, як Крук набыў «Волгу». У самога Івана Мележа купіў! Яшчэ ж праз некаторы час пачалі з Уладзімірам Андрэевічам ездзіць у камандзіроўкі.

Тыя сумесныя паездкі з Уладзімірам Андрэевічам былі карысныя тым, што дазвалялі лепш спазнаць жыццё. Калі хто і аказваўся пры такіх паездках у нявыгадным становішчы, дык сам Крук. Набіралася шмат фактаў, я пісаў вялікія матэрыялы. У выніку ў газеце заставалася мала месца на фотаздымкі. Так было і тады, калі мы наведаліся ў Гудзевіцкую сярэднюю школу, дзе працаваў выдатны педагог Алесь Белакоз, які вельмі шмат зрабіў дзеля беларускасці. Нават музей стварыў. Музеем стала і старая сялянская хата. Без экспанатаў, бо сама сабой з'яўлялася экспанатам. У якасці ілюстрацыі да гэтага матэрыялу ў «ЛіМе» быў змешчаны толькі яе здымак. А Уладзімір Андрэевіч жа быў ініцыятарам паездкі.

Уладзімір Андрэевіч умеў знаходзіць цікавых людзей. Найперш тых, хто плённа працаваў на ніве беларушчыны. Ён пазнаёміў мяне і з Уладзімірам Пузынем, які, на жаль, нядаўна заўчасна пайшоў з жыцця. З'яўляўся выдатным майстрам беларускіх народных музычных інструментаў. Стварыў Пузыня ў адным з пакояў інтэрната цяперашняга Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў і «Беларускую хатку».

Працаздольнасць ва Уладзіміра Андрэевіча была здзіўляльная. Ён хадзіў на ўсе тэатральныя прэм'еры (падкрэслю: на ўсе!) і ўжо назаўтра прапаноўваў здымкі ў нумар. Без ягонага ўдзелу не абыходзілася ніводнае літаратурнае свята. Не кажучы ўжо пра з'езды пісьменнікаў, пленумы, вечары ў Доме літаратара. І нават з пасяджэнняў творчых секцый даваў здымкі. У яго сабралася ўнікальная фотатэка: дзясяткі, сотні фотаработ, найвялізарнейшая колькасць праяўленых негатываў. Калі ў каго-небудзь з пісьменнікаў быў юбілей, да яго прыходзілі супрацоўнікі многіх рэдакцый. Нікому не адмаўляў, кожнаму даваў неабходны здымак. Ягонымі паслугамі карысталіся і супрацоўнікі энцыклапедый, складальнікі розных анталогій, калектыўных зборнікаў. Звярталіся па дапамогу нават з Масквы, Ленінграда, са сталіц саюзных рэспублік.

Кожны працоўны дзень ранкам я ўспамінаю яго. Дый як не ўспомніць, калі, ідучы ў свой кабінет, міжволі спыняюся каля суседняга. Цяпер у ім знаходзіцца аддзел вытворчасці. Раней у гэтым кабінеце была фоталабараторыя. Ужо і не памятаю, ці вісела на ёй шыльда. Бадай, і не было: рэдка хто ў лабараторыю, апроч яе гаспадара, і заходзіў. Я ж наведваўся рэгулярна. Надта добра пры святле чырвонага ліхтара — пры такім святле, як вядома, некалі праяўляліся плёнкі, рабіліся здымкі — нетаропка пагаварыць.

Успомніў Уладзіміра Крука — і адразу лягчэй стала на сэрцы. Як бы там ні было, а ён і чалавек з маёй біяграфіі. Уладзімір Андрэевіч ці проста Валодзя. Хоць я яго, здаецца, звычайна называў Андрэевіч. А то і проста звяртаўся, не згадваючы ні імя, ні імя і імя па бацьку. Маўляў, пойдзем, зробім, паедзем. Як быццам і некультурна так звяртацца. Хоць калі гэта для абодвух добра, дык тут нічога незвычайнага. Нам жа абодвум было добра.

# Мой першы настаўнік

Вучоны, даследчык, літаратуразнаўца... Гэтыя іпастасі навуковай прафесійнай дзейнасці патрабуюць асобых здольнасцей і таленту. Не кожны зможа прадставіць наяўны стан літаратурнага працэсу ў пэўных тэарэтычных абагульненнях і праекцыях на будучыню. Не многія здольны выявіць у размаітай масе творцаў адораных літаратараў, якія будуць прадвызначаць лёс беларускай літаратуры. І толькі адзінкі ў стане акрэсліць тэндэнцыі развіцця мастацкай творчасці ў перспектыве, убачыць тактыку і стратэгіі станаўлення беларускай культуры ў цэлым.



**Святлана КАЛЯДКА,**
**фота Кастуся Дробава**
**і з кнігі «Уладзімір Гніламёдаў: "Заставацца сабой"»**

Да такіх даследчыкаў належыць Уладзімір Гніламёдаў, акадэмік НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар, які шмат гадоў узначальваў аддзел тэорыі літаратуры ў былым Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, з'яўляўся намеснікам дырэктара, а затым і дырэктарам інстытута. Гэтыя ганаровыя пасады накладвалі вялікую адказнасць на Уладзіміра Васільевіча за інстытут, яго навуковых супрацоўнікаў, а яшчэ болей — за ўзровень навуковых даследаванняў, у якіх важна было годна і аб'ектыўна адлюстраваць беларускую літаратуру на ўсіх этапах яе станаўлення — ад старажытнага перыяду да сучаснасці, ад класічных твораў вядомых пісьменнікаў да першых спроб маладых аўтараў у часопісах і газетах... На шматлікіх пасяджэннях аддзела тэорыі літаратуры, Вучонага савета інстытута, на канферэнцыях і сустрэчах Уладзімір Васільевіч неадноойчы падкрэсліваў, што ад адказнасці кожнага навукоўца за агульную справу інстытута, ад яго здольнасцей быць часткай навуковага калектыву, ад умення даследаванне кожнага ўпісаць у калектыўную навуковую працу залежыць, ці атрымаецца ўсебаковае і шматузроўневае адлюстраванне літаратурнага працэсу. Праблематыка калектыўнай тэмы кожнага аддзела ў інстытуце павінна быць скіравана на ўвасабленне агульнага задання літаратуразнаўцаў, галоўная задача якога, як адзначыў Міхась Тычына, у тым, каб «...дапамагчы новаму пакаленню беларусаў, неабыякаваму да літаратурна-мастацкай, тэарэтычнай і крытычнай думкі, арыентавацца ў складанай сістэме сучасных эстэтычных ведаў, у супярэчлівым суіснаванні ў "полі літаратуры" адрозных мастацкіх ідэй і канцэпцый, у шматвектарнай прасторы спаборніцтва традыцыйных і інавацыйных метадаў навуковага даследавання і крытычных падыходаў. Без усяго гэтага ў сучаснай сітуацыі, якая склалася ў выніку шпаркага развіцця постындустрыяльнай цывілізацыі і выявіла фундаментальныя супярэчнасці ў экалагічнай, дэмаграфічнай, антрапалагічнай, сацыякультурнай сферах, немагчыма адэкватнае асэнсаванне сучаснага літаратурнага працэсу і традыцыйных ідэалаў прагрэсу». Менавіта на выкананне гэтай задачы скіроўвае Уладзімір Васільевіч вучоных пры арганізацыі навуковага працэсу ў інстытуце.

Вучоны — гэта частка складанага механізму літаратуразнаўства, і кожны ва ўласным даследаванні павінен арыентавацца на пошук новых шляхоў развіцця, новых гуманітарных каштоўнасцей, светапоглядных стратэгій як у даўніне, так і ў сучаснай літаратуры, пра што сведчаць дзясяткі навуковых манаграфій Уладзіміра Васільевіча. У даследчыцкім арсенале У. Гніламёдава — і традыцыйныя метадалагічныя прыёмы, і найноўшыя спосабы раскрыцця законаў развіцця мастацтва слова. Навуковы інтарэс яго распаўсюджваецца як на асобных аўтараў (І. Мележ, Янка Купала, Якуб Колас, М. Багдановіч, А. Куляшоў, П. Броўка, М. Танк, А. Пысін, П. Панчанка, В. Зуёнак і інш.), так і на беларускую літаратуру XX ст. як адну з форм нацыянальнай духоўна-эстэтычнай свядомасці, важныя аспекты якой знайшлі адлюстраванне ў назвах манаграфій У. Гніламёдава: традыцыі і наватарства, творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс, класікі і сучаснікі, ад даўніны да сучаснасці... У пералічаных напрамках даследаванняў Уладзіміра Васільевіча адлюстраваўся шырокі ахоп прадметаў і аб'ектаў вывучэння ў храналогіі іх выяўлення ў літаратурным працэсе, ва ўзаемазалежнасці разгляду гуманістычных нацыянальных і агульначалавечых духоўных ідэалаў і маральных каштоўнасцей у асобным творы і ўсёй гісторыі развіцця літаратуры.

Калі крытык звяртаўся да жыцця і творчасці асобнага пісьменніка, то ён імкнуўся даследаваць ідэйна-тэматычную напоўненасць твораў, прааналізаваць спосабы мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, прадставіць тэкст ва ўзаемасувязі традыцый і наватарскіх пошукаў пісьменніка і, што вельмі важна, прасачыць эвалюцыю мастацкай свядомасці аўтара ў кантэксце літаратурных працэсаў. У. Гніламёдава цікавіла не толькі тое, што навідавоку, на паверхні, адлюстраванае ў сюжэце, кампазіцыі, стылістыцы і г. д., але і тое, што з'яўляецца неўсвядомленым, патаемным, што рухае аўтарскай задумай, напаўняе тэкст своеасаблівай энергетыкай і прымушае яго жыць стагоддзі, кранаючы зноў і зноў сэрцы чытачоў розных пакаленняў. У сваіх навуковых працах ён шукаў метадалагічны ключ да прачытання любога паэтычнага твора. А сучасны нараталагічны падыход вучонага ў аналізе паэзіі Янкі Купалы дазволіў сапраўды па-новаму паглядзець на яго вершы, ім былі аспрэчаны заштампаваныя і часам ідэалагізаваныя ацэнкі.



*Лявонцій Міхайлавіч Сцепанюк — дзед-выхавацель Уладзіміра Гніламёдава, правобраз Лявона Кужаля. 1950 г.*

Увогуле, у навуковых працах У. Гніламёдава нязмушана перакрыжоўваюцца літаратуразнаўчы і крытычны таленты, што абумовіла з'яўленне такіх розных па жанры даследаванняў: творчы партрэт, нарыс пра беларускую паэзію, нарыс жыцця і творчасці, кніга бягучай крытыкі, старонкі ўспамінаў і г. д. А ў апошнія дзесяцігоддзі раскрыўся ва ўсёй шырыні і глыбіні талент празаіка, пра што сведчаць раманы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008) у якасці самастойных кніжных выданняў. На працягу 2009 — 2011 гг. у «Полымі» друкаваўся яшчэ адзін раман — «Валошкі на мяжы», а ў бягучым годзе распачата публікацыя рамана «Ліхалецце». Аналіз пералічаных твораў патрабуе асобнага манаграфічнага даследавання, яны чакаюць свайго даследчыка, таму што ў выглядзе цыкла раманаў ужо сталі падзеяй у гісторыі беларускай літаратуры. Аднак варта гаварыць пра эпапею, таму што аўтар праводзіць свайго героя праз падзеі дарэвалюцыйнага і пасляэрэвалюцыйнага перыяду, грамадзянскай вайны, улады палякаў у Заходняй Беларусі, распавядае пра эміграцыю беларусаў у Амерыку ў пошуках заробкаў, пра іх блуканні па свеце падчас бежанства, выпрабаванні вайны і пасляваеннага адраджэння. Магчыма, дачакаемся яшчэ адной кнігі і ўбачым, як пісьменнік праводзіць свайго героя і праз пакуты няпростай рэальнасці хрушчоўска-брэжнеўскага перыяду ў гісторыі краіны. На прыкладзе аднаго роду, адной вялікай сям'і і аднаго з гэтай сям'і — беларуса Лявона Кужаля — пісьменнік распавядае пра няпросты лёс беларускага народа ў першай палове XX ст. У трох розных прасторах — маленькай вёсцы Пруска Заходняй Беларусі, Амерыцы і Расіі; і трох часавых вымярэннях — пачынаючы з першых дзесяцігоддзяў XX ст. і завяршаючы перадваеннымі гадамі — па-рознаму раскрываецца асоба героя. Названы цыкл раманаў, які на сённяшні дзень складае пенталогію, — паводле У. Гніламёдава, — «сямейная хроніка ў духу барока», але не толькі: гэта і маштабная, панарамная карціна жыцця беларуса-заходніка, гэта энцыклапедыя ведаў пра сацыяльныя, палітычныя, гістарычныя, этнаграфічныя, культурныя і іншыя аспекты быцця чалавека з народа ў першую палову XX ст., гэта гісторыя краіны.

Мне як былой аспірантцы Уладзіміра Васільевіча хочацца яшчэ адзначыць рэдкі педагагічны талент, што адчулі на сабе многія вучні, якія дзякуючы яго шчырым клопатам, заўсёднай гатоўнасці прыйсці на дапамогу, удумлівым парадам і проста бескарыслівому раздорванню навуковых ідэй набылі вопыт даследчыцкай працы і сёння сталі таленавітымі даследчыкамі беларускай паэзіі і прозы, публікуюць манаграфіі і актыўна выступаюць у сродках масавай інфармацыі ў Беларусі і за яе межамі. Слухаць Уладзіміра Васільевіча можна бясконца: ён як носьбіт глыбокіх ведаў пра літаратуру і літаратуразнаўства, ад часоў рымскіх і грэчаскіх філосафаў і да найноўшых падыходаў да мастацкага твора, імкнецца назапашаную інфармацыю даносіць і да сваіх падапечных, пашыраючы іх кругагляд, папаўняючы метадалагічную базу іх даследаванняў новым інструментарыем. Начытанасць Уладзіміра Васільевіча ўражвае: акрамя мастацкай літаратуры, як беларускай, так і замежнай, яго чытацкія інтарэсы сягаюць у іншыя гуманітарныя дысцыпліны, у навуковую практыку негуманітарных дысцыплін, і паўсюль ён знаходзіць штосьці новае, што можна увесці ў літаратуразнаўчы аналіз. Вельмі важная якасць яго як кіраўніка — Уладзімір Васільевіч не навязвае ўласных думак маладым даследчыкам, дазваляе ім раскрывацца ў сваіх напрамках навуковага вывучэння беларускай літаратуры, ухваляючы «новае слова» ў літаратуразнаўчых пошуках.

Добра памятаю доўгія і вельмі паэнавальныя размовы з Уладзімірам Васільевічам, праз якія адкрывала для сябе новую краіну — навуку. Гэты светлы, шчыры Чалавек і таленавіты, праніклівы, выдатны Вучоны стаў для мяне Першым Настаўнікам у навуковай дзейнасці. Толькі дзякуючы яго нястомнаму жаданню правесці па ўсіх лабірынтах паэзіі, яго чалавечнаму спрыянню, заўсёднай падтрымцы і мудраму кіраўніцтву падчас навукова вучобы, яго душэўным водгукам на перамогі і паражэнні я палюбіла літаратуразнаўства і беларускую паэзію. Гэтаму Чалавеку дадзена запальваць святло ў душах людзей, адорваючы іх добрым, цёплым словам — узнімаць настрой, веру ў свае сілы, падтрымліваць і дарыць надзею.

**Таццяна БАРЫСЮК**

## Зубр айчыннага лірыказнаўства

*Санет да 75-годдзя літаратуразнаўцы і празаіка Уладзіміра Гніламёдава*

У дзень дваццаць шостага снежня
у год трыццаць сёмы, завейны,
быў хлопчык народжаны кемны —
меў дар ён красы спасціжэння.

Быў добразычлівым і шчырым,
любіў вершаванае слова,
і родная матчына мова
гучала жалейкай і лірай.

Ён стаў вершазнаўцам і творцам.
Вялі ідэалы — як сонцы,
быў сам сабе — строгі прысуд!

Код поспеху — талент і праца!
Цяпер ён развважлівы зубр
айчыннага лірыказнаўства!

*20.12.2012*

# Раман-дзённік «Сем гадоў у ЦК»

## НЕКАЛЬКІ СТАРОНАК З ЧЫТАЦКАГА НАТАТНІКА

Пісаць пра гэты твор мне было хораша і радасна. Хоць і нечакана нават для сябе самой — маўляў, навошта мне тое «ЦК». Разважаючы — гэтаксама нетаропка, як уласціва Уладзіміру Гніламёдаву, — зразумела, у чым справа. Хораша ад спакою. Ад той самай нетаропкай разважлівасці. Ад непасрэднай цікавасці да жыцця. Усё гэта рэдка сустрэнеш у наш прагматычны, імклівы час. Вось і захацелася падзяліцца сваімі ўражаннямі. Яны насамрэч з чытацкага дзённіка — калісьці яго вучылі весці на філфаку педуніверсітэта.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Паміж іншым, «раман-дзённік» — не што іншае, як аўтабіяграфія пісьменніка, чые выдадзеныя не так даўно мастацкія творы («Уліс з Прускі», «Расія», «Вяртанне») хутка ўвойдуць у класічны фонд беларускай літаратуры. Хтосьці здзіўлены? А як інакш кваліфікаваць тое, што стаіць упоравень з найбольш адметнымі ўзорамі айчыннай класікі? І не толькі айчыннай...

І вось аўтабіяграфія: бацькі, эпізоды дзяцінства ў роднай вёсцы, вышэйшая адукацыя ў Брэсце, войска, аспірантура, «малодшае» навуковае супрацоўніцтва, партыйная кар'ера (тоесная прафесійнаму росту філолага), камандзіроўкі-вандраванні па розных краінах, супрацоўнікі, пісьменнікі, сябры, аднадумцы і антыподы, стварэнне сям'і. Апошняе — нібы раман у рамане.

Менавіта дзякуючы шчырасці дзённік пра будні ў ЦК і паўстае раманам. «Страшэнна цікава, як гэта яны тут усім кіруюць» (11.02.1969), — уражанне малодшага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры АН БССР У. Гніламёдава падчас першага візіту ва ўрадавую ўстанову з нагоды прапанавання пасады, «функцыі». Функцыя інструктара ЦК, куратара працы Саюза пісьменнікаў, патрабавала сачыць за літаратурным працэсам, глядзець, «ці не дапускаюць <пісьменнікі> якой двухсмысленасці». «Глядзець» трэба было ў літаратурна-мастацкіх выданнях, падчас асабістых наведванняў Саюза пісьменнікаў, працуючы з лістамі чытачоў і г. д. У выкананні інструктарам сваіх абавязкаў уразіла карэктнасць ацэнак літаратараў — пазіцыя, абумоўленая тактоўнасцю і пачуццём справядлівасці.

Прызнаюся: нягледзячы на шчыра раманізаванае «ЦК», карцела думка: трэба ж — пра што піша! Няма «ЦК» — і дзякуй Богу, навошта гэты аніяк не фарматны цяпер яго прывід?! Але чыталася далей, і ўсё больш яскрава паўставала неабыякавасць пісьменніка — да партыі і да сябе, неабыякавасць, з якою з самага пачатку дэкларавана: «Партыйную пазіцыю я падзяляю» (11.02.1969). Відавочна было, што гэты «тэзіс» не сфармуляваны раптам, па інструкцыі «зверху», ён высунуты разважліва і асабіста: «...А я — партыйны чалавек ці не? Думаю, што партыйны, але, мне здаецца, не масавы... Не чалавек гурту, а хутчэй сам па сабе» (6.06.1969). Партыйнасць і індывідуальнасць, партыйнасць і нефармальнасць партыйнай прыналежнасці, самастойнасць, годнасць «партыйца» — такое сустрэнеш нячаста.

* * *

«Мне ўсё цікава, мусіць, таму, што і я крыху пісьменнік» (30.06.1970). Пісьменнік і — філосаф, нават паводле ўласнай непасрэднай ідэнтыфікацыі: у Індыі, дзе пабываў у 1974 г., «хацеў купіць пярсцёнак з агатам, але не было за што. Шкада, агат носяць філосафы» (3 — 20.11.1974). Цікавасць да свету, здзіўленне перад багаццем яго праяў



З калегамі-пісьменнікамі Аляксеем Кулакоўскім, Барысам Сачанкам і Аляксеем Гардзіцкім (злева направа). 1973 г.

— водсвет таго някупленага пярсцёнка: менавіта здольнасць здзіўляцца і творыць філасофію. «І цяпер, і заўжды людзі пачыналі філасофстваваць зыходзячы са здзіўлення» (Арыстоцель). Пра тое ж піша і М. Хайдэгер: філасофія пачынаецца з настрою — «са здзіўлення, страху, заклапочанасці, зацікаўленасці або радасці... Настрой звязвае жыццё з мысленнем».

Цікава, што ў тым жа 1974 г. У. Гніламёдаў звяртае ўвагу на думкі М. Хайдэгера пра мову — гэта ў час, калі на савецкай прасторы яшчэ не «займаліся» мэтрам анталогіі, а на Захадзе яшчэ не была асэнсаваная яго вызначальная роля ў мысленні ХХ ст. «Прачытаў цытату з невядомага мне нямецкага філосафа Хайдэгера: «Мова ёсць дом быцця», «мова — самае поўнае адлюстраванне жыцця народа, яго характару» (4.05.1974). Словы гэтыя, сапраўды, — таямніца, якая будзе больш ці менш высветленая ў апошняе дзесяцігоддзе, але не дзіва, што яны чапляюць за жывое героя-апавядальніка, бо маюць самую непасрэдную сувязь з яго ўласным стаўленнем да свету. Калі нам «усё цікава», то мы «ўсё» сапраўды бачым, прыкмячаем, заўважаем і нейкім чынам асэнсоўваем, карыстаючыся мовай. У заўважанні-маўленні раней незаўважанае-неназванае пачынае значыць і быць. Вось мова і «дом быцця». Так што ўвага самога У. Гніламёдава да жывой мовы (таксама зафіксаваная ў дзённіку) — зусім невыпадковая: «чуў выраз», «пачуў у лазні», «пачуў прымаўку», «пачуў... слова, але не магу даўмецца, што яно значыць», — чуласць да быцця, увасобленага ў слове, разам з адсутнасцю філалагічнай фанабэрыі ўсёзнаўства і «мова-ўласніцтва».

М. Хайдэгер, хутчэй за ўсё, не насіў агата, але ўвогуле быў такі ж спагадны, адкрыты, чулы да ўсяго чалавек, просты і непасрэдны, удумлівы і разважны, у свядомасці і мове якога сапраўды шмат чаго пачало быць, у першую чаргу — уласна феномен Быцця як супрацьлегласці існавання. У мове дзённіка У. Гніламёдава пачынае быць жывым і непасрэдным не толькі наменклатурнае асяроддзе, але і вядомыя пісьменніцкія постаці, справы і святы ў творчым асяродку, увогуле літаратурны працэс 1960 — 1970-х гг. — літаратурная гісторыя Беларусі.

* * *

Я ўпэўнена: калі б у школе ці вузе да мяне трапіў падобны раман-дзённік — жывая, не акадэмічна адцягнутая гісторыя літаратуры, — то і «акадэмічныя» падручнікі інакш чыталіся б, і творы пісьменнікаў успрымаліся б жывымі доследамі жывых людзей. Прачытаныя паралельна з раманам-дзённікам У. Гніламёдава творы П. Броўкі, У. Караткевіча, І. Чыгрынава, А. Макаёнка, В. Быкава і шмат каго яшчэ ззялі б нашмат ярчэй! Справа не ў тым, што ім нестае ўласнай яркасці. Справа ў тым, што моладзі часта нестае жыццёвага кантэксту нараджэння творчасці. Такі кантэкст, нібы сугестыўная падказка ў сімвалічным творы, расфарбоўваў бы на першы погляд нязначнае, актуалізаваў мінулае, наблізіў чалавечае — рэальную аўтарскую асобу, а не міф.

Вялікая колькасць згадак пра вядомыя і нават знакамітыя постаці надае дзённіку характар і статус гіпертэксту. Гэта дарагога каштуе: гіпертэкст — адкрытая структура, межы якой залежаць выключна ад цікавасці чытача. Гіпертэкст — цэлы сусвет. Падставы дзеля таго, каб ён успрымаўся такім (г. зн. цэльнасцю), — асноватворная думка пісьменніка і чытацкая здольнасць да цэльнага, сукупнага мыслення. Сукупнае мысленне прынцыпова і зацікаўлена суадносіць, «сцягвае» ў адзінства наяўны, ужо атрыманы досвед («кніжны» і асабісты) і той, што атрымліваецца падчас чытання, — суадносіць досвед увогуле. Калі такая здольнасць у чытача ёсць, у гіпертэксце твора У. Гніламёдава ён убачыць космас жыцця літаратуры — айчыннай і сусветнай, мінулай і сучаснай. Калі ж здольнасць цэльнай думкі толькі пачынае складвацца, падтрымка ёй забяспечана.

* * *

Пісьменніцкія «прыкідкі» інструктара ЦК У. Гніламёдава навідавоку пачынаючы з 1969 года. Роздум пра лёс аднаго з беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў адзначаны заўвагай: «Жывы герой для цікавага сюжэта, але хто дасць напісаць?..» Нават па інтанацыі гэта зусім не заўвага крытыка або літаратуразнаўцы, які прыкідвае перспектывы літаратуры ўвогуле. Калі ж прагледзець нядаўнія інтэрв'ю ўжо з пісьменнікам У. Гніламёдавым, адчуваеш шчыры жаль гэтых словаў, балючую скаргу на ўціск часу, які не даваў пісаць пра вартае пісьменства.

Такой вартасцю перадусім быў лёс родных, роднай вёскі і краю. У часы звышпаскоранай індустрыялізацыі вёска здавалася амаль прывідам мінулага, зданню, якая хутка знікне, растворыцца ў бягучай без аглядкі гісторыі. За край, славуты край Берасцейшчыны, таксама адчувалася трывога: напаўзабытая гісторыя айчынных славутасцей — урэшце забыты славуты край, нічыйны край, ніякі край. Менавіта такое хваляванне спарадзіла наступны дзённікавы запіс: «Твардоўскі, між іншым, сказаў, што толькі тое застанецца ў гісторыі, што атрымае пацвярджэнне ў літаратуры» (24.12.1971), — словы падтрымкі яшчэ не канчаткова акрэсленай уласнай творчай перспектыве і словы-мандат на яе здзяйсненне.

«Крышталізацыі» творчых імкненняў паспрыяла, здаецца, і памяць пра вайну — памяць уласная і калектыўная, народная. У 1973 г. выйшаў раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», дзе, паміж іншым, ёсць эпізод з пачаткам вайны на Магілёўшчыне. «У нас <на Берасцейшчыне> ўсё было інакш. Нямецкія матацыклісты з'явіліся ў Камянцы... ужо к абеду 22 чэрвеня. Каб калі пра гэта напісаць!» (3.05.1973). У трыццацігоддзе вызвалення Беларусі У. Гніламёдаў занатоўвае ўспаміны пра прыход Савецкай Арміі ў знясілены акупацыяй родны Кругель. «Можа, калі-небудзь пра гэта напішу» (28.03.1974), — абагульненне панарамнага палатна, сапраўды вартага мастацкага ўвасаблення-здзяйснення. У 1975 г. — ізноў пра вайну: «22 чэрвеня. Самы доўгі дзень. У гэты дзень пачалася вайна і разам з ёй маё ваеннае дзяцінства. Можа, калі і раскажу, што тады адбывалася. Я ўпэўнены, што імкненне захаваць уласнае жыццё ў страшэнных абставінах не менш годная і цяжкая справа, чым памерці са зброяй у руках абараняючы іншых. Калі, зразумела, выжываючы чалавек не становіцца нягоднікам, здраднікам, забойцам. <...> Я, па сутнасці, ветэран» (22.06.1975). Адпаведны «малы гераізм» стане лейтматывам рамана «Вайна» («Ліхалецце»), але на шляху да пятага твора сямейнагістарычнай сагі аўтару — з уласцівымі яму паслядоўнасцю, цэльнасцю, развагай — давядзецца стварыць велізарную папярэднюю карціну жыцця сваёй сям'і і аднавяскоўцаў ад 1900 года. Творы-помнікі традыцыйнай беларускасці...

Мяне ўжо даўно хвалявала пытанне: літаратуразнаўца і крытык У. Гніламёдаў займаўся пераважна паэзіяй, напісаў пра яе каля дзясятка кніг і сотні артыкулаў. Як жа тады Гніламёдаў-творца аддаў перавагу прозе? У дзённіку можна знайсці пэўны адказ: «Рамантыкі лічылі, што паэт — гэта вулкан, а паэзія — застылая магма... Проза больш абачлівая, чым паэзія» (25.12.1973). І сапраўды: з пачуцця ўнутранага лірызму калісьці У. Гніламёдаў прысвяціў сябе паэзіі, але, паколькі прызвычаўся «спяшацца не спяшаючыся», «заўсёды разглядаючыся па баках», зрабіў гэта «абачліва» — як навукоўца і крытык. І тыя ж якасці фундуюць яго ўрэшце як стваральніка прозы — буйной, эпічнай, панарамнай.



Жанна НАВІЦКАЯ

***

*Букецік валошак*
*Туга сціснуты стужкай:*
*Як жа ты здагадаўся?*
*Напамінам балючым*
*У самае сэрца —*
*каб яно не счарсцвела!*
*Букецік валошак...*

## Маёй Бабулі

*Выбачай мяне за нядбайнасць,*
*За капрызы мае — выбачай!*
*Вельмі цяжкае развітанне:*
*Неадольны, няўпынны адчай.*
*Абязвечана стратаю сэрца.*
*Уратуе Збавіцель! Бывай...*
*Выбачай, мая Дарагая!*
*Калі здолееш... выбачай...*

***

*Люблю трамвай*
*з яго няспешным рухам.*
*Люблю стары*
*і некрануты Менск.*
*Люблю блукаць*
*ды патаемнасць слухаць*
*Завулкамі, дзе затрымаўся век.*
*Мінаючы варожасць*
*ды цнатлівасць*
*Чужых самапрызначаных багоў,*
*Люблю шукаць чароўныя даліны*
*Паміж душы ўласнай берагоў.*

***

*Заснежаныя сілуэты,*
*Ільсніцца дыяментам снег...*
*Мае тужлівыя санеты*
*Агідны выклікаюць смех.*

*Той свет, што шанаваў паэтаў,*
*У небыцці глыбокім згас.*
*Гламурны глянец, фальш,*
*газеты —*
*Атручаны пагардай час.*

***

*Адзінота...*
*параноіка-крытычная...*
*Ідзе паралельна з вечнасцю;*
*Шалёная, безумоўная —*
*Палохае цяжкай бясспрэчнасцю.*
*Глыбокая, нерухомая,*
*З падманнай усмешкай*
*бяспечнасці:*
*Балючае, невыцерпнае*
*Імгненне, што застыла ў вечнасці.*

***

*Дарэмна шукаю думкі:*
*Знаходжу чырвоную хмару,*
*якая прышыта*
*Чорнымі стужкамі*
*Да шэрага неба;*
*Няпэўнасцю расцягваюцца*
*ўспаміны —*
*Разлажэнне памяці...*
*Калі б не акалічнасць*
*у шэрым небе.*

## Воўк

*Горад шэры*
*Ў смогу здрады*
*Пад дажджамі згас.*
*Ахапіла сэрца помста —*
*Надыходзіць час.*
*Чвэрць гадзіны —*
*Хутка поўня*
*І застаўся доўг.*
*Гэтай ноччу*
*Нема вые*
*Адзінокі Воўк.*
*Цяжкі час*
*Вайны крывавай*
*Ён чакаў шмат год:*
*Змые боль*
*Крывёю чорнай*
*Ці наадварот...*
*Ў гэтым свеце —*
*Слёз і болю —*
*Нечы голас змоўк...*
*Ў вашым свеце заблукаўся*
*Адзінокі Воўк.*



Міхась МАМОНЬКА

## Мірскі замак

*Святло вякоў,*
*Падмурак роднай хаты.*
*Ты сталіш, каб мы жылі,*
*Каб не забылі,*
*Помнілі сябе,*
*Свой край,*
*Свой голас,*
*Што ад Бога ўзяты.*
*У тваім муры*
*Замешаны потам*
*Блакіт нашага неба*
*І рассыпаны па зямлі,*
*Каб цвілі васількі*
*На загонах хлеба,*
*Каб душа шчырэла*
*З дня ў дзень*
*І ніколі не ведала*
*Вайны і гора.*
*Ты — наша малітва*
*І сёння,*
*Як і учора.*

## Не забывай

*Не забывай*
*Сваю старонку,*
*Свой край,*
*Не забывай,*
*Не забывай!*
*Матулі*
*Родную гамонку,*
*Не забывай,*
*Не забывай!*
*Дзе першы раз*
*Нагою стаў.*
*Не забывай,*
*Не забывай!*
*Дзе слова*
*Першае сказаў,*
*Не забывай,*
*Не забывай!*
*Усёй душой*
*Любі*
*Свой край!*
*Не забывай,*
*Не забывай!*



Фота Кастуся Дробава

## Стамлюся — прысяду...

*А стамлюся —*
*Прысяду*
*На ўскрайку зямлі.*
*Пратру*
*Свае вочы расой*
*І вечны блакіт удыхну,*
*Што пахне*
*Вясной маладой.*
*Жыццё маё*
*Полем цвіло,*
*Неба*
*Паіла душу.*
*Я сёння*
*У самым*
*Куточку святым*
*Бога сумленна прашу:*
*Каб старасць*
*Сонцам глядзела,*
*Думкі*
*Свабодай жылі*
*І сэрца*
*У далях не млела,*
*І людзі*
*Са мною былі.*

## Дэбют



Мікіта НАЙДЗЁНАЎ

**Мікіта Найдзёнаў — студэнт 5 курса Інстытута журналістыкі БДУ. Нарадзіўся ў 1990 годзе ў Пінску, скончыў сярэднюю школу № 14. Піша вершы, каламбуры, лімэрыкі. Друкаваўся ў часопісе «Нёман», газеце «Пінскі веснік». У 2006-м перамог у конкурсе маладых паэтаў на «Днях беларускай і шведскай паэзіі». У 2010-м быў занесены ў Кнігу рэкордаў БДУ ў намінацыі «Самы арыгінальны літаратар».**

## ЛіМэрыкі

***

*Вершатворца з далёкай Амерыкі*
*Кожны дзень піша дзіва-лімэрыкі,*
*Толькі «Таймс» не друкуе.*
*Кажуць: «Хлопча дуркуе»,*
*Ветрагонца з далёкай Амерыкі.*

***

*Баяніст Аляксандр з-пад Буда-*
*Кашалёва буяніць: «Не буду*
*Сядзець дома і пешшу*
*Пайду да Будапешта».*
*Толькі ён такі круглы, як Буда.*

***

*А дзяўчына Наталька*
*з-пад Мінска*
*Ўсім казала, што смерць яе блізка.*
*А пасля ўсім на дзіва*
*Хлапчука нарадзіла,*
*Фантазёрка Наталька*
*з-пад Мінска.*

***

*Ну а Зміцер Занеўскі з Гародні*
*Прызямляўся туды, дзе свабодней.*
*І надыбаў прапіску*
*Не абы-дзе, а ў Мінску.*
*Гэты Зміцер Занеўскі з Гародні.*

***

*А мастачка Надзін з Маладзечна*
*Выкідала на зэдлік ячэню*
*І казала з дакорам:*
*«Так было ў Сальвадора», —*
*А цяпер і ў Надзін з Маладзечна.*

***

*Хлопец Валік, што was born in*
*Кобрын,*
*Геаграфію ведае добра.*
*У любую краіну*
*Ездзіў ён аўтаспынам,*
*Нат туды, дзе кусаюцца кобры...*

***

*Музыкант містар Джоні з Тэхаса*
*Больш за музыку любіць каўбасы,*
*А пасля плача горка,*
*Што тлусцее рок-зорка,*
*Музыкант містар Джоні з Тэхаса.*

***

*А Мікіта ці з Мінска, ці з Пінска*
*Піша вершыкі, нібы запіскі.*
*Хай бы ткаў ён кілімы,*
*Не — друкуецца ў «ЛіМе».*
*Той Мікіта ці з Пінска, ці з Мінска.*

*Выдавецкія клопаты*

# Ніхто, акрамя нас



Напрыканцы года прынята падводзіць вынікі. І не толькі таму, што трэба даваць афіцыйныя справаздачы, але і каб вызначыць самыя яркія моманты года, знайсці пралікі, а таксама акрэсліць планы і перспектывы развіцця. Пра тое, якім стаў 2012 год для выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» — аднаго з самых крэатыўных, прэстыжных і паспяховых у краіне, — наша гутарка з галоўным рэдактарам гэтай установы Ларысай Языковіч.

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава**

**— Ларыса Уладзіміраўна, які быў гэты год для выдавецтва?**

— Як і ўсе папярэднія, 2012-ы быў для нас вельмі складаны, мы прынялі няпростыя планы і імкнёмся іх выканаць. У цэлым жа вынікі добрыя: за бягучы год у «БелЭн» пабачыла свет больш як 60 кніг. Для выдавецтва нашага профілю гэта вельмі добры паказчык. Галоўны прыярытэт нашай дзейнасці — падрыхтоўка энцыклапедычнай літаратуры, знакавых кніг, фотаальбомаў, а таксама кніг для дзяцей. Такія выданні хутка не робяцца. Праекты, якія мы планавалі на гэты год, ужо рэалізаваныя. У прыватнасці, выйшла 3-я кніга 8-га тома энцыклапедыі «Гарады і вёскі Беларусі. Мінская вобласць», праз некалькі дзён з друкарні забіраем трэці том энцыклапедыі «Культура Беларусі»; 4-ы том «Энциклопедии для школьников и студентов» — «Мир техники» — таксама ўжо ў працы, і да канца года мы яго атрымаем.

Апроч гэтага сёлета мы працягвалі серыю «Маленький профессор», у якой выйшла ўжо больш як 20 кніг. Спачатку на іх глядзелі з сумненнем, бо шмат падобных праектаў існуе і ў айчынных, і ў расійскіх выдавецтвах, але цяпер мы бачым, што яны карыстаюцца вялікім попытам. Распачалі і серыю папулярных і недарагіх кніг «В гостях у сказки». Гэта беларускія, рускія казкі, цяпер рыхтуюцца да выдання кнігі казахскіх, грузінскіх, нават казак народаў Венесуэлы. Сёлета паспрабавалі выдаваць дзіцячую літаратуру на англійскай мове. І гэты праект таксама апынуўся паспяховым.

Яшчэ адно выданне, якое таксама чакаем з дня на дзень, — «Ваньковічы», гэтай кнігай мы адкрываем новую серыю «Беларускі радавод». Гэты род палякі лічаць сваім, а беларусы — сваім. Прадстаўнікі роду займалі высокія пасады ў адміністрацыі Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, выбіраліся ў органы шляхецкага самакіравання Расійскай імперыі. Яго яркімі прадстаўнікамі з'яўляюцца мастак Валенцій Ваньковіч, пісьменнік і журналіст Мельхіёр Ваньковіч, грамадскі дзеяч Эдвард Ваньковіч. Вялікая кніга аб'ёмам каля 500 старонак, якую мы рабілі разам з Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі, будзе змяшчаць фотакопіі мастацкіх работ В. Ваньковіча (дарэчы, ніводнай з іх няма ў Беларусі), пераклад з польскай мовы на беларускую твора М. Ваньковіча «Шчанячыя гады». Таксама прапануецца інфармацыя пра герб «Ліс», якім карысталіся прадстаўнікі роду, радаводнае дрэва Ваньковічаў і даведнік па музеі Ваньковічаў у Мінску. Адметна і тое, што ў кнізе будуць апублікаваны дакументы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, прысвечаныя Ваньковічам. Прадстаўнікі роду, якія жывуць цяпер у Польшчы і ЗША, наш праект ацанілі станоўча і хацелі б прыехаць на прэзентацыю выдання. Магчыма, наступнай у серыі «Беларускі радавод» стане кніга, прысвечаная яшчэ аднаму знакамітаму роду, вядомаму і ў Беларусі, і ў Расіі, — Святаполк-Мірскім.

**— Сярод асабліва паспяховых праектаў выдавецтва можна назваць серыю «Энцыклапедыя рарытэтаў», якая прынесла вам ужо не адно Гран-пры конкурсаў «Мастацтва кнігі», як Нацыянальнага, так і міжнароднага. Ці пабачым мы новыя кнігі, што прыадкрыюць невядомыя старонкі гісторыі і вернуць нашу страчаную спадчыну?**

— Так, у гэтай серыі таксама хутка пабачаць свет некалькі выданняў. Напрыклад, «Кніжная культура Веткі», прысвечаная даследаванню старадрукаў і рукапісных кніг XVI — пачатку XX ст., што знаходзяцца ў калекцыі Веткаўскага музея народнай творчасці. А гэта больш як 500 адзінак захоўвання. Кніга будзе выканана ў той жа стылістыцы, што і выданне «Жывая вера — Ветка», прысвечанае веткаўскай стараверскай іконе.

Спадзяёмся, ужо ў канцы года пабачым у продажы яшчэ адну кнігу гэтай серыі — «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911 — 1912 гадоў». Ісак Сербаў — этнограф, гісторык, археолаг, яшчэ да Першай сусветнай вайны па даручэнні Рускага геаграфічнага таварыства праехаў па тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі і, выкарыстоўваючы адзін з першых фотаапаратаў «Кодак», зрабіў больш як 400 здымкаў жыхароў нашага краю. Сёння яны захоўваюцца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта. Некаторыя матэрыялы з калекцыі раней ужо публікаваліся, але ў такім поўным аб'ёме яе яшчэ ніхто не бачыў. І сёння вельмі цікава паглядзець, якімі былі беларусы ў натуральных праявах свайго жыцця 100 год таму. Аўтар уступнага слова каментарыяў — вядомая даследчыца Вольга Лабачэўская. У выданне таксама ўключаны падарожныя нататкі І. Сербава. Адметна і тое, што ў кнізе захоўваюцца арыгінальныя подпісы да здымкаў, яны падаюцца на трох мовах — беларускай, англійскай і літоўскай.

**— Якімі з гэтых праектаў вы самі ганарыцеся?**

— Як энцыклапедыст магу ганарыцца энцыклапедыямі, бо акрамя нас іх ніхто не зробіць і так, як мы, ніхто не зробіць. Кажуць, што цяпер толькі гультай не піша энцыклапедый, я ж лічу, што паўнавартасную энцыклапедыю, якая была б поўнай і змяшчала правераную інфармацыю, зрабіць вельмі складана. У кожнай з іх столькі працы! Мне вельмі падабаецца наша серыя «Энцыклапедыя рарытэтаў», энцыклапедыя «Культура Беларусі» — таксама ўнікальная, знакавая, яна прадстаўляе шырокі зрэз беларускай культуры. У кожнай кнізе — часцінка душы.

**— Што чакае прыхільнікаў выдавецтва ў наступным годзе? Якія сюрпрызы вы для іх рыхтуеце?**

— Ужо ў студзені выйдзе новая кніга серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў», над ёй мы працуем сумесна з кіраўніцтвам Масквы, надрукавана яна будзе таксама ў Маскве. Гэта выданне «Беларуская Масква. XVI ст.». Яно прысвечана ўплыву выхадцаў з беларускіх зямель на фарміраванне культурнага аблічча расійскай сталіцы і развіццё рускай культуры ў цэлым. На наступны год запланаваны працяг нашых шматтомных выданняў. Гэта 4-ы том энцыклапедыі «Культура Беларусі», працяг выдання «Гарады і вёскі Беларусі». Пабачыць свет і новая кніга «Энциклопедии для школьников и студентов» — «История Беларуси», плануем завяршыць выданне трохтомнай энцыклапедыі «Прырода Беларусі». Гэтыя кнігі ў планах, але я думаю, што цягам года ўзнікнуць новыя цікавыя праекты, якія, безумоўна, парадуюць нашых чытачоў.

*З нагоды*

# Толькі слова — вечнае

Серыя вялікіх калядных спатканняў з кнігай распачалася. Так, у краме № 13 РУП «Белсаюздрук» прайшла сустрэча з вядомай пісьменніцай, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы Раісай Баравіковай.

**Юзэфа ВОЎК**

Раіса Андрэеўна — выступовец вельмі энергічны і харызматычны. Таму нават выпадковыя наведвальнікі крамы станавіліся невыпадковымі слухачамі. Яны зачароўваліся вершамі, гарталі кнігі аўтаркі, што яшчэ раней пабачылі свет у РВУ «Літаратура і Мастацтва», з цікавасцю прыслухоўваліся да разважанняў пісьменніцы — пра літаратуру і вечнасць:

— Паэзія і проза, драматургія — тыя рэчы, якія практычна вечныя. Усё сыходзіць з Зямлі: сыходзяць у нябыт людзі, разбураюцца заводы і фабрыкі, аджываюць свой век камп'ютары, застанецца вечным толькі Слова, толькі літаратура. Пры тым слова можа суцешыць, супакоіць, натхніць, парадзіць. І наадварот — выклікаць буру эмоцый і адкрыць мноства таямніц.

Раіса Баравікова сваім сталым і патэнцыяльным чытачам распавяла таксама пра новую аповесць, над якой працуе цяпер. Гэты твор будзе рэалістычна-містычна-фантастычным. Аўтарка нават вынаходзіць новы жанр, яна сцвярджае: «Як у паэзіі Алеся Разанава ёсць квантэмы, так у мяне — ХЦМы: хвалі цёмнай матэрыі». Справа ў тым, што ў космасе існуе толькі 10 працэнтаў нармальнай матэрыі, са станоўчай энергетыкай, якая ўздзейнічае на ўсе галактыкі, астатнія 90 працэнтаў — цёмная матэрыя. І нам не вядома, як яна ўплывае на лёс планет і чалавека. Дык вось Раіса Андрэеўна сваім пісьменніцкім правідэнцыяналізмам спрабуе прадбачыць, як гэтая загадкавая цёмная матэрыя можа ўздзейнічаць на лёсы чалавека і іншых жывых істот, нават планеты.

*Прэзентацыя*

# У Капыль, да Гартнага

Адкрыццё выстаўкі «Цішка Гартны. Пясняр працы і змагання» адбылося ў Капыльскім раённым краязнаўчым музеі.

**Чэслава ПАЛУЯН**

Гэтая экспазіцыя арганізавана на радзіме пісьменніка з нагоды яго 125-гадовага юбілею, а ў якасці яе ініцыятара і непасрэднага выканаўцы задумы выступіў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Тут прадстаўлены прадметы як з уласных фондаў музея, так і з Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Нацыянальнай бібліятэкі краіны і Нацыянальнага архіва Беларусі.

Усім вядома, што пра пісьменніка лепш за ўсё распавядаюць яго творы. Менавіта праз іх — у радках ці паміж радкоў — можна пазнаёміцца бліжэй з асобай аўтара. Але часам толькі твораў ці не дастаткова, ці ў іх люстэрку вобраз пісьменніка бачыцца вельмі цьмяна. У такім выпадку на дапамогу прыходзяць асабістыя рэчы аўтара, рукапісы, фотаздымкі. Менавіта такія прадметы, звязаныя з жыццём і творчай працай Змітрака Жылуновіча, прадстаўлены на выстаўцы ў Капылі. Сярод іх асабліва каштоўныя — працоўны спіс Зм. Жылуновіча, які дае магчымасць уявіць складаны шлях станаўлення яго як асобы: ад гарбара да старшыні Часовага рэвалюцыйнага ўрада Савецкай Беларусі; рукапіс рамана «Сокі цаліны», кнігі вершаў «Песні працы і змагання». У самым цэнтры выстаўкі — бюст Змітрака Жылуновіча (аўтар Заір Азгур), а таксама партрэт пісьменніка (аўтар Аляксандр Пуцейка). Экспазіцыю ўпрыгожваюць малюнкі Сяргея Сергачова і ілюстрацыі Барыса Праказава.

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Екатерина СИМАН

# Место для души

В волшебные дни зимних праздников даже мне, маркетологу, не хочется говорить о книге как о товаре. Да в принципе, никогда и не хотелось. Один знакомый издатель из Германии любит повторять: “Мы, книжники, продаём овеществлённые эмоции”. В этом, наверное, и состоит наша основная задача. Давать людям ту радость, за которой они обращаются к книгам. Прибыль в некотором роде вторична, как бы крамольно это сейчас ни прозвучало. Она “придёт” сама, со временем. Стоит только людям дать понять, что книжный магазин — это действительно место для души. Место, где их всегда с радостью ждут.

Хотелось бы рассказать одну историю о немецком книжном магазине. Знаю, многие сейчас не согласятся со мной, недоверчиво подняв бровь. Но давайте будем всё же стремиться к совершенству.

Довелось мне однажды побеседовать с г-жой Сабет Вильмар, владелицей книжного магазина “Georg Buchner” в Берлине. Магазин находится в тихом районе, отнюдь не в центре. В нём, тем не менее, есть свой круг постоянных покупателей и каждый день в среднем совершается около ста покупок. А сколько при этом людей просто заходят в магазин, чтобы сделать выбор позднее? В Германии бесспорно надёжную защиту мелким книготорговцам обеспечивает фиксированная цена на книгу. Но это отнюдь не гарантия привлечения клиентов. Как иначе объяснить вот такой любопытный факт. Многие частные небольшие книжные магазины закрываются, но не исчезают. Такие “малыши” от книготорговли борются за своё выживание с крупными сетями и, можно даже сказать, побеждают. Особенно в вопросе формирования духовности нации. Ведь только в маленьких магазинчиках с вами сколь угодно долго побеседуют о тенденциях в современной поэзии или творческом наследии Генриха Клейста. В таком подходе и кроется простое объяснение наличию немалого числа постоянных покупателей в маленьких книжных магазинах. Во-первых, сотрудники прекрасно ориентируются в океане новинок и переизданий. А во-вторых, всем, кто приходит в магазин, уделяется максимум внимания. Индивидуальный подход к клиентам — главный козырь в конкурентной борьбе с книжными супермаркетами. Ведь люди хотят получить как можно больше информации о книге, которую собираются приобрести, об изданиях на интересующую их тему. Поэтому г-жа Вильмар призналась, что вынуждена сама очень много читать. Но делает это с огромным удовольствием. Возможно, именно в таком духовном подходе к организации книготорговли и кроется успех немецких книжников?

Изволите ещё один пример с берегов рек Шпрее и Хафель. В центре Берлина находится книжная Мекка немецкой столицы — медиа-супермаркет “Kulturkaufhaus Dussmann”. Руководство магазина принципиально не открывает сеть, сохраняя свою уникальность и неповторимость, удачно дополняя лицо Берлина как культурного города. Этот книжный рай — всего лишь одно из подразделений крупной группы, занимающейся обслуживанием жилых и офисных зданий. И в этом есть логика. Одни подразделения компании обслуживают ваш дом, а “Kulturkaufhaus Dussmann” — вашу душу и разум. И пусть вы ничего не купите, а проведёте в магазине целый день со стопкой книг, пытаясь остановить свой выбор хотя бы на нескольких из них, а не на всех сразу. Вы в любом случае клиент, и клиент уважаемый. Потому как читающие посетители создают особый дух, особый настрой.

Вот так, по крупицам, и создаётся коммерческий успех. Поэтому хочу пожелать вам, дорогие коллеги, как можно больше умных посетителей со светлой душой!

## З пошты «ЛіМа»

# История: версия Голденкова

В Минске в 2008 — 2011 гг. выдержали по 4 издания книги Михаила Голденкова «Русь — другая история» (далее сокр.: РДИ) и «Утраченная Русь: забытая Литва, неизвестная Московия, запрещённая Беларусь» (далее: УР). В них столько всего!

Анатолий ИВАНЧЕНКО

Вот, к примеру, такой радикальный тезис: «Не было никакого монгольского нашествия» (РДИ, 2008, с. 192). Лев Гумилёв усомнился, что было татаро-монгольское иго: нашествие было, но последствия оно имело скорее позитивные, чем негативные. А как это — нашествия вообще не было? Что же было? Ответа у М. Голденкова я не нашёл. А когда искал, обнаружил, что автор плавает в истории.

Из главы «Униатство Беларуси» (УР, 2009, с. 331): «В 1418 г. во главе большой делегации Григорий Цамблак направился в Констанцу, где должен был произойти XVI Вселенский собор католической церкви. Цель визита… добиться… союза между католической и православной церквями… Цамблак призывал к восстановлению былого единства христиан. Он предлагал созвать специальный собор о вере…

М. Голденков спутал немецкий город Констанц (на Рейне, близ Боденского озера, из которого Рейн вытекает), где состоялся XVI Вселенский католический собор и были сожжены осуждённые им Ян Гус (1415 г.) и его сподвижник Иероним Пражский (1416 г.), и находившуюся тогда под османским игом Констанцу на Чёрном море. В начале нашей эры в Томах, как тогда называлась Констанца, умер римский поэт Овидий, сосланный туда императором Августом, за дочерью которого поэт приударил. А в июне 1905 г. в уже румынскую Констанцу пришёл мятежный броненосец «Потёмкин», экипаж которого здесь интернировали. Зная эти факты, не спутаешь Констанц с Констанцей.

Прочесть пародию полезно и потому, что из неё узнаешь: цель Констанцского собора — устранить раскол католицизма, а не христианства вообще, как можно подумать, читая М. Голденкова.

По М. Голденкову, в 1418 г. Цамблак поехал в Констанц, где «должен был произойти» Собор, т. е. выехал перед его открытием. Не знает автор: Констанцский собор начался годами раньше (5.11.1414 г.), а в 1418 г. (22.04) он закончился, т. е. Цамблак поехал на Собор перед его завершением. Наконец, назвав своего героя «первым автором» модели возврата к былому единству христианства, М. Голденков не знал, что за полтора века до Цамблака, в 1274 г., такая модель была реализована в Лионской унии. Правда, уже в 1285 г. Константинопольский собор отверг её. Подобные унии не были равноправным союзом церквей. Во главе унии всегда был папа римский. Рим резонно видел в подчинении ему православных, принятии ими католических догматов обращение их в католицизм. Константинополь шёл на явно неравный союз, рассчитывая на помощь Рима в борьбе с мусульманскими завоевателями — сельджуками, турками.

А начинается глава «Униатство Беларуси» так: «Люди… привыкли к мнению, что униаты — это какие-то неправильные православные… потому, что вступили в унию с Папой римским, признали его главным христианским священником. Так считал и я, пока не решил копнуть поглубже. Так что же в униатстве такого неправильного? Да ровным счётом ничего, кроме того, что неправильным его считали священники в Москве, которые удивительным образом решили, что именно им должны подчиняться все православные…» (УР, с. 326). Всегда готов присоединиться к осуждению великодержавных поползновений московских деятелей, от средневековых священников до нынешних олигархов. Но М. Голденков «удивительным образом» решил, что православные белорусы в условиях борьбы за их души между католичеством с запада и православием с востока безоговорочно должны были отказаться от одной религии в пользу другой. Польский историк Ян Ковальский пишет в своём справочнике «Папы и папство» (Москва, 1991, с. 192): «…Брестская уния — суррогат объединения обеих ветвей христианства — восточной и западной. Она не оправдала надежд, которые возлагал на неё папа, рассчитывая на обращение в католичество всей Руси».

«Я не зря так подробно осветил процесс принятия униатства в ВКЛ, — пишет М. Голденков. — Да, он был неоднозначен, но как он отличался от таких же процессов в других государствах... Не было бунтов и казней…» (УР, с. 345). Не было? А слышал ли автор об Иосафате Кунцевиче — одном из тех, кто рьяно насаждал униатство? Он закрывал православные храмы, священники которых не приняли унию, или назначал вместо них униатов, запрещал хоронить умерших, при жизни не принявших унию, а если их всё же хоронили, приказывал эксгумировать трупы и бросать их собакам. В 1618 г., когда Кунцевич направлялся в Могилёв закрывать церкви или передавать их униатам, горожане заперли перед ним городские ворота, угрожая униату стрелять по нему из пушки при его попытке проникнуть в город. Кунцевич поехал к королю и вернулся с его универсалом, согласно которому 20 зачинщиков волнений были казнены. В 1623 г. жители Витебска, протестуя против жёсткого насаждения униатства, сожгли дом Кунцевича, а его убили. За это 19 человек казнили, а 78 осудили на смерть заочно, — всего 97 смертных приговоров.

О войне России с Речью Посполитой (1654 — 1667): «…погибло, бежало либо попало в плен 1 400 000 человек из 2 900 000 жителей ВКЛ (половина!)… чудовищные цифры: страна потеряла каждого второго жителя! Мы по сей день оплакиваем каждого третьего… погибшего в войне с фашистской Германией, а тут каждый второй…» (РДИ, с. 230). На с. 297 «РДИ» в той же войне население ВКЛ сократилось уже на 1,5 млн. человек, а не на 1,4 млн., как на с. 230. В изданной годом позже «УР» потери в той же войне выросли уже на многие сотни тысяч! «В результате этой кровопролитной войны ВКЛ потеряло 2 900 000 жителей убитыми, около 1 500 000 человек пленными и бежавшими из страны!.. Ужас, которого Беларусь не знала ни до, ни после» (с. 156). О той же войне России с Речью Посполитой написано (РДИ, с. 258): «В отличие от гитлеровцев московский царь уничтожил не 650, а несколько тысяч населённых пунктов…» На деле немцы разрушили или сожгли в БССР 9409 населённых пунктов, причём 619 деревень сожгли вместе с жителями.

В книгах М. Голденкова — ошибки из самых разных областей. Якобы в фильме «Я, Франциск Скорина» главную роль сыграл «Владимир Янковский» (РДИ, с. 173). Не знать Олега Янковского! А что за «московский гетман Иван Золоторенко» (РДИ, с. 258)? Не было такого! Был Иван Золотаренко, «паплечнік Б. Хмяльніцкага. Нежынскі палкоўнік» (БелЭн. Т. 6. С. 508). В Москве гетманов не было (были в ВКЛ, Польше, Чехии, Украине, Молдавии). Ощущение такое, что автор сэкономил на корректорах, что нежелательно, особенно в изданиях для школьников, для которых «Современная школа» в основном и выпустила эти книги.

# Літаратурныя масты сяброўства

Першая публікацыя з'яўляецца надзвычай важнай для маладога аўтара. Часам яна адкрывае новае імя ў літаратуры, дапамагае літаратару-пачаткоўцу зрабіць першы крок да чытача. Гэта ж мае на мэце і расійска-беларускі конкурс «Мост Дружбы», заснаваны Пастаянным Камітэтам Саюзнай дзяржавы. Арганізацыйную падтрымку аказалі Асацыяцыя «Пазнаём Еўразію», Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага, выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі». На конкурс паступіла 103 творы з абедзвюх краін (73 з расійскага і 30 з беларускага боку).

Кіра МУРАЎСКАЯ

Якасць твораў ацэньваў экспертны савет у складзе прэс-сакратара Дзяржаўнага сакратара Алены Аўчарэнкі; рэктара Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага, прафесара Барыса Тарасава; галоўнага рэдактара часопіса «Проза» і «Вестник детской литературы» Аляксандра Торапцава; шэф-рэдактара дадатку «ЛАД» пры «Литературной газете» Алеся Кажадуба; галоўнага рэдактара часопіса «Нёман» Алеся Бадака; прафесара БДУ Анатоля Андрэева; галоўнага рэдактара газеты «ЛіМ» Таццяны Сівец. У выніку былі абраныя па пяць фіналістаў з кожнага боку, а ў кожнай пяцёрцы вызначаны свой пераможца. Сярод беларускіх аўтараў найлепшымі сталі Маргарыта Латышкевіч, Дар'я Вашкевіч, Вольга Чаркас і Мікалай Андрэеў. Першае месца заняла Алена Беланожка. Сярод расійскіх аўтараў пераможцамі названы Таццяна Трафімава, Георгій Фамін, Маргарыта Каткова (Урчава) і Аляксандр Масквін, першынство ў Сяргея Лагодзіна.

Папярэдне ўзнагароджанне прызначана на 2 красавіка і мусіць адбыцца ў Мінску. Пакуль жа творы лаўрэатаў рыхтуюцца да друку ў часопісах «Союзное государство», «Нёман», «Маладосць», на старонках «ЛіМа» і «ЛАДа».

Між іншым, усе члены экспертнага савета высока ацанілі ўзровень твораў беларускіх аўтараў і выказалі спадзяванне, што наступным разам яшчэ больш нашых суайчыннікаў возьмуць удзел у конкурсе, які будуе сапраўдныя масты сяброўства паміж краінамі.

### Неарганічная хімія

**Неорганическая химия: весь школьный курс в таблицах** / [составитель Манкевич Нина Владимировна]. — 7-е изд. — Минск: Букмастер: Кузьма, 2012. — 415 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-261-1 (Букмастер). — ISBN 978-985-453-550-0 (Кузьма).

**Основные классы неорганических соединений: номенклатура, классификация, свойства и способы получения:** учебно-методическое пособие для студентов учреждений высшего образования по химическим специальностям / [И. Е. Малашонок и др.]; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2012. — 97 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-530-166-1.

Sviridov readings, 2012: 6th International conference on chemistry and chemical education, Minsk, Belarus, 9–13 April, 2012: book of abstracts / [editorial board: E. I. Vasilevskaya et al.]. — Minsk: Publishing Center of BSU, 2012. — 107 с. — На англійскай мове. — 220 экз. — ISBN 978-985-553-002-3.
Свірыдаўскія чытанні, 2012.

### Арганічная хімія

**Кузьменок, Н. М.** Органическая химия: учебно-методическое пособие для студентов учреждений высшего образования по специальности 1-36 07 01 «Машины и аппараты химических производств и предприятий строительных материалов» / Н. М. Кузьменок, С. Г. Михаленок, Т. А. Ковальчук; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2012. — 75 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-530-181-4.

**Органическая химия: весь школьный курс в таблицах** / [составители: С. А. Литвинова, Н. В. Манкевич]. — 6-е изд. — Минск: Букмастер: Кузьма, 2012. — 383 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-305-2 (Букмастер). — ISBN 978-985-453-579-1 (Кузьма).

### Прыкладная геалогія і геафізіка. Геалагічныя метады пошукаў і разведкі

**Захаров, А. В.** Промысловая геофизика: курс лекций по одноименной дисциплине для студентов специальности 1-51 02 02 «Разработка и эксплуатация нефтяных и газовых месторождений» дневной и заочной форм обучения / А. В. Захаров, С. В. Козырева, Г. В. Пименов; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный технический университет им. П. О. Сухого, Кафедра «Разработка и эксплуатация нефтяных месторождений и транспорт нефти». — Гомель: ГГТУ, 2012. — 55 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-535-075-1.

### Агульная геалогія. Палеагеаграфія

Логинов, В. Ф. Экстремальные климатические явления: пространственно-временные закономерности их изменений и предпосылки прогнозирования / В. Ф. Логинов, Ю. А. Бровка; Национальная академия наук Беларуси, Государственное научное учреждение «Институт природопользования». — Минск: Бел НИЦ. — 130 с. — 56 экз. — ISBN 978-985-6542-82-7.

### Петраграфія

**Аксаментова, Н. В.** Петрография и геохимия кристаллического фундамента Беларуси / Н. В. Аксаментова, А. А. Толкачикова; [научный редактор А. А. Махнач]; Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь, Департамент по геологии, Республиканское унитарное предприятие «Белорусский научно-исследовательский геологоразведочный институт». — Минск: Экономпресс, 2012. — 231 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6479-65-9.

### Эканамічная геалогія. Радовішчы карысных выкапняў

**Конищев, В. С.** Критерии и перспективы нефтегазоносности осадочных бассейнов Беларуси / В. С. Конищев; [научный редактор Р. Г. Гарецкий]; Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь, Департамент по геологии, Республиканское унитарное предприятие «Белорусский научно-исследовательский геологоразведочный институт». — Минск: Экономпресс, 2012. — 162 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7051-03-8.

### Біялагічныя навукі ў цэлым

**Биология: весь школьный курс в таблицах** / [составитель Елкина Лариса Владимировна]. — 6-е изд. — Минск: Букмастер: Кузьма, 2012. — 416 с. — 10050 экз. — ISBN 978-985-549-257-4 (Букмастер). — ISBN 978-985-453-546-3 (Кузьма).

**Камлюк, Л. В.** Биология: 7-й класс: ответы на вопросы учебного пособия «Биология. 7 класс» под редакцией В. Н. Тихомирова / Л. В. Камлюк. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 94 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-560-104-4.

**Лісаў, М. Д.** Сшытак для лабараторных і практычных работ па біялогіі для 10 класа: дадатак да вучэбнага дапаможніка «Біялогія» для 10-га класа (пад рэдакцыяй М. Д. Лісава): дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання / М. Д. Лісаў, З. І. Шэлег. — 6-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 47 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-856-5.

**Лисов, Н. Д.** Тетрадь для лабораторных работ по биологии для 8 класса: приложение к учебному пособию «Биология» для 8-го класса (авторы: Л. В. Камлюк, Е. С. Шалапенок): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / Н. Д. Лисов, З. И. Шелег. — 8-е изд., дополненное. — Минск: Аверсэв, 2012. — 30 с. — 20000 экз. — ISBN 978-985-19-0078-3.

**Машчанка, М. В.** Сшытак для лабараторных работ і практычных заданняў па біялогіі для 9 класа: дадатак да вучэбнага дапаможніка «Біялогія» для 9-га класа (аўтары: М. В. Машчанка, А. Л. Барысаў) / М. В. Машчанка, А. Л. Барысаў, А. А. Анціпенка. — 4-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 112 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-855-8.

**Основы биологии:** курс лекций / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра географии; [автор-составитель: С. В. Чубаро]. — Витебск: ВГУ, 2012–
Ч. 1. — 2012. — 50 с. — 55 экз.
Ч. 2. — 2012. — 47 с. — 55 экз.

**Саваневский, Н. К.** Биология: пособие для учащихся и абитуриентов / Н. К. Саваневский, Е. Н. Саваневская, Г. Е. Хомич; под редакцией Н. К. Саваневского. — Минск: Новое знание, 2012. — 703 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-475-530-4.

**Саваневский, Н. К.** Общая биология: тестовые задания для подготовки к централизованному тестированию / Н. К. Саваневский, Г. Е. Хомич; под редакцией Н. К. Саваневского. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Новое знание, 2012. — 575 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-475-528-1.

**Тихомиров, В. Н.** Рабочая тетрадь по биологии для 7 класса: приложение к учебному пособию «Биология» для 7-го класса (под редакцией В. Н. Тихомирова): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. Н. Тихомиров, Л. М. Вараксина. — Минск: Аверсэв, 2012. — 128 с. — 18000 экз. — ISBN 978-985-19-0189-6.

**Хруцкая, Т. В.** Рабочая тетрадь по биологии для 11 класса: приложение к учебному пособию «Биология» для 11-го класса (авторы: С. С. Маглыш, А. Е. Каревский) / Т. В. Хруцкая. — 2-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2012. — 127 с. — 6100 экз. — ISBN 978-985-19-0366-1.

**Хруцкая, Т. В.** Сшытак для лабараторных і практычных работ па біялогіі для 7 класа: дадатак да вучэбнага дапаможніка «Біялогія» для 7-га класа (пад рэдакцыяй В. М. Ціхамірава): дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання / Т. В. Хруцкая. — 6-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 48 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-19-0393-7.

**Хруцкая, Т. В.** Сшытак для лабараторных і практычных работ па біялогіі для 11 класа: дадатак да вучэбнага дапаможніка "Біялогія" для 11-га класа (аўтары: С. С. Маглыш, А. Я. Карэўскі) / Т. В. Хруцкая. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 27 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-857-2.

**Хруцкая, Т. В.** Тетрадь для лабораторных и практических работ по биологии для 11 класса: приложение к учебному пособию «Биология» для 11-го класса (авторы: С. С. Маглыш, А. Е. Каревский) / Т. В. Хруцкая. — 2-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2012. — 29 с. — 9100 экз. — ISBN 978-985-19-0367-8.

### Антрапалогія

**Актуальные вопросы антропологии:** сборник научных трудов / Национальная академия наук Беларуси, Институт истории; [редколлегия: Л. И. Тегако (гл. ред.) и др.]. — Минск, 2006– — ISSN 2221-5204.
Вып. 7 / [составители: Н. И. Полина, Н. Н. Помазанов]. — Беларуская навука, 2012. — 490 с. — Часть текста на английском языке. — 120 экз.

### Матэрыяльныя асновы жыцця

**Молекулярные, мембранные и клеточные основы функционирования биосистем:** международная научная конференция, Десятый съезд Белорусского общественного объединения фотобиологов и биофизиков, 19–21 июня 2012 г., Минск, Беларусь: сборник статей : в 2 ч. / [редколлегия: И. Д. Волотовский и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2012. — Часть текста на английском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-553-026-9.
Ч. 1. — 422 с. — ISBN 978-985-553-027-6.
Ч. 2. — 311 с. — ISBN 978-985-533-028-3.

### Батаніка

**Баранаў, М. І.** Фізіялогія раслін з асновамі мікрабіялогіі: дапаможнік да лабараторных заняткаў для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па спецыяльнасцях 1-75 01 01 «Лясная гаспадарка», 1-75 02 01 «Садова-паркавае будаўніцтва» / М. І. Баранаў, М. П. Каўбаса; Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт. — Мінск: БДТУ, 2012. — 101 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-530-156-2.

**Сапегін, Л. М.** Батаніка. Сістэматыка вышэйшых раслін: вучэбны дапаможнік для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па біялагічных спецыяльнасцях / Л. М. Сапегін; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Францыска Скарыны. — 2-е выд., перапрацаванае і дапоўненае. — Гомель: ГДУ, 2012. — 337 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-439-644-6.

**Центральный ботанический сад НАН Беларуси:** сохранение, изучение и использование биоразнообразия мировой флоры / [Титок В. В. и др.; под редакцией В. В. Титка, В. Н. Решетникова]; Национальная академия наук Беларуси, Центральный ботанический сад. — Минск: Беларуская навука, 2012. — 344 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1430-2 (в пер.).

**Шуканов, В. П.** Гормональная активность стероидных гликозидов растений / В. П. Шуканов, А. П. Волынец, С. Н. Полянская; Национальная академия наук Беларуси, Институт экспериментальной ботаники им. В. Ф. Купревича. — Минск: Беларуская навука, 2012. — 243 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-08-1432-6.

### Заалогія

**Гончаренко, Г. Г.** Животный мир Беларуси: рыбные ресурсы Беларуси: практическое руководство / Г. Г. Гончаренко, Д. В. Потапов; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины. — Гомель: ГГУ, 2012. — 46 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-439-657-6.

**Методические указания по отлову, обездвиживанию, мечению и отбору биологического материала от зубров** / Республиканское унитарное предприятие «Институт экспериментальной ветеринарии им. С. Н. Вышелесского», Государственное природоохранное учреждение «Беловежская пуща». — Минск, 2012. — 19 с. — 50 экз.

**Цинкевич, В. А.** Основы зоологии: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по специальности «География. Экскурсионно-краеведческая работа», «География. Охрана природы» / В. А. Цинкевич, Е. И. Быкова. — Минск: Беларусь, 2012. — 302 с. — 800 экз. — ISBN 978-985-01-0969-9 (в пер.).

## ПРЫКЛАДНЫЯ НАВУКІ. МЕДЫЦЫНА. ТЭХНАЛОГІЯ

### Медыцынскія навукі

**Борщевская, Е. В.** Медицинская подготовка: 11-й класс: тетрадь для практических работ: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / Е. В. Борщевская. — 5-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 91 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-19-0347-0.

**Крестьянинова, Т. Ю.** Спортивная медицина: методические указания к выполнению лабораторных работ / Т. Ю. Крестьянинова, Ю. В. Гапоненок; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра лечебной физкультуры и спортивной медицины. — Витебск: ВГУ, 2012. — 49 с. — 50 экз.

**Медико-социальная экология личности: состояние и перспективы:** материалы X Международной конференции, 6–7 апреля 2012 г., Минск / [редколлегия: В. А. Прокашева (отв. ред.) и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2012. — 487 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 200 экз. — ISBN 978-985-476-998-1.

### Анатомія

**Анатомия человека: болезни и нарушения** / [перевод с английского Махияновой Е. Б.; ответственные редакторы: Карпенко Т. Н., Серов А. Н.]. — Москва: Астрель, 2012. — 36 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-271-15900-8 (Астрель). — ISBN 978-985-16-3327-8 (Харвест).

**Анатомия человека: системы и органы** / [перевод с английского Махияновой Е. Б.; ответственные редакторы: Карпенко Т. Н., Серов А. Н.]. — Москва: Астрель, 2012. — 36 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-20876-8 (Астрель). — ISBN 978-985-16-5221-7 (Харвест).

**Анатомия человека: системы и органы** / [перевод с английского Махияновой Е. Б.; ответственные редакторы: Карпенко Т. Н., Серов А. Н.]. — Москва: Астрель, 2012. — 36 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1000 экз. — ISBN 978-5-271-14784-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1424-0 (Харвест) (в пер.).

**Большой атлас анатомии человека** / [перевод с английского Махияновой Е. Б.; ответственные редакторы: Карпенко Т. Н., Серов А. Н.]. — Москва: Астрель, 2012. — 72 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-15901-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1423-3 (Харвест) (в пер.).

**Крицкая, А. Н.** Лимфатическая система: учебно-методическое пособие для студентов 1-го курса лечебного, медико-диагностического факультета и факультета по подготовке специалистов для зарубежных стран медицинских вузов / А. Н. Крицкая, Т. И. Руденко, В. Н. Жданович; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Кафедра анатомии человека с курсом оперативной хирургии и топографической анатомии. — Гомель: ГГМУ, 2012. — 27 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-506-485-6.

**Саваневский, Н. К.** Биология. Человек и его здоровье: тестовые задания для подготовки к централизованному тестированию / Н. К. Саваневский, Г. Е. Хомич; под редакцией Н. К. Саваневского. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Новое знание, 2012. — 381 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-475-529-8.

### Фізіялогія

**Пристром, М. С.** Магний и заболевания внутренних органов : учебно-методическое пособие / М. С. Пристром, В. В. Артющик, И. И. Семененков; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Кафедра терапии. — Минск: БелМАПО, 2012. — 32 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-499-595-3.

**Сигнальные механизмы регуляции физиологических функций:** тезисы докладов XIII съезда Белорусского общества физиологов и II Международной научной конференции, 19–20 апреля 2012 г., Минск, Беларусь / [редколлегия: В. В. Лысак и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2012. — 171 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-553-004-7.

**Федотов, Д. Н.** Становление компонентов надпочечников у человека и животных (гистофизиологические, фундаментальные и экспериментальные аспекты): монография / Д. Н. Федотов, В. А. Косинец; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — Витебск: ВГМУ, 2012. — 129 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-466-590-0 (в пер.).

### Гігіена ў цэлым. Асабістая гігіена і здароўе

**ВИЧ в тюрьме и за ее пределами** / [Глобальный фонд для борьбы со СПИДом, туберкулезом и малярией]. — Минск, 2012. — 42 с. — 7200 экз.

**Каррэн, Э.** Вставайте с дивана: рецепт здоровой жизни / Эндрю Каррэн; [перевод с английского выполнила Ж. А. Шлайтайте]. — Минск: Попурри, 2012. — 175 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1693-9.

**Маккейт, Д.** Я – то, что я ем / Джиллиан Маккейт; [перевод с английского Н. Сутягиной]. — Москва: Астрель, 2012. — 223 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Указатель: с. 221–223. — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-38928-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1298-7 (Харвест) (в пер.).

**Передозировка наркотиками** / СПИД Фонд Восток-Запад; [автор послесловия Александров А. А.]. — Минск, 2012. — 23 с. — 5000 экз.

**Пилюк, А. В.** Больным врачам о здоровье: в 2 ч. / А. В. Пилюк. — Минск: Парадокс, 2012–
Ч. 1. — 2012. — 249 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-451-287-7.

**Поллан, М.** Библия питания: 64 правила, которые позволят вам правильно питаться и оставаться здоровыми и стройными без особых затрат: [перевод] / Майкл Поллан. — Москва: Астрель, 2012. — 184 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-39714-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0664-1 (Харвест) (в пер.).

**Самопомощь для людей, переживающих синдром отмены** / СПИД Фонд Восток-Запад; [составители: Волик Анатолий, Олисов Глеб]. — Минск, 2012. — 54 с. — 3000 экз.

**Спок, Б.** Ребенок и уход за ним = Baby and child care / Бенджамин Спок; [перевод с английского А. В. Дубровского]. — 4-е изд. — Минск: Попурри, 2012. — 669 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-15-1752-3 (в пер.).

### Грамадскае здароўе і гігіена. Засцярога ад няшчасных выпадкаў і іх папярэджванне

**Здравоохранение г. Минска в 2011 году:** статистический сборник / Комитет по здравоохранению Минского городского исполнительного комитета, Медицинский информационно-аналитический центр; [в подготовке принимали участие: В. И. Сиренко и др.]. — Минск: РНМБ, 2012. — 219 с. — 180 экз. — ISBN 978-985-6846-97-0.

**Игнатенко, А. В.** Микробиологические методы контроля качества пищевых продуктов: тексты лекций для студентов специальности 1-54 01 03 «Физико-химические методы и приборы контроля качества продукции» заочной формы обучения / А. В. Игнатенко; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2012. — 183 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-530-157-9.

**Ключеневич, В. И.** Общественное здоровье: подходы к моделированию системы управления / Ключеневич Валерий Иосифович. — Минск: Бел НИЦ «Экология», 2012. — 236 с. — 100 экз. — ISBN 978-895-6542-75-9 (ошибоч.).

**Научное обеспечение защиты от чрезвычайных ситуаций: основные результаты выполнения государственной научно-технической программы « Чрезвычайные ситуации» (2005–2010 гг.):** сборник научных трудов / Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь; [редколлегия: Г. Ф. Ласута (научный редактор) и др.]. — Минск: Экономпресс, 2012. — 342 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6479-64-2.

**Оперативное руководство по комплексной борьбе с переносчиками трансмиссивных болезней** / Всемирная организация здравоохранения, Европейское региональное бюро. — Минск: Белпринт, 2012. — 67 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-459-255-8.

**Основы безопасности жизнедеятельности: 10-й класс:** учебник для общеобразовательных учреждений / [М. П. Фролов и др.]; под редакцией Ю. Л. Воробьева; Министерство Российской Федерации по делам гражданской обороны, чрезвычайным ситуациям и ликвидации последствий стихийных бедствий. — Изд. 2-е, исправленное и дополненное. — Москва: Астрель, 2013. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-13968-0 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0014-7 (Харвест) (в пер.).

**Человек и безопасность: 5-я международная специализированная выставка, 6–8 июня 2012, Беларусь, Минск:** каталог. — Минск, 2012. — 111 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 500 экз.

### Фармакалогія. Агульная тэрапія. Таксікалогія

**Государственная фармакопея Республики Беларусь: (ГФ. РБ II): разработана на основе Европейской фармакопеи: в 2 т.** / Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Республиканское унитарное предприятие «Центр экспертиз и испытаний в здравоохранении»; [под общей редакцией А. А. Шерякова]. — Молодечно: Типография «Победа», 2012– — ISBN 978-985-6967-19-4 (в пер.).
Т. 1: Общие методы контроля качества лекарственных средств: введено в действие с 1 января 2013 г. приказом Министерства здравоохранения Республики Беларусь от 25.04.2012 г. № 453. — 2012. — 1217 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-6967-17-0.

*Погляд*

# Вялікае падарожжа па малой радзіме

Што ні кажыце, а краязнаўства ў Беларусі, у тым ліку і літаратурнае, усё ж развіваецца. Пацвярджэннем таму — нястомная праца на ніве рэгіяналістыкі шматлікіх раённых, пасялковых і сельскіх бібліятэк і музеяў, стварэнне ўсё новых лакальных краязнаўчых аб'яднанняў, падзвіжніцкая праца рэспубліканскай «Краязнаўчай газеты», урэшце, выхад да чытача са сваімі кнігамі многіх энтузіястаў, якія настойліва і даўно вывучаюць прастору свайго бацькоўскага кута.

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ**

Згадайце выдатных нашых краязнаўцаў, кожны з якіх не проста шмат зрабіў, а з'яўляецца ўнікальнай творчай асобай, вартай самастойнага даследавання. Гэта, напрыклад, Адам Мальдзіс, Аркадзь Падлінскі, Уладзімір Содаль, Уладзімір Кісялёў, Міхась Маліноўскі, Алесь Белакоз, Сяргей Чыгрын, Вячаслаў Швед, Святлана Кошур, Мікола Гайба... Але як бы ні абмяжоўвалі гэты пералік, у ім змесціцца яшчэ адна моцная краязнаўчая постаць — Алесь Карлюкевіч.

Шмат гадоў ужо вывучае ён сваю Пухавіччыну і выпусціў ці не з дзясятак кніжак. Адна з апошніх — «І марам волю дам» (Мінск: БелЭн імя П. Броўкі, 2011), з дадаткам «Літаратурная карта Пухавіччыны», уступным артыкулам Адама Мальдзіса, уласнай прадмовай і пасляслоўем. Усе гэтыя дадаткі зусім не лішнія ў кнізе, якая насычана фактамі, мае даволі складаную структуру, сумяшчае розныя стылі і формы падачы матэрыялу. Дадаткі мацуюць кнігу як адзінае цэлае, высвятляюць яе літаратурна-асветніцкую задачу. Да таго ж аўтар набліжаецца да чытача і вядзе ўжо прамую гаворку з ім. Яго асоба — вельмі значны літаратурны кампанент кнігі, які надае ёй пэўную белетрыстычнасць, пазбаўляе ад інфармацыйнай аднастайнасці і апісальнасці.

Аўтар робіць вялікае падарожжа па сваёй малой радзіме, ідучы ад аднаго паселішча да наступнага, прыпыняючыся з чытачом на большы ці меншы час, каб распавесці пра тутэйшыя літаратурныя справы. Такім чынам выконваецца заадно і геаграфічна-краязнаўчая праца, бо кожная кропка прыпынку атрымлівае і адміністрацыйную характарыстыку. Часам аўтар-апавядальнік вымушаны папярэджваць чытача не спяшацца, бо наперадзе шмат цікавага. Увогуле ж ён не можа не кантактаваць з чытачом.

Вось заканчваецца адзін раздзел, і аўтар заключае: «А цяпер давайце скіруем на Рудзенск». Затым пачынаецца аповед пра гэты гарадскі пасёлак, зноў жа зваротам да чытача: «Тут давядзецца затрымацца надоўга. І літаратурна-краязнаўчая экскурсія будзе насіць адмысловы характар. Па-першае, трэба звярнуць увагу...» Які жанр выпрацоўваецца ў краязнаўчай кнізе Алеся Карлюкевіча? Турысцкае падарожжа? Зрэшты, падарожжамі на беларускім матэрыяле захапляліся ў сваіх нарысах яшчэ П. Шпілеўскі, У. Сыракомля, Ю. Крашэўскі... Свайго роду класікі ў гэтым жанры. Чаму ж не адраджаць яго, тым больш што гэта вельмі арганічны для краязнаўца спосаб падачы матэрыялу.

Падарожны элемент у кнізе Алеся Карлюкевіча абазначаны, праўда, не так і моцна: яму не да лірычных алюзій. Умясціць хаця б звесткі пра літаратуру ўсіх міні-рэгіёнаў. А літаратуры так шмат, што ствараецца ўражанне, быццам на Пухавіччыну толькі і кіраваліся ды асядалі тут, каб пакінуць пісьменніцкі след. Унікальнасць літаратурна-краязнаўчай працы аўтара менавіта ў тым, што ў ёй на дзіва скрупулёзна вывучана кожная мясціна і паказаны ўсе праявы мясцовага літаратурнага жыцця. Праўда, трэба агаварыцца: для краязнаўца не існуе нязначных фактаў пры вывучэнні, скажам, літаратурных мясцін. Бо ўсё, чым жыве мастак слова ад нараджэння, усе абставіны і «драбніцы» яго асяроддзя ўплываюць на яго творчае фарміраванне. Таму так важна фіксаваць, дзе жыў, дзе бываў пісьменнік, да чаго дакраналася яго душа.

Алесь Карлюкевіч сабраў велізарны матэрыял з друкаваных літаратурных і гістарычных крыніц, з архіваў, з уласнага шматгадовага ліставання. Адшуканы невядомыя ці забытыя постаці. Аднаўлены




многія драматычныя лёсы, што вядуць часам далёка за межы Беларусі. Перад намі праходзяць вельмі многія беларускія, рускія, польскія, яўрэйскія і іншыя пісьменнікі, што нарадзіліся тут ці жылі нейкі час. Сярод іх — А. Ельскі, А. Мікульчык, Якуб Колас, М. Лынькоў, М. Чарот, У. Хадыка, А. Вольны, В. Гарбацэвіч, Р. Кобец, М. Лобан, А. Бачыла, З. Бірала, У. Дудзіцкі, П. Рунец, С. Хурсік, Л. Кобец-Філімонава, У. Ляпёшкін, Г. Кляўко, Я. Будзінас...

Поруч з імі на роўных краязнаўчых правах падаюцца таксама журналісты, бібліятэкары, педагогі, іншыя працаўнікі культурнай нівы, чые творчыя здабыткі часцей вельмі сціплыя, чыя праца ў галіне літаратуры мае выразна прыкладны характар. І гэта цалкам слушна. Такі матэрыял патрэбны ў кнізе, бо працуе на яе сістэму, мацуе адпаведны кантэкст, дазваляе ўявіць усю паўнату літаратурнага жыцця рэгіёна. Зрэшты, аўтар і не цураецца выхаду за межы ўласна літаратуры. Які ж сапраўдны краязнавец дазволіць сабе праігнараваць цікавых асоб нават таді, калі яны не ўпісваюцца ў тэму даследавання?

У кнізе цытуюцца, і даволі часта, самыя розныя крыніцы. Бывае, што гэта і ёсць сам па сабе краязнаўчы матэрыял. Часта цытаванне падмацоўвае факты, часам знаёміць з мастацкім тэкстам пісьменніка. Асабліва прыцягнуць увагу чытача лісты-ўспаміны: у іх — галасы жывых чалавечых душ, яны як найлепш перадаюць атмасферу часу ды месца чалавечай асобы ў ім. Тэксты лістоў — бясспрэчны краязнаўчы здабытак гэтага выдання.

Пісьменнікі-земляні паказваюцца і як мастацкія індывідуальнасці, хоць нярэдка гэты ракурс адсутнічае і аўтар абмяжоўваецца інфармацыйнымі біяграфічнымі ды бібліяграфічнымі звесткамі. Тут можна выказаць толькі шкадаванне. Бо, па высокім літаратурна-краязнаўчым рахунку, пісьменнік цікавіць нас не толькі сваім дачыненнем да пэўнай мясціны. Ён заўсёды павінен быць нам цікавы як мастацкая асоба, пэўнай мясцінай і ўзгадаваная.

Праўда, пісьменніцкае «я» герояў кнігі раскрываецца ў Алеся Карлюкевіча нярэдка праз непасрэдныя кантакты з мясцовым асяродкам. Аўтар імкнецца высветліць як мага больш такіх кантактаў, і ў гэтым нельга не бачыць моцны пазітыў выдання. Добра, напрыклад, раскрываецца асоба Якуба Коласа, які ў 1930-я гады летаваў у мясцовых вёсках. Знойдзены дадатковы (да ўжо вядомага) рэгіянальны матэрыял, і народны пісьменнік паказаны вельмі каларытна.

Краязнаўчыя выданні, якіх цяпер нямала, складаюцца паводле самых розных структурных прынцыпаў. Што да кнігі Алеся Карлюкевіча, то трэба прызнаць яе структуру найбольш апраўданай: у аснову кладзецца сістэма населеных пунктаў («карта»), а затым ужо вядзецца пошук людзей, якія тут жылі. І «сюжэт» кнігі — вандроўка па карце. Так ажыццяўляецца спазнанне краю, які мае ўласную геаграфічную канкрэтыку. Знаёміцца з краем цікава не толькі землякам аўтара. Знаёмства сведчыць, што літаратары — людзі ўсюдыісныя, іх заўжды клічуць нязнаныя дарогі, нязведаныя мясціны. Прайсціся сёння па гэтых дарогах — значыць, духоўна ўзбагаціцца, далучыцца хоць крыху да свету людзей, якія пакінулі ў гэтых вёсках і мястэчках часціну сваіх таленавітых душ.

> *«Аўтар робіць вялікае падарожжа па сваёй малой радзіме, ідучы ад аднаго паселішча да наступнага, прыпыняючыся з чытачом на большы ці меншы час, каб распавесці пра тутэйшыя літаратурныя справы. Такім чынам выконваецца заадно і геаграфічна-краязнаўчая праца, бо кожная кропка прыпынку атрымлівае і адміністрацыйную характарыстыку.*

Якія яшчэ заўвагі? Сям-там можна знайсці прапушчаныя факты службовага дасье той ці іншай асобы, якое даецца, як правіла, дзеля лепшага знаёмства. Але ці заўсёды гэта патрэбна? Кідаецца ў вочы толькі тэхнічны недагляд: аўтар ва ўступе абяцае даць у кнізе бібліяграфію, а яе і няма.

Даследаванне Алеся Карлюкевіча, у якім энцыклапедычна вычарпальна паказана літаратурнае жыццё Пухавіччыны, да таго ж добра чытаецца: аўтар умее весці гаворку пра свой любімы прадмет нязмушана, без лішніх эмацыянальных акцэнтаў, з даверам да чытача-суразмоўцы.

## Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Краснова-Гусаченко, Т. И. Робинзоны из Придвинья / Тамара Краснова-Гусаченко. — Минск: РВУ «Літаратура і Мастацтва», 2012. — 28 с.**



Зімою прыемна памарыць пра летнія падарожжы з прыгодамі. Героям гэтай кнігі прыгод хапіла: спачатку яны заблукалі ў лесе, потым плылі па рацэ, апынуліся ў хатцы на востраве. Думаеце, дзеці напалохаліся ды разгубіліся? Не! Яны здолелі паклапаціцца пра сябе. А гаспадаром хаціны ў выніку аказаўся не злы чараўнік, а добразычлівы ляснік, які не толькі вярнуў малых да бацькоў, але і навучыў, як болей не згубіцца ў лесе. Такія вось цікавыя ўрокі арыентавання на мясцовасці будуць карысныя ўсім маленькім чытачам. Дарэчы, Тамара Краснова-Гусачэнка з'яўляецца і аўтарам шматлікіх паэтычных зборнікаў, яе творчасць ведаюць у Расіі, ва Украіне, у Паўднёвай Асеціі, Латвіі ды іншых краінах.

**Рублеўская, Л. І. Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега / Людміла Рублеўская. — Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012. — 272 с.**



«XVIII стагоддзе... Эпоха авантурыстаў і алхімікаў, рыцараў і чароўных дам, палацавых інтрыгаў і крывавых войнаў... Колькі ў гэтым часе сюжэтаў, прыдатных да прыгодніцкіх раманаў, якімі карысталіся Аляксандр Дзюма-бацька, Вальтар Скот і Генрык Сянкевіч...» — крыху задуменна разважае аўтарка ў прадмове да рамана. І прызнаецца, што як пісьменнік сама хацела б пажыць у тым часе, папрысутнічаць на шумлівых соймах, наведаць мануфактуры і паслухаць гаворку мясцовых — на перакручаный на свой лад «лаціне». Падарожжа ў часе — не толькі аўтару, але і чытачу — дапамагаюць здзейсніць героі прыгодніцка-фантасмагарычнага рамана — шкаляр менскага езуіцкага калегіюма, бедны шляхціц Пранціш Вырвіч і полацкі доктар і алхімік Баўтрамей Лёднік, які вучыўся ў Празе і Лейпцыгу.

**Буковски, Ч. Хлеб с ветчиной / Чарльз Буковски; пер. с англ. Ю. Медведько. — Москва: Эксмо, 2012. — 398 с.**



Гэты раман, пэўна, самы пранікнёны з усіх аўтабіяграфічных твораў аўтара. І калі яго назва ў англійскім варыянце з'яўляецца алюзіяй на назву рамана Джэрома Сэлінджэра «Над прорвай у жыце», то заканамерна, што кніга таксама распавядае гісторыю сталення,ператварэння хлопчыка ў падлетка і потым у мужчыну. Са старонак кнігі мы даведваемся пра тое, чаму Генры Чынаскі («раманнае» альтэр-эга Букоўскі) мае кепскія адносіны з бацькам, хто былі яго першымі сябрамі, чаму ён любіць бавіць час на адзіноце і чаму вырашыў стаць пісьменнікам, а таксама прасочваем працэс станаўлення яго індывідуальнасці, фарміравання поглядаў.

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам «Кніжны салон». Тэл.: 385-60-89.**

Святлана ДЗЯНІСАВА

# Калекцыянер

## *Апавяданне*



У той дзень я выйшаў з метро, як заўсёды, на Нямізе і павольна, каб насаладзіць душу жаданым надвор'ем, пакрочыў уверх паўз кафедральны сабор. Мая рэдакцыя месціцца ў будынку насупраць ратушы. Чаго толькі не памятае гэты зеляноўны трохпавярховік, з кім толькі не знаёміліся яго сцены за тыя некалькі стагоддзяў, што ён тут стаіць. Ды і цяпер — хто ў ім толькі не засядае.

Я арандую ў гэтым будынку невялікае памяшканне на першым паверсе, у левым рагу, калі стаяць тварам да ўвахода. Нічога асаблівага: скураная канапа для гасцей, нізенькі столік для кавы, высокае скуранае крэсла для мяне, стол — гэта для камп'ютара — і вялікая шафа — для кніг. Я павінен яшчэ зазначыць, што падгалоўе на маім крэсле хутчэй за ўсё прызначана для сурвэткі, звязанай кручком з нітак колеру смятанкі. Прабачце мне такую падрабязнасць. Проста я не магу гэта не зазначыць, бо сурвэтку звязала мая матухна, а яна — галоўны чалавек у маёй справе. Не, яна не гаспадыня майго выдання. Яна — мая матухна. Хаця сама яна называе сябе тут ахмістрыняй. А наведваецца ў мой пакой толькі тады, калі, на яе думку, у мяне ўжо нагам ступіць няма дзе. Іншымі словамі, калі мой пакой трэба трошкі прыбраць. Попельніцу выратаваць ад акуркаў ды вярнуць на свае месцы кнігі, што засталіся ляжаць разгорнутымі пасля чарговага даследавання. Часцей за ўсё гэта юрыдычная літаратура ды медыцынскія даведнікі, часам — важкія тамы якой-небудзь энцыклапедыі, выданні па гісторыі мастацтва і рэлігіі, краязнаўстве, палеанталогіі і мікрабіялогіі. Але здараюцца ў маёй працы асабліва цікавыя выпадкі — і тады патрабуецца літаратура іншага кшталту. Таму ў маёй бібліятэцы можна знайсці кнігі па містыцы, эпіграфіцы, астралогіі і нават астраноміі.

Мая матухна бачыць мяне сучасным доктарам Ватсанам. Нібыта я пісьменнік, якому наканавана занатоўваць прыгоды тых, хто не сябруе з законам, і тых, хто яго быццам бы абараняе. На самай справе я звычайны рэдактар. Такіх, як я, у нашым горадзе нібы смаўжоў у гародчыку. Але ў нечым мая матухна ўсё ж мае рацыю. Такога часопіса, як у мяне, больш няма.

Да мяне прыходзяць людзі, якіх варта паслухаць. Яны могуць гадзінамі смаліць цыгарэту за цыгарэтай, цягаць са стала цукеркі, жлукціць без усялякай меры каву і распавядаць гісторыі злачынстваў. Я гэта ўсё, вядома, запісваю на дыктафон. А потым на старонках часопіса «Рэальны дэтэктыў» — так называецца мой часопіс — з'яўляюцца захапляльныя «нататкі з натуры». У майго часопіса да распавядальнікаў таких гісторый толькі адно патрабаванне — яны павінны быць рэальнымі. І іх рэальнасць трэба даказаць.

А матухна лічыць, што галоўнае ў маёй справе — каб сурвэтка на падгалоўніку была свежая. І пры гэтым яна ніякая не місіс Хадсан, хаця магло б так быць, калі ўжо я доктар Ватсан. Яна — ахмістрыня! На самай справе яна проста рэдкая жанчына. Я і не спадзяюся, што знайду сабе калі-небудзь такую самую на ролю жонкі. Хаця матухна верыць у тое, што гэта магчыма.

Бацькі ў мяне няма. Дакладней, я зусім нічога пра яго не ведаю. Матухна мне пра яго не расказвала, а я ніколі не пытаўся.

У той дзень, як толькі я зайшоў у свой кабінет, да мяне адразу ж пагрукалі. Дзіўна, але я нікога, хто ішоў, за спінай сваёй не адчуваў.

— Сядайце, калі ласка, на канапу. На стале ёсць цукеркі, частуйцеся, — выгукнуў я з-за шафы, за якой у мяне невялікі закуток, абсталяваны лядоўняй і кававаркай. — Каву будзеце?

— Не-не, толькі не каву. Лепш малака.

Гэта было сказана бадзёрым голасам. Я выйшаў на яго і ўбачыў на канапе чалавека, якому аднолькава паспяхова можна было даць і паўстагоддзя, і стагоддзе. Валасы ў яго былі доўгія, хвалістыя, чорныя з сінім адценнем, без сівізны. І барада таксама доўгая, але — дзіўнае відовішча ў параўнанні з валасамі! — спрэс сівая. І вось яшчэ — і гэта таксама было дзіўна: скуру вакол вачэй густа пасеклі зморшчыны, а вочы глядзелі жвава, нават з імпэтам.

— Малако ў мяне ў лядоўні. Яно ці не занадта халоднае, — сказаў я. — Каб вам не захварэць.

— Не хвалюйся, сынок, — прагаварыў ці то мужчына, ці то дзядок. І такая пяшчота была ў гэтым голасе, што ў мяне аж нешта абарвалася ў сярэдзіне. — Налі мне ў шклянку малака і садзіся слухаць.

Я падпарадкаваўся яму так, быццам і напраўду ён мой тата, а я яго маленькі сынок. Я наліў у шклянку малака і працягнуў візіцёру.

Шклянку ўзялі, прагна абхапіўшы, дзве лядачыя рукі. Скура на пальцах была тоўстая, сабраная ў складкі, а тыл далоняў абцягвала ўжо іншая — высушаная, тонкая, як абалонка сялянскай каўбасы. Здавалася, калі дакрануцца да яе чым-небудзь больш-менш вострым, то ад месца дотыку ўраз пабягуць ва ўсе бакі глыбокія канаўкі. Глядзець на такую скуру было балюча.

Мой госць выпіў малако нагбом. Ён нават перакуліў шклянку яшчэ раз — каб пракаўтнуць кропельку, якая засталася на дне. Гучна паставіўшы шклянку на столік, ён рукой запрасіў мяне сесці. Я ізноў моўчкі падпарадкаваўся яго волі, нават забыўшыся на тое, што ў мяне за шафай ужо зварылася кава.

* * *

Спачатку ён маўчаў. Я не насмеліўся турбаваць яго, гэтага дзіўнага чалавека, які прыйшоў да мяне, пэўна ж, не для таго, каб выпіць маё малако.

— Я стары чалавек, разумееш? — сказаў ён нарэшце. Потым, замахаўшы рукамі і заківаўшы галавой, дадаў: — Не, не разумееш. Я вельмі стары чалавек. Нашмат старэйшы, чым ты можаш падумаць. Я маю намер калі не сёння, дык заўтра адысці ў лепшы свет. Таму я зараз тут.

Стары азірнуўся вакол, акінуў вачыма сцены, столь, падлогу, мэблю і працягнуў:

— Я калекцыянер. Калекцыя мая даволі вялікая і вельмі каштоўная. Прадметы з яе маглі б належаць шматлікім музеям і, значыць, дзяржаве і народу. На іх прыходзілі б паглядзець студэнты і школьнікі, іх вывучалі б гісторыкі, а махляры займаліся б іх падробкай. Але так сталася, што яны належаць мне аднаму.

У голасе яго не было ні гонару, ні задавальнення. Я хутчэй пачуў роспач, шкадаванне, знясіленую крыўду.

— Можа, вам яшчэ малака? — чамусьці спытаў я.

Стары быццам не пачуў мяне.

— Я жыву на свеце даўно. З таго часу, як я нарадзіўся, мінулі тры рэвалюцыі і дзве сусветныя вайны. Ты ведаеш, што такое сусветная вайна, мой хлопчык? Ты не можаш гэтага ведаць, але гэта не віна твая, а шчасце.

Ён паглядзеў на мяне вачыма, поўнымі пяшчоты. Я мог бы папрасіць яго быць бліжэй да справы, бо я звычайна гэта раблю, калі госць адхіляецца ў сваім расповедзе ад асноўнай думкі, але гэтым разам нешта перашкодзіла мне. Некалькі хвілін ён сядзеў і маўчаў. І я таксама сядзеў і маўчаў. Дзіўна, але мне было добра так сядзець і нічога не рабіць. Урэшце, калі б ён да мяне зараз не прыйшоў, то я б піў каву ды глядзеў праз акно на ратушу.

— Скажы мне, сынок, а ці ведаеш ты што-небудзь пра згублены скарб Дамініка Радзівіла?

Пра гэтых апосталаў, што ўсё шукаюць і ніяк не знойдуць? Хто ж пра іх не ведае?

— Што да мяне, то я не надта веру ў іх існаванне, — адрэзаў я. Гэты мілы дзядок, нябось, меўся сказаць, што радзівілаўскія апосталы складаюць касцяк ягонай калекцыі.

— ...Пячатка самога Вітаўта, у добрым стане, — прагаварыў дзядок павольна і ціха. — Пярсцёнак Радзівілянкі, Барбары, падарунак ягамосці каралю Жыгімонтусыну, Аўгусту... Куфэрак з бурштынавага палаца... Манеты напалеонаўскай казны... Некалькі цудоўных знаходак з меднага дна Тур-калодзежа... Але гэта дробязі. Партрэты пэндзля мастака Ваньковіча. Пантофлік каралевы Боны...

— І не спарухнеў той пантофлік да гэтай пары? — я толькі ўсміхнуўся.

— ...Крыж святы, кіпарысавага дрэва.

— Бог мой! Няўжо! Ведаеце, што? Калі вы хочаце трапіць у мой часопіс у якасці героя, вам давядзецца расказаць, адкуль вы ўзялі тых апосталаў, і куфар, і пячатку, і нават пантофлік. Не гаворачы ўжо пра крыж. Які ён там у вас? Кіпарысавы? Але гэта не самае цяжкае. Бо вам трэба яшчэ і прад'явіць іх, — сказаў я.

Стары прыціснуў далонь да лба — моцна, аж пабялелі пальцы — і даўгавата паціраў яго. Потым заплюшчыў вочы і сядзеў так мо хвіліны дзве. Я маўчаў.

— Так, ты павінен запытацца ў мяне, як я збіраў сваю калекцыю. Але ты пі каву, пі, калі ласка, — ён лагодна павёў рукою ў бок шафы. — А я табе раскажу.

Дзіўная рэч, але я ізноў палічыў за лепшае зрабіць так, як ён сказаў. Пайшоў у закуток, узяў кубак з кавай і вярнуўся да дзядка.

— Пачалося з абраза, які трапіў мне на вочы ў сябра — музейнага рэстаўратара. Абразам месца ў храмах, я так лічу.

— І вы скралі яго з музея, але не аддалі ў храм, і цяпер ён проста ваш. Разумею.

— Не разумееш. Абраз быў крадзеным. Гэта дакладна вядома. А на адваротным баку яго я знайшоў словы, якія былі напісаны спецыяльна для мяне. Ну, для таго, хто знойдзе абраз і возьме яго сабе.

— І вы мне зараз паведаміце, што там было напісана, — я зрабіў выгляд, што ўладкоўваюся як мага ўтульней у сваім крэсле. Звычайны аўтаматычны рух, я часцяком сябе на ім лаўлю. Наведвальнікі бываюць розныя, некаторыя з іх не вельмі разумеюць назву і канцэпцыю майго часопіса. Таму трэба заўсёды быць напагатове — абараняць час і здольнасць канцэнтраваць увагу.

— Ты зможаш убачыць гэта на свае вочы. І маю калекцыю таксама. Спадзяюся, што зможаш. Я меў справы толькі з прыватнымі асобамі. Ці чуў ты апошнім часам пра тое, што знікла недзе нешта дзіўнае, рэдкаснае? Не, канечне. Таму што прыватная асоба — не музей. Яна не будзе біць трывогу.

Я паглядзеў на яго больш уважліва, у самыя вочы.

— Прыватная асоба, што трымае ў сябе дома каштоўнасць такога кшталту, не будзе распускаць інфармацыю пра сваю страту.

Сапраўды. Шкада мне гэтых прыватных калекцыянераў.

Я запытаўся ў дзядка, навошта яму ўсе гэтыя рэчы. Замест адказу была маленькая споведзь, якая зблытала ўсе мае думкі.

— Я расплаціўся за гэтыя крадзяжы. Заплаціў за іх любімай дзяўчынай. Я не мог сказаць ёй, што займаюся крадзяжом гістарычных каштоўнасцей, крадзяжом мэтанакіраваным, які хутчэй нагадвае паляванне, дзікае, жорсткае паляванне. Але яна сама пра гэта даведалася. Здагадалася, бо разумная. Яна не выдала мяне. Проста знікла. На яе месцы я зрабіў бы тое ж самае.

Стары раптам устаў з канапы.

— Вось адрас, — сказаў ён, запусціўшы руку ў кішэню пінжака. Я толькі цяпер падумаў, што трэба было прапанаваць яму распранучца. Такі вось я няветлівы, і тут ужо, як гаворыць мая матухна, нічога не зробіш.

— А вось ключы, — цяпер ён палез у кішэню белых палатняных штаноў. Модны ён шляхціч, гэты мой ранішні госць. — Табе патрэбны доказы. Дык прыходзь заўтра. Вечарам.

* * *

Я не пайшоў. У матухны здарыўся сардэчны прыступ. Я ёй казаў, што не трэба піць столькі кавы. Але калі вы недзе бачылі, як матухны слухаюцца сваіх сыноў, то ведайце, што гэта не пра мяне з маёй місіс Хадсан. Да дзядка я вырашыў пайсці ў наступны дзень.

Дамафон мне не адказаў. Тады я дастаў з кішэні звязку ключоў. І толькі цяпер падумаў, што гэта ж неяк дзіўна: дзядок даў мне не толькі адрас, але і ключы...

З парога адкрылася прасторнае светлае памяшканне з круглым сталом пасярэдзіне. На ім ляжала прыціснутая прыгожым каменьчыкам запіска. Нават не запіска, а цэлы ліст, спісаны дробненькім, але прыгожым і роўным почыркам. Я здагадаўся, што ліст прызначаецца мне, па першым слове ў ім: «Сынок». У галаве мільганула здагадка, чаму я ў той дзень так свабодна падпарадкоўваўся кожнаму слову ранішняга госця. Гэта ж ясна як божы дзень. Мяне ніхто ў жыцці, акрамя матухны, не называў такім ласкавым словам. Як бы я цяпер, будучы дарослым чалавекам, хацеў пачуць гэта слова з вуснаў таго, хто назваў бы сябе маім бацькам! Але дзе ён, мой бацька?

*«Сынок,*

*калі ты чытаеш гэты ліст, то я самы шчаслівы ў свеце. Я заўсёды ведаў, што мне ёсць каму перадаць тое, што я збіраў доўгія гады, амаль усё сваё жыццё. Перадаць на часовае захаванне, разумееш? Гэта багацце ніколі не было маім і цяпер яно не тваё. Яно належыць краіне, народу нашаму. Ты ж захаваеш гэту спадчыну? Да таго дня, як прыйдзе час. Па маім адчуванні ён ужо блізка, зусім блізка. Памятаеш, пра што я гаварыў табе?..»*

*Тут я ўспомніў пра абраз, на якім, калі верыць гаспадару кватэры, павінен быць нейкі надпіс. Абраз у кватэры знайшоўся. Ён вісеў на сцяне насупраць увахода, быццам звычайная карціна. Рукі чамусьці дрыжэлі, ды і ўвогуле ўсё, што рабілася, нагадвала не вельмі прыемны сон. Абраз зняўся з цвічка. І гэта быў той самы абраз, бо на ім значылася некалькі радкоў на лаціне. Але з лацінай я сябрую толькі пры падтрымцы слоўніка. Што далей? Перапісаць надпіс ды ісці дадому — перакладаць? Але дзе ж дзядок? Калі ёсць ліст ад яго, то сам ён быць тут, напэўна, і не збіраўся. Дзе ж ён тады, гэты стары чалавек? Гэты «вельмі стары чалавек».*

Трывога мяне не пакідала, але я не ведаў, што рабіць далей. Аўтаматычна перапісаў словы з адваротнага боку абраза сабе ў нататнік. Хацеў быў павесіць абраз на месца, але потым вырашыў пашукаць у ім схованку.

Яна знайшлася.

У копіі значылася, што пасля смерці гаспадара кватэры яна сама, а таксама ўсё, што яна ў сабе ўтрымлівае, а ў дадатак яшчэ і змест ячэйкі ў банку належаць грамадзяніну... належаць мне.

* * *

У рэдакцыі мяне чакаў яшчэ адзін ліст. Мне яго працягнула мая ахмістрынька. Вочы ў яе былі заплаканыя.

— Учора ўвечары памёр твой тата.

Я зразумеў тады ўсё. А галоўнае — я зразумеў, хто мой тата.

* * *

Ліст майго таты да мяне. Не, хутчэй проста запіска.

*«Сынок, калі завяшчанне ўвойдзе ў сілу, табе будзе належаць тое, што знаходзіцца зараз у банкаўскай ячэйцы. Гэта ўсё, ты ж ведаеш, не тваё, як не было яно ніколі маім. Гэта краіны нашай рэчы, наша агульная спадчына. Я, як ты зразумееш, скрадаў у людзей тое, што з'явілася ў іх ад скваннасці. Сярод гэтага, як я казаў, ёсць сапраўдныя рарытэты. Не хавай іх у сябе, аддай людзям. Але толькі тады, калі абразы будуць належаць храмам».*

Ці гэта дзіва, ці гэта проста гены, але я не раз, седзячы ў крэсле, трымаючы на каленях чарговы том энцыклапедыі твораў мастацтва, думаў пра тое, што няправільна хаваць абразы ў музеях. Яны павінны служыць людзям, як служаць людзям святыя айцы. А калі на іх прыходзяць паглядзець цікаўныя разявакі? А калі па іх вывучаюць тэхнічныя прыёмы жывапісу? То, пэўна ж, у гэты час на іх не моляцца. А на абразы трэба маліцца.

Я, дарэчы, пераклаў словы з таго абраза, выкрадзенага некалі ў музейнага рэстаўратара. Там было напісана:

*Facio ut facias. In exemplum assumere. Cum finis est licitus, etiam remedia sunt licita.**

* Раблю, каб ты зрабіў. Прыняць за ўзор. Калі мэта законная, то законныя і сродкі.

# Персанажы з сучаснасці

**Дзіяна Балыка — лаўрэат міжнародных драматургічных прэмій, аўтар пяці зборнікаў вершаў, 19 п'ес, 20 кніг па практычнай псіхалогіі. Яна з'яўляецца членам Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў і публіцыстаў, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюза пісьменнікаў Масквы, Беларускага Саюза музычных дзеячаў.**



Дар'я ЗЕНЧАНКА

Драматычныя творы Дзіяны Балыкі прысвечаны актуальным праблемам беларускай рэчаіснасці. У цэнтры падзей — персанажы, узятыя з сучасных беларускіх рэалій, таму лёгка разумець іх цяжкасці і душэўныя перажыванні.

Візіткай драматурга з'яўляецца меладрама «Белы анёл з чорнымі крыламі», якая з 2010 г. уключана ў школьную праграму па рускай літаратуры — шакіруючая гісторыя пра бязмежнае каханне, татальную адзіноту, усеагульнае непаразуменне і СНІД, пададзеная без пафасу і прыхарошванняў.

Галоўная гераіня — Ніна Віч — падчас здачы аналізаў даведваецца, што ў яе СНІД. Аднак патрабуецца яшчэ некалькі даследаванняў для пацвярджэння дыягназу. У гэты страшны перыяд жыцця Ніна не адчувае падтрымкі блізкіх і сяброў, іх абыякавасць падштурхоўвае яе да суіцыду. Доктар цэнтра прафілактыкі СНІДу Самойленка дапамагае ёй змяніць стаўленне да сям'і і навакольных. Калі на пачатку гісторыі да Ніны ў сне прыходзіць анёл з чорнымі крыламі, напрыканцы яго крылы — беласнежныя. Апошні аналіз паказвае, што дзяўчына здаровая.

П'еса «Белы анёл з чорнымі крыламі» была прадстаўлена на семінары Саюза тэатральных дзеячаў Расійскай Федэрацыі ў 2005 г., у якасці пераможцы ўвайшла ў зборнік «Сюжэты». Спектакль у пастаноўцы Венедыкта Растрыжэнкава (Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі) «гастралюе» па турмах і калоніях краіны ў адпаведнасці з праграмай ПРААН у Беларусі «Выпраўленне зняволеных праз мастацкую творчасць», ставіцца ён ва Украіне, у Расіі і Польшчы.

Прэм'ера спектакля «Псіхааналітык для псіхааналітыка» з удзелам артыстаў Тэатра Р. Віктюка адбылася ў Маскве ў Цэнтры-музеі Высоцкага. Спектакль атрымаўся дынамічны, яркі і шматпластавы. З аднаго боку, у ім ёсць цікавы сюжэт: да ілжэпсіхааналітыка Веры Андрэеўны прыходзяць па дапамогу хлопец-стрыптызёр і маладая жонка пажылога бізнесмена. Вера Андрэеўна не толькі не здольная аказаць прафесійную дапамогу сваім кліентам — ёй самой патрэбны псіхааналітык. Для публікі патрабавальнай у спектаклі раскрываюцца іншыя планы. Напрыклад, спектакль дапамагае зразумець, як лёгка каханне ператварае золата ў медзякі і медзякі ў золата. П'еса неаднаразова ставілася ў Расійскай Федэрацыі. Паводле Д. Балыкі, «Псіхааналітык» — самы касавы спектакль у Томскім абласным драматычным тэатры за апошнія 20 год яго існавання, у горадзе нават утварыўся клуб фанатаў спектакля.

Чарговая прэм'ера, прымеркаваная да 20-годдзя тэатральнага сезона, адбылася ў Новым драматычным тэатры: гледачам была прадстаўлена гістарычная драма пра будаўніцтва Бабруйскай крэпасці «Яблычны пірог». У творы раскрываюцца праблемы кахання і пачуцця абавязку, кроўных сувязей, сяброўства. Дзеянне драмы разгортваецца ў 1810 г.

П'еса «Сіняя сукенка» пачынаецца як фарс (дзеянне адбываецца на модным курорце ў Егіпце), у цэнтры сюжэта якога — курортныя інтрыжкі адпачываючых, мясцовага персаналу. Аднак паступова фарс перарастае ў дэтэктыў, які заканчваецца амаль галівудскім экшнам з узрывам гатэля і пераўвасабленнем бамжа ў агента ФСБ. Д. Балыка ў чарговы раз звяртае ўвагу гледачоў на тое, што чыстае сумленне — існы фактар шчаслівага існавання чалавека.

Спектакль «Вяселле» нагадвае людзям, што яны шчаслівыя адным сваім з'яўленнем на свет. Гэта п'еса пра тое, што, нягледзячы ні на якую эмансіпацыю, жанчыны ў першую чаргу жадаюць заставацца проста жанчынамі, жонкамі, маці, выпадковасці не выпадковыя, а душы чалавечыя глыбей за мора...

Сучасны беларускі тэатр імкнецца адлюстроўваць усе плыні сучаснага жыцця з яго складанасцямі і своеасаблівым позіркам на шчасце. Прыемна назіраць за зваротам да гісторыі ў спектаклі «Яблычны пірог», падняццем праблематыкі СНІДу ў спектаклі Д. Балыкі «Белы анёл з чорнымі крыламі». «Сіняя сукенка» насычана чыстым пачуццём патрыятызму на модным курорце ў Егіпце, «Псіхааналітык для псіхааналітыка» прыцягвае вока сваёй непасрэднасцю і дынамічным сарказмам, а спектакль «Вяселле» можна з задавальненнем пераглядаць шмат разоў. Умела жартуючы, Д. Балыка ў той жа час сцвярджае простую ісціну: такія якасці, як добразычлівасць, каханне, пачуццё абавязку і г. д., ніколі не страцяць актуальнасці.

*«Круглы стол»*

# Поле для ідэй

**Беларускую кераміку, праблемы творчасці і прэзентацыі абмяркоўвалі ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва падчас «круглага стала», у якім узялі ўдзел вядучыя мастакі па кераміцы, выкладчыкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мастацтвазнаўцы і навукоўцы.**

Кацярына ЗУБРЭВІЧ,
фота Кастуся Дробава

Кераміка як традыцыйная форма рамяства існуе ў Беларусі з даўніх часоў. На працягу стагоддзяў гэтае майстэрства набывала адметныя рысы нацыянальнай культуры, але толькі на пачатку 1950-х гг. былі закладзены асновы прафесійнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У гэты перыяд керамічным вырабам уласцівы функцыянальнасць і канструктыўная яснасць. Затым мастакоў пачалі хваляваць праблемы нацыянальнай стылістыкі, што прыводзіць да ўскладнення самой формы мастацкіх вырабаў. Выкарыстоўваецца разнастайная аб'ёмы, больш прывабнай становіцца манументальнасць, з'яўляюцца рысы дэкаратыўнасці, колер — лакальны і насычаны.

«Залатым часам» развіцця беларускай керамікі можна лічыць 1970 — 1980-я гг., калі адбыўся падзел манументальных і дэкаратыўна-прыкладных форм мастацтва. Сёння ў ёй прысутнічаюць сінтэтычныя вобразы, спалучаюцца шматлікія новыя тэхнікі і тэхналогіі, але традыцыя не страчвае свайго значэння. Кераміка як від творчасці канцэнтруе розныя спосабы мастацкага праяўлення: ад лінейнага малюнка і жывапісная падыходу да вялізных скульптурных аб'ёмаў. Таму сучасныя маладыя творцы з задавальненнем выкарыстоўваюць усе магчымасці матэрыялаў ва ўвасабленні аўтарскай, індывідуальнай ідэі.

Прафесійную адукацыю ў гэтым напрамку можна атрымаць у сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, дзе студэнты павінны не толькі засвоіць спосабы вырабу керамічных прадметаў, але і паспрабаваць сфарміраваць высокія эстэтычныя крытэрыі, якія праяўляюцца праз вобразнае мастацкае мысленне, пэўную асацыятыўнасць. Як адзначыла адна з удзельніц «круглага стала», дацэнт кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Тамара Васюк, у сучаснай адукацыі існуюць і праблемы. Неабходна ўдасканаліць праграму навучання, больш дакладна абазначыць яе мэтавыя напрамкі, каб у будучым забяспечыць выпускнікоў працоўнымі месцамі ў адпаведнасці з атрыманай адукацыяй. Сумяшчэнне розных відаў выяўленчага мастацтва — такіх, як, напрыклад, дэкаратыўна-прыкладное і дызайн — павінна ўзбагачаць, а не зніжаць агульны ўзровень. Таксама згадваліся і недахопы ў фарміраванні матэрыяльна-тэхнічнай базы. Такое становішча характэрна амаль для ўсіх творчых ВНУ краіны.

Значную ролю ў развіцці новых форм дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва адыгрывае штогадовы міжнародны пленэр па кераміцы «Арт-Жыжаль», які выконвае акрамя мастацкага ўзбагачэння шэраг практычных і рэпрэзентатыўных функцый. Па-першае, дазваляе пашыраць культурныя стасункі паміж краінамі, у выніку чаго кожны мастак асабіста паляпшае свой творчы ўзровень. Па-другое, традыцыйна па завяршэнні «Арт-Жыжаля» ў Бабруйску, Магілёве і Мінску ладзяцца выніковыя выстаўкі, на якіх прадстаўляюцца лепшыя работы, а наведвальнікі могуць пазнаёміцца з разнастайнасцю керамічных скульптур. Дарэчы, напрыканцы выстаўкі ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва аўтар і арганізатар пленэру, мастак Валерый Калтыгін, таксама ўдзельнік «круглага стала», праводзіць майстар-клас, што таксама з'яўляецца формай асветы. Гэта вельмі важныя працэсы, таму што сёння мастацтва керамікі не мае шырокай інфармацыйнай падтрымкі.

Падчас сустрэчы былі абмеркаваны магчымасці павелічэння цікавасці сярод насельніцтва. Так, акрамя выставак і практычных заняткаў можна ствараць тэлевізійныя праграмы, выдаваць кнігі, каталогі, буклеты. Станоўчым у гэтым напрамку з'яўляецца падрыхтоўка і выхад альбома «Мастацтва Беларусі XXI ст.», дзе можна будзе пабачыць творы розных кірункаў дэкаратыўна-прыкладной творчасці. А ў лістападзе наступнага года будзе праводзіцца Трыенале дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і плаката. Падобныя мерапрыемствы павышаюць інфармацыйны ўзровень успрымання, памяншаюць вытворчасць прадукцыі ў стылі кітч.

Відавочна, беларуская кераміка як від мастацтва знаходзіцца на высокім этапе развіцця, але як форма дзейнасці не мае трывалага грунту. Можна таксама канстатаваць, што канчаткова сфарміравана прафесійная, самабытная і адметная школа керамікі, аднак для далейшага творчага ўдасканалення патрэбны дзяржаўная падтрымка і зацікаўленасць грамадства.



Падчас «круглага стала».

# Прывід і рэальнасць оперы

**Адной з галоўных музычных падзей года ў Беларусі стаў III Мінскі міжнародны Калядны оперны форум, арганізаваны Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета Рэспублікі Беларусь.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота Міхаіла Несцерава**

## КОЛЬКІ СЛОЎ ЗАМЕСТ УВЕРЦЮРЫ

Ужо на першым форуме, што прайшоў у снежні 2010 года, арганізатары заклалі канцэпцыю, якой імкнуцца прытрымлівацца і надалей. Мінскі оперны фестываль складаецца з некалькіх блокаў: «замежнага», у межах якога калектывы з іншых краін прэзентуюць уласныя пастаноўкі; «айчыннага», калі апошнія прэм'еры нашага тэатра оперы і балета паказваюцца з удзелам запрошаных салістаў. Трэцяя частка — заключны гала-канцэрт. Сёлета дадалася і чацвёртая: міжнародны конкурс спевакоў, выканаўцаў італьянскай оперы «Competizione dell'Opera». У цэнтры нашай увагі — замежныя і айчынныя пастаноўкі форуму.

## ЛЮБІШ СВАЁ? ЗРАЗУМЕЙ І ЧУЖОЕ!

Пастаноўкі ў межах «замежнага» блока заўсёды з'яўляюцца «разынкамі» форуму. У 2010-м мінчане ўбачылі «Травіяту» Дж. Вердзі ў пастаноўцы Латвійскай нацыянальнай оперы і «Севільскага цырульніка» Расіні, версію маскоўскай «Новай оперы» імя Я. Колабава. У 2011-м — «Травіяту» маскоўскага тэатра імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі.

Усе замежныя спектаклі, паказаныя на форуме, займелі высокую ацэнку і крытыкі, і гледачоў. Падстаў для яе некалькі. Перш за ўсё, тэатры оперы і балета з іншых краін дастаткова даўно не прыязджалі ў Мінск (а калі і завітвалі, дык прадстаўлялі харэаграфічныя пастаноўкі: салісты Марыінскага тэатра бралі ўдзел у «зборнай» «Кармэнсюіце», Вялікі тэатр Расіі паказаў «Лебядзінае возера» з уласнага рэпертуару). Форум — ці не адзіная магчымасць убачыць замежныя оперныя трупы ў Мінску. Паколькі ў краіне існуе адзін адпаведны тэатр (оперныя пастаноўкі Музычнага тэатра можна пералічыць па пальцах адной рукі), аматары гэтага віду мастацтва не маюць магчымасці параўноўваць паміж сабой працы розных рэжысёраў і бачыць новыя інтэрпрэтацыі класікі (напрыклад, каб пазнаёміцца з новай версіяй «Мадам Батэрфляй», трэба чакаць, пакуль з рэпертуару сыдзе папярэдняя).

## «ЗІГФРЫД» — ОПЕРНЫ АРТ-ХАУС?

Сёлета на форуме ў выкананні Сафійскага нацыянальнага тэатра оперы і балета быў паказаны «Зігфрыд» Р. Вагнера — другая частка тэтралогіі «Кола нібелунга» (рэжысёр Пламен Карталаў). Асоба кампазітара — культавая ў свеце музыкі. Калі не лічыць дзвюх балетных версій «Трыстана і Ізольды», у Мінску дагэтуль ставілі толькі яго «Лаэнгрын» (у далёкім 1977-м). Паказ «Зігфрыда» дазволіў як патлумачыць прычыну ранейшай няўвагі, так і спрагназаваць далейшае стаўленне публікі да Вагнера.

У свой час «Кола нібелунга» стала маніфестам кампазітара, у якім ён выклаў свае мастацкія прынцыпы. Перш за ўсё, гэта зварот да легендарных сюжэтаў. На савецкай і постсавецкай прасторы даўно ўсталявалася іншая рэпертуарная мадэль, якая прадугледжвае акцэнт на творах італьянскіх (Дж. Расіні, Дж. Вердзі, Дж. Пучыні) або французскіх (Ж. Бізэ, Ш. Гуно) кампазітараў. Гледачы прызвычаіліся, што на сцэне паўстае рамантычная або рэалістычная карціна, у якой абавязкова прысутнічае гісторыя кахання, а не міфалагічныя падзеі і змаганне за сусветную ўладу. Арыі заменены ў Вагнера драматычнымі маналогамі, дуэты — дыялогамі. Але яны патрабуюць надзвычай трывалых галасоў, якія ёсць далёка не ва ўсіх трупах. У сафійскім спектаклі выканаўцы партый Зігфрыда (Кастадзін Андрэеў), Міме (Красімір Дзінеў) і Вотана (Мікалай Петраў) на працягу пяці гадзін амаль не сыходзяць са сцэны. Трываласці іх галасоў і артыстызму можна толькі падзівіцца! Наогул, выкананне опер Вагнера патрабуе існавання традыцыі як у калектывах, так сярод публікі.

У версіі Сафійскага тэатра «Зігфрыд» паўстае эпічным, але адначасова і досыць сучасным спектаклем. І ў тым выяўляецца актуальнасць Вагнера. Міфалагічны свет перададзены праз сцэнічны мінімалізм, які стварае эфект бязважкасці і прысутнасці героя ў касмічнай прасторы (мастак Мікалай Панаётаў). У аснове сцэнаграфіі «Зігфрыда» — кола. Сімвал сонца, жыцця, вечнасці. І адначасова ўласна кола нібелунга, што сімвалізуе ўладу над светам.

Паказ «Зігфрыда» можна ўспрымаць і як надзвычай актуальнае пашырэнне кругагляду публікі (як ні сумна ўсведамляць, жывучы ў сталіцы еўрапейскай дзяржавы), так і рэпетыцыю перад доўгачаканай пастаноўкай Вагнера ў Мінску (у 2013-м у тэатры запланавана прэм'ера яго оперы «Лятучы галандзец»). Баюся выглядаць песімістам, але, на маю думку, у нас творы кампазітара яшчэ доўга будуць заставацца оперным арт-хаусам.

## ЛЮБІШ ЧУЖОЕ? ШАНУЙ І СВАЁ!

Другі блок форуму — апошнія айчынныя прэм'еры. У 2010-м гледачы бачылі «Набука» Дж. Вердзі і «Кармэн» Ж. Бізэ, у 2011-м — «Аіду» Вердзі, «Севільскі цырульнік» Дж. Расіні і «Снягурку» М. Рымскага-Корсакава.

Паказ такіх пастановак пасвойму лагічны. Ён дазваляе прывабіць операманаў-снобаў, якія спецыяльна прыйдуць паслухаць, каб вырашыць, айчынны спявак ці замежны лепей выконвае пэўную партыю. Зацікавіць шырокую публіку, якая спакушаецца статусам мерапрыемства (форум — шыкоўны маркетынгавы ход з боку тэатра). Паказаць уласныя пастаноўкі спецыялістам-практыкам з іншых краін (дырэктарам тэатраў, рэжысёрам, дырыжорам), а таксама крытыкам і музыказнаўцам. Магчыма, з часам які-небудзь з паказаных спектакляў зацікавіць гасцей і выправіцца на гастролі.

На мой погляд, менавіта апошні аспект з'яўляецца найбольш цікавым. Сапраўды, якое месца займае айчынная опера ў еўрапейскай сістэме каардынат? Якія яе перспектывы існавання ў замежжы? Кожны з трох спектакляў пакінуў свае ўражанні.



*Сцэна са спектакля «Сівая легенда».*

## ЗРОБЛЕНА ПА-БЕЛАРУСКУ

Калядны форум адкрыла «Сівая легенда» Д. Смольскага (партыю Рамана гэтым разам выканаў Раман Муравіцкі — запрошаны саліст Вялікага тэатра Расіі). Доўгачаканая нацыянальная прэм'ера і другая (пасля «Дзікага паляванне караля Стаха») беларускамоўная пастаноўка ў бягучым рэпертуары, яна заслужана вярнула на акадэмічную сцэну твор Д. Смольскага — аднаго з патрыярхаў айчыннай музыкі. Эфектнае сцэнічнае вырашэнне шэрагу мізансцэн, актыўнае выкарыстанне камп'ютарнай графікі стварыла ўражвальнае відовішча і не пакінула абыякавай публіку.



*Сцэна са спектакля «Князь Ігар».*

Але рэжысёрская работа М. Панджавідзе пакінула пэўныя пытанні. У аснове спектакля — падзеі асабістыя (каханне нобіля Рамана да халопкі Ірыны) і грамадскія (паўстанне Рамана супраць улады і былога сябра Кізгайлы як яе ўвасаблення). У ідэале яны мусяць быць пераплеценыя. У аповесці У. Караткевіча адмова Кізгайлы і яго жонкі Любкі вызваліць Ірыну становіцца апошняй кропляй, пасля якой цярпенне людзей заканчваецца. Асабістая драма героя становіцца сімвалам змагання і барацьбы за справядлівасць.

Пастановачная група бачыць ключ оперы ў змаганні паміж змрочным «замкам» і светлым «храмам». Але наколькі такое рашэнне псіхалагічна апраўданае? Сацыяльныя матывы ў оперы апушчаныя. Таму Раман выглядае не героем, а не зусім адэкватным, прамалінейным чалавекам, які замест банальнага выкрадання Ірыны без падстаў распачынае ледзь не грамадзянскую вайну, зваду і руйнуе ўласны край. Таму яго пафасная арыя ў пачатку 2-й дзеі, дзе герой шкадуе пра звады паміж сябрамі, прымушае толькі ўсміхнуцца: а хто пачаў першы? Дарэчы, галоўны герой оперы так і не пакаяўся за свае ўчынкі. Дык ці варта параўноўваць пачуцці Рамана і Ірыны з узаемаадносінамі святых Пятра і Феўроніі, шлюб якіх для хрысціян лічыцца ідэалам? Дастаткова спрэчнымі падаліся і празмерна натуралістычныя сцэны. Напрыклад, у фінале спектакля Ірыне выколваюць вочы, а Раману адсякаюць рукі. Але ж у «Аідзе» на сцэну не выходзяць рабочыя, каб замураваць Аіду і Радамеса! Складваецца ўражанне, што такія эпізоды разлічаныя на шырокую публіку. Наогул, «Сівая легенда» ўразіла сваімі жарсцямі, але...

## ТРАДЫЦЫЯ І НАВАТАРСТВА

Надзвычай цікавым падалося параўнанне дзвюх іншых айчынных пастановак: «Яўгенія Анегіна» Чайкоўскага, дзе галоўныя партыі выканалі салісты Акадэміі маладых спевакоў Марыінскага тэатра, і «Князя Ігара» Барадзіна, які прайшоў з удзелам вядучых салістаў Вялікага тэатра Расіі. Прэм'еры абедзвюх пастановак адбыліся даўно (адпаведна ў 1986-м і 1996-м). Сёлета тэатр ажыццявіў іх новыя сцэнічныя рэдакцыі.

Абодва пастаноўшчыкі знаходзіліся ў няроўных умовах. Рэжысёрскае рашэнне «Яўгенія Анегіна» (версія Валерыя Шылава) з'яўлялася традыцыйным нават для свайго часу. Аляксандр Прахарэнка, для якога спектакль стаў дыпломным, ажыццяўляў не прэм'еру, а новую рэдакцыю. Прычым не свайго, а чужога спектакля. Таму не дзіўна, што ён з вялікай павагай паставіўся як да музычнага матэрыялу, так і да работы папярэдніка. У выніку «Анегін» не зазнаў кардынальных змен і застаўся на ранейшым узроўні. Чацвёрка выканаўцаў галоўных партый: Андрэй Бандарэнка (Анегін), Марыя Баянкіна (Тацццяна), Юлія Матачкіна (Вольга), Дзмітрый Варапаеў (Ленскі) — прадэманстравала высокую вакальную культуру, але відавочна саступала айчынным салістам у псіхалагічнай пераканальнасці вобразаў.

Першую рэдакцыю «Ігара» ажыццяўляў Юрый Аляксандраў, запрошаны да супрацоўніцтва і сёлета. Больш за тое, яго спектакль першапачаткова задумваўся як наватарскае прачытанне класікі (насуперак традыцыйнаму ўслаўленню мужнасці Ігара падкрэслівалася бессэнсоўнасць паходу, які прывёў да чалавечых ахвяр і агульнага аслаблення княства ў час агульнай дробнасці). У новай рэдакцыі рэжысёр узмацніў ідэю. Напрыклад, новае гучанне набылі «Палавецкія скокі», харэаграфічная сцэна з 2-й дзеі. У папярэдняй версіі «Ігара» ў цэнтры ўвагі знаходзіліся полаўцы, сцэна з'яўлялася гімнам іх вандроўнаму і свабоднаму духу. Цяпер «Палавецкія скокі» пераўтвараюцца ў гімн хану і яго ўладзе (хор размешчаны франтальна побач з левым парталам і ўздоўж куліс, а Ігар і Канчак знаходзяцца насупраць). Перад князем паўстае непераможная ваенная машына, а глядач у чарговы раз пераконваецца ў бессэнсоўнасці паходу. Найбольш моцнае ўражанне сярод выканаўцаў пакінулі Міхаіл Казакоў (хан Канчак), а таксама айчынныя салісты — Ніна Шарубіна (Яраслаўна) і Андрэй Валенцій (Уладзімір Галіцкі).

## ФІНАЛ? НЕ, ПАЎЗА ПЕРАД ПРАЦЯГАМ!

Паказы «Зігфрыда» і «Князя Ігара» надзвычай высока ўзнялі планку сёлетняга форуму. І адначасова засведчылі: у Беларусі пануе традыцыйная оперная эстэтыка, а спробы сучаснага прачытання класікі рэдкія. Запрашэнне да супрацоўніцтва рэжысёраў узроўню Ю. Аляксандрава трэба шчыра вітаць, калі б не адно «але». Хацелася б, каб яны прыязджалі ў Мінск дзеля паўнавартасных прэм'ер, а не толькі новых рэдакцый.

Правядзеннем Калядната форуму беларуская опера паступова ўцягваецца ў сусветнае фестывальнае жыццё. Шчыра спадзеючыся на праця станоўчай дынамікі, не магу не выказаць прапановы: павялічыць колькасць замежных спектакляў; пашырыць беларускую праграму за кошт паказу опер, пастаўленых у іншых калектывах. На маю думку, апошнія пастаноўкі Г. Маторнай («Паяцы» ў Беларускім дзяржаўным музычным тэатры і «Юбілей» у Опернай студыі Акадэміі музыкі) дадалі б новых фарбаў самому форуму, бо рэжысёрскае прачытанне партытур надзвычай нечаканае і сучаснае. Варта было б арганізаваць у Мінску балетны фестываль, аналагічны Каляднаму опернаму. Бо ўзровень апошняга прымушае з нецярпеннем чакаць наступнага снежня.

Кітайскія паэты ХХ стагоддзя не настолькі вядомыя на прасторах былога Савецкага Саюза, як прадстаўнікі класічнай паэзіі Кітая. Але менавіта гэтая, малавядомая, лірыка дае ўяўленне пра глыбінную сувязь з духоўным светам сучаснага кітайскага народа, якая робіць творцу выразнікам ідэй сваёй нацыі. У кітайскай паэзіі ва ўсе часы — свая традыцыя і свой смак, свая адметнасць і непаўторная філасофская насычанасць. Паэзія адлюстроўвае светапогляд народа. Паэты ніжэйпрыведзенай нізкі прадстаўляюць розныя кірункі кітайскай паэзіі ХХ стагоддзя, якія характарызуюць свой час і дапамагаюць нам па-новаму зірнуць на гэтую загадкавую краіну і яе творцаў.

***Ай Цін** (1910 — 1996) — кітайскі паэт. Вучыўся ў Францыі. Па вяртанні ў Кітай патрапіў у турму, пасля выхаду выпусціў зборнік вершаў, прысвечаны жыццю кітайскай вёскі. Быў сасланы ў Маньчжурыю за крытыку КНР, не друкаваўся да рэабілітацыі ў 1978 годзе. У 1985-м быў узнагароджаны французскай літаратурнай прэміяй. Ай Цін зрабіў значны ўнёсак у развіццё кітайскага свабоднага верша, на яго паэзію вялікі ўплыў аказала творчасць У. Маякоўскага, У. Уітмена, Э. Верхарна.*

## ДУДАЧКА

*Памяці Апалінэра*

J'avais un mirliton
que je n'aurais pas echange
contre un baton de marechal de France.
**G. Apollinaire***

*У мяне была дудачка,
якую я б не памяняў
на жазло маршала Францыі.
**Г. Апалінэр**

З вашай стакаляровай
Еўропы
Я прынёс сабе дудачку,
З ёю калісьці
На ўзбярэжжы Атлантыкі,
ля акіяна,
Я вандраваў, пачуваўся,
як дома,
А цяпер
Вашыя «Алкаголі»
ў шанхайскім засценку.
Я тут злачынца,
І дудачка
Пад забаронай.
Я ў думках трымаю яе —
Памяць сваю пра Еўропу.

Шаноўны Апалінэр,
Вы ж не звычайны паляк,
Не,
Для мяне вы
Легенда Манмартра,
што вусны перадаюць,
Жывая,
Якая мозг ап'яняе,
З дрыжачых вуснаў Марго
Сцякае разам з памадай,
Пунсовая таямніца.
Няўжо Еўропа
Брыяна і Бісмарка
Не заслугоўвае нават
ганебнага слова —
Подлая, прывідная Еўропа
З вачніцамі прагнымі!
Ды я
Закаханы ў тваю Еўропу,
Еўропу Рэмбо і Бадлера.
Там колісь,
Галодны,
Я марыў іграць на дудачцы,
А з мяне кпілі,
Бо я быў самім сабой!
Маіх песень не чулі,
Бо гэта мае былі песні!

Сягоння
Ў Бастыліі я,
Не ў парыжскай Бастыліі,
І дудачкі болей няма са мной,
Звон кайданоў задушыў
мае спевы,
Ды прысягаю —
Дзеля дудачкі
Ганьбу і мукі прыму,
Нібыта ў 1789-м,
Руку пакладу на агонь!
А калі мая дудачка выйдзе
на волю,
Я прапяю
Сусветную песню праклёнаў
Усім прыгнятальнікам.
Над галавою ўздыму яе
І пад гукі ўрачыстага гімна
Аднясу яе мору
Ў дарунак,
Хвалям аддам,
Здзічэлым, нязломным,
Хвалям марскім.

*28 сакавіка 1933 года*

***Эмі Сяа** (сапр. імя Сяа Аймэй, у СССР вядомы як Сяа Сань) (1896 — 1983) — кітайскі паэт, публіцыст, літаратурны крытык, галоўны рэдактар шэрагу часопісаў, аўтар тэксту кітайскага «Інтэрнацыянала», шырокавядомы ў СССР. Жыў у Францыі, Бельгіі, Германіі, вучыўся ў СССР. Займаў шэраг высокіх пасад у галіне культуры і міжнароднага культурнага абмену. У 1967 г. арыштаваны як «шпіён савецкага рэвізіянізму» і асуджаны да адзіночнага зняволення, вызвалены ў 1974 г., рэабілітаваны ў 1979 г. Сярод яго зборнікаў: «Хунаньская флейта» (1940), «Песня сяброўства» (1958) і г. д. У Маскве выйшлі яго кнігі «Вершы» (1932), «Крывавы ліст» (1935).*

* * *

Раней мыў я ногі
ў хвалях возера Дунцін,
У сонечных хвалях Чорнага
мора купаюся сёння.
Калі моцай пяра свайго
я не змагу прыпыніць
пяць тысяч коней —
Як гэты год
можа быць лепшым за той?

*1936*

***Ню Хань** (нар. у 1923 г.) — кітайскі паэт. Яго першая кніга паэзіі «Радзіма» выявіла яго як паэта-інтэрнацыяналіста, сябра савецкіх людзей. Пасля вымушанага маўчання яго вершы сталі поўніцца лірызмам і мудрасцю.*

## РАЗБІТАЕ ДРЭВА

Ізноў прыгадаў я між летаў
і зім
Разбітае дрэва на схіле сівым.

Стаіць непахіснае
Ў велічны рост —
Яно не баіцца
навалаў-вятроў.

Маланкаю вострай,
Нібыта мячом,
Надвое пасечаны ствол
і суччо.

Калі ж патыхнула
Жаданай вясной,
Лістотаю дуб агарнуўся ізноў.

Пасечаны дуб —
Ды не знойдзеш мацней.
Я велічы гэткай не бачыў
раней!

...Я чую,
Навальніца збіраецца зноў,
Каб дрэва спаліць
неспатольным агнём,
Ды марна сыходзяцца
хмары ўначы,
Ім гордага дрэва
не перамагчы!

***Ло Ло** (нар. у 1927 г.) — кітайскі паэт, крытык, перакладчык. Першыя вершы надрукаваў у 1945 годзе. Працаваў журналістам, рэдактарам. Яго зборнікі вершаў — «Вясна прыйшла», «Пасля дажджоў», «Песня мора», зборнік артыкулаў «Чалавек і жыццё». Асобным выданнем выйшлі яго пераклады з сучаснай французскай паэзіі.*

## ПРАЦА

Засеяць поле
з першым промнем сонца,
Паліць дажджом
зрунелыя палеткі,
Над караблём
узняць пунсовы ветразь,
Знайсці між перлінаў
сваю ў бурлівых хвалях,
Лес пасадзіць
на стромкіх горных схілах,
Убачыць кветку
на сухім асфальце,
Крыніцу адшукаць
сярод пустэльні
І вугаль выняць
з найглыбейшай шахты —
Вось гэта ўсё,
як вучаць нас паэты, —
Ёсць праца для сябе
і для нашчадкаў.

*1981*

## ШЧАСЦЕ

Птушкі шчаслівыя:
песні спяваюць свае
па-над лесам і полем.

Кветкі шчаслівыя:
пчолам нектар аддаюць,
каб салодка было нам.

Людзі шчаслівыя тыя,
што час свой і лёс
прысвячаюць Радзіме.

Шчасце не ў тым,
каб валодаць,
а ў тым, каб аднойчы
аддаць.

Бо паквапішся,
рукі працягнеш
за шчасцем —
яно адлятае сініцай.

*1982*

***Ля Сяаюй** (нар. у 1951 г.) — вядомая кітайская паэтэса. Першыя вершы апублікавала ў 1972 годзе. Працуе ў часопісе «Паэзія». Аўтар кніг «Песня пра гусіныя пёркі», «Чырвоная хустка», «Святло з Усходу», «Даліна ружаў», «Складаю зборнік сваіх вершаў», «Ваянне гуку».*

## МАЯ МАЦІ — ДАЯРКА

Цячэ і цячэ з-пад рукі яе
Шпаркі струмень малака,
Бяжыць і бяжыць,
гарачая, белая,
Вечная цуд-рака.
І песня матулі,
і ў печы агонь —
Усё знітавана з ёй,
Такой чароўнай,
нязменнай такой,
Найлепшай у свеце ракой.

Цэбар цяжкі ў яе руках.
На сцежцы малочны след;
Не згасне ў ейных
вачах святло,
Спагадны прамень у імгле.
Штодня —
у працы жыццё ідзе
Між клопатаў і турбот.
Шануе за тое маці маю
Стэпавы мой народ.

Бы малако — валасы яе,
Пасеклі маршчыны твар,
Ды свецяцца вочы яе, калі
Вясной зелянее трава.

*1982*

***Шу Цін** (нар. у 1952 г.) — сучасная кітайская паэтэса. Піша вершы з ярка выражаным лірычным гучаннем.*

## СКАЛА БАГІНІ МІНУЛЫХ ЧАСОЎ

У рытмах паветраных танцаў,
у вэлюмах каляровых
Хтосьці азірнецца павольна,
каб паглядзець назад,
Нібы на ўскрайку прорвы,
вочы хутчэй заплюшчыць,
Убачыўшы ўсё, што памяць
прывыкла заўжды хаваць.
І сыдуць чужыя людзі,
не кінуўшы нават знаку,
Яна застанецца ў хмарах,
што, быццам бы хвалі рэк,
Калышуць яе, люляюць,
нібыта сваю каханку,
Не здольная ні застацца,
ні назаўжды пайсці...

Ды што тыя сны і мроі,
самота і прага шчасця,
Калі на зямлі і небе —
усё ідзе, як ішло.
Толькі не верыць сэрца, што ўсё
гэта — мёртвы камень.
Ці можа халодны мармур
пад поўняю заспяваць?

Ты паглядзі наўкола:
бачыш, жыццё квітнее,
Ты ж усё мроіш, быццам
тысячы год таму.
Можа быць, лепш, Багіня,
крозы свае адкінуць
І на плячы каханка
выплакаць горкі лёс?

***Гу Ма** (нар. у 1965 г.) — кітайскі паэт. Першыя вершы апублікаваў у 1986 годзе. Самыя вядомыя яго творы «Чырвоны бычыны рог», «Іменны спіс у канцы стагоддзя» і інш.*

## УСПАМІН

Шкода — і слоў няма...
Птушка ляжыць
Мёртвая на дарозе.
Крыльца крывавіць,
а сэрца дрыжыць
Птушкаю — у знямозе.

Як жа так сталася,
што тут казаць,
Як ад сябе схавацца?!
Быццам зламаныя
крылы, дрыжаць
Вінаватыя пальцы.

***Інь Юнь** (нар. у 1960 г.) — кітайская паэтэса, перакладчыца, філосаф. Выкладала рускую мову, супрацоўнічала ў часопісе «Эпоха перамен». Аўтар артыкулаў па пытаннях эстэтыкі і культуралогіі. У вершах імкнецца асэнсаваць рэчаіснасць, зыходзячы са спрадвечных законаў жыцця.*

## ІМГНЕННЕ

Надыдзе заўтра, але не будзе
свята сустрэчы нашай.
Ты кажаш: «Чакаць не варта»,
ты кажаш:
«Будзь асцярожнай».
Ад казкі мінулай
нам застануцца
леташнія ўспаміны.
Ты кажаш:
«Навошта памяць?
Яна апякае сэрца».

Паслухай: калі і зоркі
знічкамі ўпалі з неба,
Калі на зямлі чакае
новы час ледніковы,
Калі чалавецтва заўтра
можа без знаку знікнуць,
Калі застануцца толькі
пра добрае — успаміны, —

То лепей сягоння збегчы,
забыцца пра слова
«вечнасць»,
Забыцца пра ноч і неба,
схавацца ў жывым
святле —
Каханне нам будзе сонцам,
каханне нам будзе
шляхам...
Хай нашы сляды да ісцін
згараць у яго агні!

*1992*

***Кун Лінь** (нар. у 1928 г.) — кітайскі паэт. Выступае ў цэнтральным перыядычным друку КНР.*

## НЕЧАКАНАЕ ПАЧУЦЦЁ

Здаецца мне,
вясёлым матыльком
Ты прылятаеш
і ледзь чутна шэпчаш:
— Вось і прыйшла
пагодлівая восень...

Здаецца мне,
бы ранішні дымок,
Што зводдаль
запрашае да сядзібы,
Мяне ты клічаш
смачна паабедаць...

Здаецца мне,
бы месяца пагляд,
Твой позірк
праніклівы запрашае:
— Са мною паляціш
у іншы край...

Ды зімна навакол.
Абед халодны.
І месяц не паказваецца
з хмараў.
Ды словы раптам
мне на памяць усплылі:
— Не забывай
наш паэтычны вырай
І светач за вакном не патушы.

*1993*

**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

# Смачна есці!




**Якое месца ў жыцці чалавека займае ежа? Бадай, адно з галоўных, бо мы — тое, што ядзім. Акрамя таго, што ежа падтрымлівае на належным узроўні наш жыццёвы тонус, яна яшчэ з'яўляецца адной з самых моцных крыніц асалоды. Хто не любіць смачна паесці? Да адметнасцей кожнага этнасу адносяцца традыцыі харчавання, і любая краіна ганарыцца сваёй нацыянальнай кухняй.**

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

Апошнім часам на тэлеканалах, у часопісах і газетах вядуцца кулінарныя рубрыкі. Нас літаральна захліснула хваля заморскіх прадуктаў і рэцэптаў. Кожная беларуская гаспадыня ўмее гатаваць салату «Цэзар», салату з крабавых палачак, для якіх, дарэчы, крабы нават і не прапаўзалі, а вось зрабіць клёцкі з душамі, студзень, камы, кулагу могуць далёка не ўсе... Чаму? Ды таму што за апошнія дзесяцігоддзі традыцыі нацыянальнага харчавання былі забыты або заменены стравамі з кулінарый іншых народаў. У харчаванні таксама ідзе працэс глабалізацыі і абязлічвання... Нас, беларусаў, завуць «бульбашамі», хаця бульбу мы ўжываем крыху больш як два стагоддзі. Нашай галоўнай стравай лічаць дранікі, хаця гэта прадукт нямецка-яўрэйскага ўплыву. Таму ў свеце паглыблення цікавасці да кулінарыі вельмі важным бачыцца знаёмства беларусаў з традыцыямі харчавання продкаў і захавання адметнасці нацыянальнай кухні.

Знакаміты айчынны этнограф Мікалай Нікіфароўскі ў 1895 годзе надрукаваў, бадай, сваю галоўную працу па матэрыяльнай культуры беларусаў XIX стагоддзя — «Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности». Першую частку можна назваць кулінарнай энцыклапедыяй простага люду Віцебшчыны. У чым жа адметнасць ежы паўночнай Беларусі? Тут існуе простае правіла: чым далей на поўнач, тым больш каларыйнай павінна быць ежа. Нездарма ж культавай хатняй жывёлай беларусаў з'яўляецца тоўсты парсюк.

Першая частка работы называецца *«Ежа, едиво, поядуха, прорва, жратва, момна»*. У якасці своеасаблівага эпіграфа да яе Нікіфароўскі прыводзіць дзве прыказкі: «Калі б не дзюрка ў році, дык хадзіў бы чалавек у злоце»; «На кішку толькі й працуем».

Галоўнай ежай простага беларуса заўсёды быў хлеб. Мікалай Якаўлевіч называе сем гатункаў хатняга хлеба: *«чыстый», «градовый», «пушнэй», «пылавэй», «бульбянэй», «мякінный»* і хлеб з лебяды, бабоўніка, драўляных гнілушак, торфа і гліны, якім вымушаны былі харчавацца сяляне ў галодныя гады. Хлеб з прасеянай мукі лічыўся самым лепшым, таму елі яго толькі заможныя людзі, а асноўная частка сялян ужывала «мякінку», большую палову якой складала аўсяная, ячменная ці пшанічная мякіна. Хачу зазначыць, што назвы гатункаў хлеба і страў Нікіфароўскі дае з усімі арфаэпічнымі асаблівасцямі вымаўлення жыхароў Віцебшчыны, дапаўняе іх прыказкамі, таму яго працы ўяўляюць выключную цікавасць для мовазнаўцаў і дыялектолагаў.

Далей Мікалай Якаўлевіч паведамляе пра вырабы з цеста: *пірагі, лапуны, сочні, ляпіны, драчоны, ладкі, прэснякі, бубашкі, бульбянікі, крывянікі, бліны з прыпёкай, маканінай* або без.




Другі раздзел называецца «Стравы і варывы», пад якімі этнограф разумее вадкія стравы, прыгатаваныя з ужываннем агароднiны і раслін. Ужо адны іх назвы гавораць пра разнастайнасць ежы. *Капуста, буракі, поліўка, юшка, халаднік, кісель, саладуха, жур, крупеня, бульба, морква, гарбуз, грыжанка, зацірка, клёцкі, гушча, баўтуха, калатуха, кулеш, брускі, камы* — вось няпоўны пералік страў, якія ўжывалі простыя люд. Далей ідзе чарга разнастайных каш, пра якія Нікіфароўскі піша: «Простыя люд ніколі не забывае, што «густая каша дзяцей не разганяе», таму на яго стале з'яўляецца іменна густая каша. Густата,




распар і жаданы смак яе дасягаюцца наступнымі высілкамі: калі крупа крыху распарыцца і на загусшай кашы ўтворыцца трывалая скарынка, гаршчок у печы пераварочваюць уверх дном. Так ён і стаіць да часу спажывання кашы, чаму папярэдніча адмочванне гаршчка халоднай вадой, каб каша свабодна адставала ад гаршэчных сценак».

Усе стравы, якія ўжывалі сяляне, можна падзяліць на наступныя групы: рытуальныя, святочныя і абыдзённыя (скаромныя і посныя). Да вялікага свята (напрыклад, да Каляд) звычайна забівалі жывёлу, і кожная з яе частак ішла ў страву. Пад агульнай назвай *«пячыст»* Нікіфароўскі разумее вялікія кавалкі засмажанага мяса альбо цэлую жывёлу (гусака, кураня, парася, качку). Пячысты бываюць смажаныя, адвараныя, але самай лепшай лічылася *«тушонка»*, таму што разам з ёй тушылася бульба, якая насычалася тлушчам і набывала апетытны залацісты колер. Любімай святочнай стравай беларусаў былі каўбасы — *мясовыя, печанёвыя і крываўныя*. Да заедкавых страў адносіліся *кіндзюкі, вантробкі і кнігаўкі*, а адным з самым смачных заўсёды лічыўся *«сцюдзень»*, асабліва са свініны ці гусяціны.

Да выпадковых страў Нікіфароўскі адносіць тую нескладаную ежу, якую можна прыгатаваць хутка і нават без дапамогі агню. Гэта *цюпка, мачонікі, пражаны хлеб, гарох і боб, «мундзеры», цыбуля* і інш. Стравы Віцебшчыны атрымалі пэўны ўплыў балцкай, яўрэйскай, татарскай, польскай, рускай і ўкраінскай кулінарый. У якасці прыкладу яўрэйскага ўплыву Мікалай Якаўлевіч прыводзіць такую салодкую страву, як *«цымус»* — тушоную бручку або моркву.

*«Мыканінай»* на Віцебшчыне называлі напаўвадкую страву, прыгатаваную для макання ў яе бліноў, сачнёў і нават хлеба, а *«дыбавымі»* — усе дадатковыя да асноўнай стравы прысмакі і закрасы. Да *ласонікаў* адносіліся дэсертныя прысмакі, якія набываліся на кірмашах і рэдка траплялі на стол простага люду. Гэта бубашкі або бублікі, сітнік, пернікі, макоўнікі, цукеркі і інш.

Асаблівай пашанай карыстаўся хлеб-карміцель. Да гэтага змалку прывучалі і дзяцей, якія ў час гульняў і забаў адкладвалі хлеб убок, а потым зноў пачціва бралі яго ў рукі. З сівой даўніны хлеб ужывалі ў замовах, магічных рытуалах і лячэнні хворых людзей ды жывёл.

Нікіфароўскі не толькі дае апісанне страў Віцебшчыны, але і прыводзіць асноўныя патрабаванні да кухарства, апісвае посуд.

Газета «Звязда» распачала праект пад назвай «Кулінарная энцыклапедыя Мікалая Нікіфароўскага». У рубрыцы «Ігуменскі тракт» раз на два тыдні выходзіць адпаведны артыкул. Мэта праекта — знаёмства чытачоў з традыцыямі харчавання нашых продкаў. Мне як аўтару артыкулаў хочацца не проста пераказаць тэксты Нікіфароўскага, а даць іх у міфапаэтычнай, культуралагічнай, этнаграфічнай і сімвалічнай прасторы беларускага этнасу, дапоўніць цытатамі беларускіх пісьменнікаў, фалькларыстаў і ўласнымі каментарыямі. Паколькі Нікіфароўскі не дае канкрэтных рэцэптаў, даводзіцца праглядаць шмат кніг па кулінарыі і многія рэцэпты выпрабоўваць на ўласнай кухні: навучыць гатаваць іншых ты можаш толькі тады, калі вучышся сам. На мінулым тыдні я зварыў студзень, прыгатаваў бульбяную яечню, а днямі — гарбузовую кашу. Вельмі смачна!

Праект мае зваротную сувязь: да нас прыходзяць лісты з сямейнымі рэцэптамі бабуль, прабабуль, якія мы друкуем. Таму калі ў вас, шаноўныя чытачы, ёсць цікавыя рэцэпты старажытнай беларускай кухні, дасылайце іх на электронны адрас seem52@mail.ru. На будучы год Выдавецкі дом «Звязда» плануе выпусціць кнігу «Кулінарная энцыклапедыя Мікалая Нікіфароўскага», дзе будуць змешчаны і рэцэпты нашых чытачоў з указаннем іх прозвішчаў.

А цяпер спецыяльна для вас неаднаразова апрабаваны мной рэцэпт «Студзень калядны». Нам спатрэбяцца: 2 свіныя ножкі, свіная рулька сярэдняй велічыні (пажадана мясная), курыная грудка, 2 цыбуліны, 1 буйная морквіна, 2 — 3 лаўровыя лісткі, 5 гарошын чорнага перцу, 4 зубчыкі часнаку, зеляніна пятрушкі і кропу, соль. Рэцэпт разлічаны на 4 супавыя талеркі.

Прыгатаванне: свіныя ножкі і рульку мыем і замочваем на ноч у халоднай вадзе. Ваду зліваем, акуратна апрацоўваем нажом рульку і ножкі да ідэальнай чысціні. У вялікую каструлю наліваем 2 літры вады і яшчэ адну шклянку (на выкіпанне), кладзём туды ножкі, рульку, даводзім да кіпення, здымаем пену, пераводзім на самы слабы агонь, закрываем накрыўкай і варым 3 гадзіны, пастаянна здымаючы пену. Потым дадаём курыную грудку, абабраную моркву, 2 цыбуліны (з іх зняць толькі верхнюю, брудную частку шалупіння, а астатняе пакінуць для прыдання залацістага колеру булёну), соль. Хачу прыгадаць, што гарачае варыва ўзмацняе смак солі, таму яе трэба даць крышку болей. Варым яшчэ паўгадзіны, дадаём перац і лаўровы ліст. Яшчэ праз паўгадзіны здымаем каструлю з агню. Вымаем у асобны посуд звараныя ножкі, рульку і грудку, а варыва працэджваем і закрываем накрыўкай. На раздзелачнай дошцы аддзяляем зваранае мяса ад касцей, дробна наразаем і раскладваем на 4 талеркі або ў іншы прыдатны посуд. Асабіста я бяру толькі мяса, некаторыя любяць і больш сальныя часткі. Рэжам або рвём зеляніну і пасыпаем ёй мяса. Моркву наразаем колцамі, кладзём у талеркі. Тут можна даць прастору ўласнай фантазіі і стварыць сапраўдны калядны малюнак. Наліваем у талеркі булён і выціскаем у кожную па зубчыку часнаку. Ставім у халоднае месца. Праз 2 — 3 гадзіны страва будзе гатовая. Рэшткі тлушчу з паверхні можна выдаліць гарачай лыжкай. Парэжце студзень на квадрацікі і падавайце да стала з хрэнам і гарачай бульбачкай. Чарка, асабліва на Каляды, таксама не будзе лішняй. Калі вы, шаноўныя мужчыны, прыгатуеце такі студзень для сваёй любай жанчыны, то акрамя вясёлага калляднага вечара вас яшчэ будзе чакаць калядная ноч. Смачна есці, добра піці, з асалодаю любіці! Са шчодрымі Калядамі вас!



# Чатыры станцыі — чатыры эксперыменты

Мінскі дзяржаўны Палац дзяцей і моладзі запрасіў наведвальнікаў на выстаўку дзіцячай кнігі «Книжки в штанишках», у рамках якой адбыўся «Фестываль дзіцячага чытання-2012».

**Кася СТАСЕВА, фота аўтара**

Для юных чытачоў было наладжана сапраўднае кніжнае свята, у якім яны самі ўзялі актыўны ўдзел. Загадчыца аддзела маркетынгу цэнтральнай сістэмы дзіцячых бібліятэк горада Мінска Вольга Воўк запрасіла ў падарожжа па чатырох станцыях.

На першай станцыі сустракаў дзіцячы пісьменнік Андрэй Смятанін. Творчае заданне было наступным: з прапанаваных фрагментаў сабраць вершы з кніг А. Смятаніна і Т. Шыпошынай «Рядышком присядете?»

Справіўшыся з заданнем, падарожнікі выправіліся далей. На станцыі «Касмічная» іх чакала пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая, якая запрашала юных чытачоў паляцець у космас. І не проста паляцець, а стаць героямі казачнай аповесці «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка». Дзеці пераўвасобіліся ў герояў кнігі і інсцэніравалі некалькі эпізодаў. Давялося нават канструяваць касмічны карабель, кроіць аблокі з аблокавай тканіны і зоркі лічыць, гледзячы ў падзорную трубу. Нехта стаў Месяцам і Зоркамі, іншыя — Каметай і Астраномам...

На трэцяй станцыі юныя вандроўнікі самі стваралі кнігу, выступалі ў ролі мастакоў: ім прапанавалі рабіць малюнкі і расфарбоўваць ілюстрацыі. Дзеці працавалі над працягам кнігі «Марцін і кацяня», якую напісаў Уладзіслаў Бубен. З малюнкаў юных мастакоў атрымалася цудоўная выстаўка.

На чацвёртай станцыі маленькім гасцям прапанавалі зрабіць самаробкі па серыі кніг пра Джыма Пугаўку, што выйшла ў выдавецтве «КомпасГид». Дзеці ўзброіліся нажніцамі, алоўкамі ды іншымі прыладамі і пачалі рабіць вагончыкі да аднаго з герояў кніг — паравозіка. У выніку сумеснай працы атрымаўся доўгі прыгожы цягнік.



Таццяна Швед узнагароджвае лепшых чытачоў.

Падарожнічаць па кнігах хлопчыкам і дзяўчынкам спадабалася, але віртуальная вандроўка скончылася. А сам «Фестываль дзіцячага чытання 2012» завяршыўся ўзнагароджваннем лепшых юных чытачоў і аўтараў кніг. Ганаровыя граматы і падарункі васямнаццаці хлопчыкам і дзяўчынкам уручыла дырэктар цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк горада Мінска Таццяна Швед.

# Па хвалях ракі памяці

Мастацкая галерэя «З'ява» Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева запрасіла гасцей на прэзентацыю мастацкага праекта «Рака памяці. Бярэзіна 1812 — 2012», прысвечанага пераправе арміі Напалеона праз Бярэзіну ў лістападзе 1812 года. Выстаўка рыхтавалася каля двух гадоў і мела на мэце паказаць падзеі 200-гадовай даўніны ў творах больш як дваццаці мастакоў з Барысава, Мінска, Крупак і Рэчыцы.

**Таццяна КІРЫЛАВА, мастацтвазнаўца Мастацкай галерэі «З'ява» Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева**

Ваенна-гістарычная тэматыка з'яўляецца асноўным лейтматывам у карцінах мастакоў з Барысава і Крупак. Працы мастака-аматара Сяргея Варламава дапамагаюць увачавідкі перанесціся ў тую далёкую эпоху, увідзець сябе ўдзельнікамі баталіі («Бой на батарэі», «Схватка»), пранесціся начным раз'ездам па зімовым лесе, стаць сведкам пераломных момантаў вайны («Спаленне знамёнаў»). На ўрачыстым адкрыцці выстаўкі С. Варламаў адзначыў: «Вайна 1812 года — частка не толькі гісторыі, але і майго жыцця. Для гісторыі 200 гадоў — гэта ўсяго толькі імгненне, таму можна сказаць, што гэта нашае «ўчора». Калі я пішу, героі маіх палотнаў жывуць побач са мной, а я пражываю іх жыццё». З дапамогай Станіслава Баяранкі мы маем магчымасць падарожнічаць па гістарычных мясцінах той далёкай вайны: «Барысаў. Від на Батарэі», «Салтанаўка», «На Брылёўскім полі». Як падкрэсліў сам Станіслаў Іванавіч, для яго тэма Айчыннай вайны 1812 года — неахопны пласт. Над гэтай тэматыкай можна працаваць гадамі, таму што гісторыя і нашэсце Напалеона, і яго выгнанне ўтрымлівае шмат эпізодаў, вартых увагі мастакоў».

Губляеш пачуццё рэальнасці і адчуваеш сябе ўдзельнікам бою, калі глядзіш на твор мастака Валерыя Гінца, які выразна перадаў дынаміку ваенных дзеянняў: «У атацы кавалергарды». Прыцягвае ўвагу наведвальнікаў арыгінальнай дэкаратыўнай стылізацыі і бліскучым прафесійным выкананнем палатно Сяргея Лагачова «Да сустрэчы ў Парыжы!», дзе можна дэтальна разгледзець асаблівасці касцюма платаўскага казака.

Пейзажныя палотны Таццяны Каландырэц пераносяць у мясціны, звязаныя з пераправай Вялікай арміі праз Бярэзіну, адначасова яны адлюстроўваюць прыгажосць тутэйшага краявіду «Брылёўскі лес», «Студзёнка. Марозны дзень», «Дарога на Брылі», «Бярэзіна». Працягвае галерэю пейзажаў з утульнымі куточкамі Барысаўшчыны мастак Пётр Казявін, заўзяты аматар пленэрнага жывапісу («Вечарэе. Бярэзіна каля в. Студзёнка», «Вясна на Бярэзіне», «Куток в. Студзёнка»).

Сваё філасофскае бачанне і ўсведамленне тэмы перадалі мастачка Ірына Гінц і дызайнер Святлана Швайбовіч. Артэфакты, што былі знойдзены на месцах баёў дзвюх армій, а цяпер з'яўляюцца часткай тэматычнага дыпціха «Рака памяці» (аўтар С. Швайбовіч), дапамагаюць дакрануцца да жывой гісторыі і ўтвараюць своеасаблівы масток з мінуўшчыны ў сучаснасць. Па словах С. Швайбовіч, вайна — гэта перадусім памяць, памяць пра тыя жудасныя падзеі і трагедыі народаў, што пацярпелі на берагах Бярэзіны. Таму сёння мы гаворым не столькі пра пераможцаў і тых, хто пацярпеў паразу, колькі пра боль, які давялося зведаць кожнаму, хто меў дачыненне да падзей той далёкай мінуўшчыны. Шлях спасціжэння гісторыі, нечаканых і разнастайных акалічнасцей, што ўплывалі на падзеі 1812 года адлюстраваны ў рабоце Ірыны Гінц «Старонкі гісторыі».

Некаторыя ўдзельнікі гэтага праекта з'яўляюцца актыўнымі членамі клубаў, што займаюцца рэканструкцыяй гістарычных падзей часоў напалеонаўскіх войнаў. Майстар-рэканструктар Сяргей Кажарскі здзівіў гледачоў дакладнай мінімадэллю 12-фунтавай палявой гарматы сістэмы Грыбаваля. Святлана Швайбовіч віртуозна перадала праз інтэр'ерныя



Сяргей Лагачоў «Да сустрэчы ў Парыжы!». 2012 г.

скульптуры асаблівасці стылю эпохі ампір, што быў распаўсюджаны на пачатку XIX стагоддзя ў Еўропе. На свае вочы ёсць магчымасць убачыць, як з дапамогай сучасных матэрыялаў можна стварыць незвычайную стылізаваную вазу той эпохі, як гэта зрабіла Алена Кеслер. Дапамагаюць адчуць тагачасную атмасферу і іншыя работы.

Мастацкі праект «Рака памяці» можна выкарыстаць у якасці яскравай ілюстрацыі добра вядомага выслоўя: хто не ведае сваёй гісторыі — той не мае будучыні. Рас-працоўка гістарычнай тэматыкі актуальная ва ўсе часы. Праз былое мы бачым сваё «сёння», знаходзім і ствараем будучае.

# Кот да Вінчы на сувязі

«Прывітанне, дзяўчынкі! Прывітанне, хлопчыкі!», — данеслася з дынамікаў, а на маніторы ноўтбука з'явілася Каця Мацюшкіна. Анлайн-сустрэча з расійскай дзіцячай пісьменніцай стала навагоднім падарункам дзіцячай бібліятэкі № 8 г. Мінска сваіх чытачам.

**Марына ПЕТРАШКЕВІЧ**

Трэцякласнікі, запрошаныя на сустрэчу, з хваляваннем глядзелі на манітор. Каця Мацюшкіна — адна з самых папулярных расійскіх дзіцячых пісьменніц, яе кнігамі зачытваюцца як дзеці, так і іх бацькі. Практычна ўсе, хто прыйшоў на сустрэчу, чыталі кнігі пра знакамітага Ката да Вінчы, маленькіх чалавечкаў, якія жывуць на дрэве, пра прыгоды дзяўчынкі Вані, Бабы Ягі, Кашчэя, лесавіка і іншых казачных герояў. Дзецям было цікава пазнаёміцца і пагутарыць з аўтарам любімых выданняў.

К. Мацюшкіна сцісла расказала пра свае кнігі, якія выйшлі ў свет, а таксама пра размалёўкі з галоўнымі героямі яе кніг, сшыткі з урокамі малявання і падзялілася з дзецьмі творчымі планамі на бліжэйшую будучыню. А потым пісьменніца прапанавала дзецям задаваць пытанні. Хтосьці спытаў пра Маскву, нехта — пра сяброў аўтаркі, яе хатніх жывёл, дзяцінства, вучобу ў школе, адукацыю, дзіцячыя мары. Шмат пытанняў было пра кнігі. Ці хутка яны пішуцца? Каму аддаць рукапіс? Дзяцей цікавіла, як іх суразмоўца стала пісьменніцай, колькі кніг ужо выйшла з-пад яе пяра, пра што будзе распавядаць далей, ці працягнуцца прыгоды Ката да Вінчы.

Дарэчы, у сярэдзіне сустрэчы ў госці завітаў... сам Кот, які расказаў дзецям пра сябе і сваіх сяброў. Усе зразумелі, што гэта была толькі вялікая плюшавая цацка, за якую гаварыў чалавек, але захапленню дзяцей не было межаў. Яны пабачылі «жывога» героя і пазнаёміліся з аўтаркай.

# Кнігазборы Івана Грознага — міфічны і рэальны

Пошукі легендарнай бібліятэкі Івана Грознага вядуцца з XVI ст. Праводзяцца даследаванні ў архівах, раскопкі падзямелляў Масквы, створаны нават фонд пошукаў бібліятэкі. Але шматлікія куфры з кнігамі старажытных аўтараў усё не трапляюцца. Чаму? Паспрабуем разабрацца.

**Паліна БАБІНА**

## СВЕДЧЫЦЬ МАКСІМ ГРЭК

Пра наяўнасць багатага шматмоўнага кнігазбору ў расійскіх цароў сведчаць дзве крыніцы канца XVI ст. Гэта ананімнае «Сказанне пра Максіма Філосафа» на царкоўнаславянскай мове і «Лівонскі летапіс», напісаны ў Рызе па-нямецку. Аднак ці варта так давяраць гэтым крыніцам?

«Сказанне пра Максіма Філосафа», манаха Ватапедскага манастыра на гары Афон, было напісана ў канцы XVI ст. У 1515 годзе настаяцель па просьбе вялікага князя Васіля III адправіў Максіма ў Маскву. Ад Максіма Грэка (такі дадатак да імя атрымаў манах) патрабавалася дапамагчы ў перакладзе кніг з грэчаскай на царкоўнаславянскую мову. Хутка Максім трапіў у няміласць, бо пачаў крытыкаваць жыццё Масковіі. Ён выступаў супраць накаплення зямель манастырамі, прыгону, а таксама намеру Васіля III развесціся з жонкай. Манаха абвінавацілі ў ерасі, шпіёнстве на карысць туркаў, псаванні богаслужэбных кніг і кінулі ў турму... Памёр Максім Грэк у 1556 годзе ў Троіца-Сергіеўскім манастыры пад Масквой. А «Сказанне» — жыційны твор — было напісана праз паўстагоддзя пасля яго смерці. Там ёсць згадка пра царскую бібліятэку: нібыта Васіль III захацеў разабрацца з кнігамі, якія прывезла з Візантыі яго маці, Соф'я Палеалог. Ён завёў манаха ў кнігасховішча і паказаў «незлічонае мноства грэчаскіх кніг». Парадокс у тым, што Максім Грэк, які пакінуў па сабе шмат твораў, ні ў адным з іх не згадвае бібліятэку маскоўскіх уладароў.

Другое сведчанне пра антычную бібліятэку сустракаецца ў «Лівонскай хроніцы» рыжскага бурмістра Ніенштэта. Там прыводзіцца аповед пра пастара Іагана Вітэрмана, які трапіў у палон да маскоўцаў падчас Лівонскай вайны. Калі палоннага прывялі ў Маскву, Іван Грозны паказаў яму сваю бібліятэку. Цар сказаў, што сто гадоў ніхто не бачыў кнігазбору, але з павагі да вучонасці пратэстанцкага пастара ён пакажа Вітэрману тыя кнігі. У бібліятэцы, кажа хроніка, былі кнігі на старажытнагрэчаскай, латыні, стараяўрэйскай мовах. Цар прапанаваў пастару скласці іх апісанне. Але Вітэрман, успомніўшы лёс Максіма Грэка, спужаўся, што на ўсё жыццё застанецца ў Маскве...

Як і «Сказанне...», «Лівонская хроніка» — ненадзейная крыніца. Бо сам Вітэрман у сваіх творах не пакінуў звестак пра сустрэчу з Іванам Грозным. Дый ці была яна магчымай? Пратэстантаў у тагачаснай Маскоўскай дзяржаве называлі «ерэтыкамі», «дзецьмі д'ябла». Ці мог маскоўскі цар прапанаваць лютэраніну парадкаваць сваё найвялікшае багацце?

## ЛЕГЕНДЫ ЧАСОЎ АДРАДЖЭННЯ

Болей бібліятэку не ўспамінае ніводзін аўтар тае эпохі — нават сам Іван Грозны. Ведаць пра яе існаванне мусілі б мітрапаліты і патрыярхі, але ў XVII стагоддзі патрыярх Нікан з ведама цара Аляксея Міхайлавіча пасылае чалавека ў Грэцыю па творы старажытных аўтараў. Нашто, здавалася б, калі працей спусціцца ў падзямеллі ды ўзяць неабходнае?

Пра бібліятэку не ведаюць і ў суседнім Вялікім Княстве Літоўскім. Так, друкары Астрожскай Бібліі 1581 года шукаюць па ўсёй Еўропе ў якасці ўзору грэчаскую Біблію, але ім нават на думку не спадае звярнуцца да масквітаў.

Яшчэ адна заўвага: і «Сказанне пра Максіма Філосафа», і «Лівонская хроніка» былі створаныя як мінімум праз сто гадоў пасля з'яўлення міфічнай бібліятэкі ў Масковіі (Соф'я Палеалог прыехала туды ў 1472-м). І ніякія крыніцы XV стагоддзя не згадваюць ні пра бібліятэку, ні пра яе правоз па Еўропе. А візантыйская прынцэса Соф'я пасля нападу туркаў на Канстанцінопаль жыла пры двары Папы ў Рыме, а потым пераязджала з аднаго еўрапейскага двара ў іншы. Нават калі пэўны кнігазбор пры ёй быў, наўрад ці магчыма было захаваць яго ў такіх умовах.

Як піша гісторык кнігі А. Гарфункель, верагодна, легенда пра багатую на антычныя кнігі бібліятэку маскоўскіх князёў узнікла ў Заходняй Еўропе ў пачатку XVI ст. У эпоху Адраджэння гуманісты звярнуліся да антычных аўтараў, іх творы пачалі шукаць і перавыдаваць. Што маглі, даставалі ў занятай туркамі Візантыі. Але адчуваліся яшчэ значныя прагалы ў ведах пра антычнасць. І тады на Захадзе стала пашырацца думка, што запоўніць прагалы могуць кнігі, якія ёсць у Маскоўскай дзяржаве — як у спадкаемцы візантыйскай культуры і ўсходнехрысціянскага, грэчаскага, абраду. Упэўненасць у гэтым прыводзіла да казусаў. У 1600 годзе Рэч Паспалітая накіравала ў Маскву пасольства, у складзе якога быў Леў Сапега, а таксама пасланец Ватыкана Пётр Аркудый. Апошні вельмі зацікавіўся пахвальбой маскоўцаў, маўляў, у патрыярха ёсць шмат старых грэчаскіх кніг, ды папрасіў паказаць. Але яго чакала расчараванне: гэта аказаліся славянскія псалтыры, евангеллі, чэцці-мінеі... Заходнееўрапеец і маскоўцы проста не паразумеліся: адзін пад «грэчаскімі кнігамі» меў на ўвазе антычныя рукапісы грэчаскага паходжання, другія — праваслаўныя богаслужэбныя кнігі.



Іван Грозны. З заходніх крыніц.

## БІБЛІЯТЭКА — НАЦЫЯНАЛЬНЫ МІФ

Паступова легенда пра царскую бібліятэку стала часткай нацыянальнага міфа і ў самой Расійскай дзяржаве. Падмацавалі яго нямецкія даследчыкі XIX стагоддзя. Так, прафесар правазнаўства Дэрпцкага ўніверсітэта Вальтэр Фрыдрых Клосіус, які цікавіўся антычнасцю, у 1827 г. натрапіў на артыкул, за пяць гадоў да гэтага надрукаваны ў «Працах дэрпцкага ўніверсітэта». Аўтар, прафесар Хрыстафор фон Дабелаў, у сваёй нататцы казаў пра некалькі старажытных лацінскіх кніг, што належалі да бібліятэкі Івана Грознага. Дабелаў казаў, што вывучаючы матэрыялы па ліфляндскім праве з Пярнускага архіва, натрапіў на дзве пажоўклыя паперыны са спісам кніг бібліятэкі Івана Грознага. Са спіса Дабелаў нібыта выпісаў частку ды пераслаў паперу назад у архіў. Аднак расшукаць арыгінал там не ўдалося. Спіс утрымліваў многіх не вядомых навуцы антычных аўтараў (Замалей, Геліятроп), а таксама творы, зусім не вядомыя навуцы (8 кніг «Historiarum» Цыцэрона). Большасць сучасных даследчыкаў схіляецца да думкі, што спіс Дабелава — гістарычная містыфікацыя, характэрная з'ява для першай паловы XIX стагоддзя.



Парсуна Івана Грознага са збораў Нацыянальнага музея Даніі (Капенгаген). Канец XVI — пачатак XVII ст.

Яшчэ адзін нямецкі філолаг Эдуард Трэмер у 1890-м дапусціў, што бібліятэка можа быць схаваная ад людскіх вачэй недзе ў крамлёўскіх падзямеллях. У гэты час пры разборы архіва Сената была знойдзена запіска 1724 года. У ёй панамар Конан Восіпаў прасіў дазволу пашукаць у падзямеллях тайнік, пра які яму перад смерцю распавёў дзяк Васіль Макар'еў. Той спускаўся ў лёхі і бачыў падземны пакой, застаўлены кавaнымі куфрамі. Восіпаў дазвол атрымаў, але раскопкі яго былі няўдалыя. На аснове гэтага дакумента гісторык, знаток Масквы І. Забелін выказаў здагадку, што менавіта ў гэтых куфрах і захоўвалася бібліятэка Грознага. Адразу пачаліся раскопкі. Многае было знойдзена, але толькі не царскія кнігі.

У 1898 годзе выйшла грунтоўнае даследаванне знаўцы маскоўскіх архіваў С. Белакурава. Ён жорстка раскрытыкаваў міф пра бібліятэку ў падзямеллях. На гэтым гісторыкі паставілі кропку.

Але аматары працягвалі пошукі. Адным з такіх зацятых быў археолаг і спелеолаг Ігнацій Сцялецкі. Усё сваё жыццё — і пры Мікалаю II, і пры Сталіне — аж да самай сваёй смерці ў 1949-м ён імкнуўся даследаваць падзямеллі. Цікава, што менавіта ў часы СССР міфічная «бібліятэка маскоўскіх князёў» ці «бібліятэка Васіля Іванавіча і Івана Васільевіча», як яе таксама называлі, стала зваццa «бібліятэкай Івана Грознага». Вобраз Грознага раскручваўся ў СССР, яго паказвалі сярэднявечным аналагам Сталіна. Калі б Сцялецкі ў 1930-я шукаў «бібліятэку цароў», яго не зразумелі б. Аднак ён прасіў у Сталіна дазволу на раскопкі «бібліятэкі Івана Грознага» — і атрымаў. Хоць раскопкі былі безвыніковыя.

Большасць сучасных даследчыкаў не ўспрымае ўсур'ёз думку пра бібліятэку Соф'і Палеалог, якую тая нібыта правезла праз усю Еўропу, каб схаваць у Маскве. Аднак нельга адмаўляць, што ў Івана Грознага, адукаванага чалавека, быў усё ж уласны кнігазбор. І яго рэканструкцыя можа многае сказаць пра ўласніка, паказаць расійскага цара ў якасці чытача XVI ст., выявіць чытацкія густы ды схільнасці той эпохі.

## САПРАЎДНЫ КНІГАЗБОР ГРОЗНАГА

Рэканструкцыяй сапраўднай бібліятэкі цара займаўся пецярбургскі гісторык і архівіст М. Зарубін. Даследчык памёр ад голаду ў блакадным Ленінградзе ў 1942 г., і наступныя 40 гадоў яго праца захоўвалася ў рукапісе. Толькі ў 1982-м яна выйшла кнігай.

М. Зарубін з усіх магчымых крыніц выпісваў звесткі пра кнігі, якімі карыстаўся маскоўскі цар. Атрымаўся спіс са 154 назваў. Пазнейшыя даследчыкі дадалі ў спіс чамусьці адсутныя там сачыненні самога цара, творы, якія згадваліся ў перапісцы Грознага.

Да хатняй бібліятэкі цар і яго падданыя маглі звяртацца пры падрыхтоўцы да рэлігійных дыспутаў, пры пошуках патрэбнай цытаты для «ответных речей» або для складання ці рэдагавання летапісаў. Можна бачыць, што аснову гэтай «дваровай» бібліятэкі складалі пераважна не старажытныя, а новыя рукапісныя і друкаваныя кнігі.

У складзе бібліятэкі былі традыцыйныя рэлігійныя кнігі — Бібліі, Апосталы, Евангеллі, Псалтыры, чэцці-мінеі, а таксама — зельнікі, траўнікі, лацінскія, англійскія, польскія, грэчаскія ды сербскія кнігі, адбітая ў казанскіх паслоў кніга арабскага натураліста «Цуды прыроды», «Пра іўдзейскую вайну» Іосіфа Флавія, трыодзі, татарскія кнігі, летапісы.

Былі кнігі і з Рэчы Паспалітай. Так, расійскія друкаваныя выданні да канца праўлення Грознага сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Таму замежным гасцям цар дарыў Астрожскую Біблію 1581 года, надрукаваную Іванам Фёдаравым за грошы магната Канстанціна Астрожскага на Валыні, у горадзе Астрог (цяпер раённы цэнтр Ровенскай вобласці, Украіна).

Па смерці цара бібліятэка засталася ў дзяржаўным скарбе. Частка яе пацярпела ў шматлікіх маскоўскіх пажарах, страцілася падчас войнаў. Частка дайшла да нашых дзён, расцярушаная па розных кніжных зборах.

Менавіта гэтую, сапраўдную бібліятэку маскоўскіх князёў, пашыраную ў часы Івана IV, можна лічыць «бібліятэкай Грознага». А легендарны антычны кнігазбор Соф'і Палеалог на 70 вазах варта аднесці да гістарычных міфаў і навуковых памылак.

# Пашыць сабе... цуд!

Падарыць каму-небудзь на Каляды ці Новы год сатканы сваімі рукамі ўзорысты пояс або ўпрыгожыць навагоднюю ёлку самаробнай цацкай з кавалачкаў тканіны — пагадзіцеся, ёсць у гэтым нешта чароўнае, пяшчотнае.

**Вольга СЕМЧАНКА,**
**фота аўтара**



*Тканыя паясы Ларысы Лямцавай.*

Магчыма, хтосьці запытае: навошта ў наш камп'ютарны век марнаваць час на шыццё і ткацтва, калі любую рэч можна набыць у краме? І каму патрэбныя гэтыя музейныя экспанаты, «дыназаўры» з бабулінага куфра! А можа, якраз гэтага нам цяпер і не хапае — ручных вырабаў, у якія ўкладзена не толькі праца, але душа і сэрца? А яшчэ — спрадвечныя традыцыі нашага народа.

Навучыцца ўласнаручна ствараць цуды зусім не складана, асабліва калі тваімі дзеяннямі кіруе вопытны майстар. Гэтую ісціну адкрылі для сябе ўдзельніцы семінара-практыкума, што ладзіўся Магілёўскім абласным метадычным цэнтрам народнай творчасці і культурна-асветнай работы. Майстар-клас па лапікавым шыцці правяла член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Алена Вярменіч. Майстрыха прадэманстравала стылёвыя вырабы з тканіны, выкананыя ёю ў розных варыянтах лапікавай тэхнікі: лялькі, пано, коўдры, сурвэткі, торбачкі — і падзялілася сакрэтамі стварэння дэкаратыўных элементаў на аснове пэчворк-блокаў — тых, што можна пашыць уручную, без выкарыстання швейнай машынкі. Удзельніцы семінара навучыліся рабіць дзівосны ўпрыгажэнні.



*Ёлачная цацка з пэчворк-блокаў, зробленая Аленай Вярменіч.*

Многіх зацікавіў блок «піён», які нагадвае пышную кветку і фарміруецца за кошт квадрацікаў тканіны, выкладзеных і сшытых адмысловым чынам. Дарэчы, гэты элемент можа ўпрыгожыць і абабіцую тканінай шкатулку, і дэкаратыўную падушку, і сукенку, і шмат што яшчэ — наколькі хопіць уяўлення.

— Шыццё з кавалачкаў тканіны — традыцыйны від народнай творчасці, які паходзіць з глыбінь вякоў і характэрны для розных народаў, у тым ліку і беларусаў, — распавяла Алена Дзмітрыеўна. — Жанчыны здаўна накладвалі лапікі на адзенне, шылі коўдры, кілімы. І дасюль гэтае мастацтва застаецца актуальным — у першую чаргу яно для душы. Для мяне гэта хутчэй хобі, якое, аднак, перагукаецца з працай — па спецыяльнасці я мастак-мадэльер. Галоўнае, што гэты занятак даступны кожнаму: у любым доме знойдуцца абрэзкі матэрыі, ніткі, іголкі і нажніцы. Рабіць можна самыя розныя рэчы — ад цёплых коўдраў да арыгінальных упрыгажэнняў.



*Кампазіцыя «Дамавік і Новы год» Алены Вярменіч (лапікавая тэхніка).*

Пры гэтым выкарыстоўваюцца і нават спалучаюцца ў адным вырабе розныя тэхнікі і віды лапікавай тэхнікі.

А ці бачылі вы, як ткуць на дошчачках паясы? Сучасныя майстрыхі вырабляюць пры дапамозе гэтай тэхнікі закладкі для кніг, торбачкі, дываны, сурвэткі, дэкаратыўныя падушкі. І гэты від народнага мастацтва апошнім часам набывае вялікую папулярнасць, у тым ліку і сярод моладзі. Магчыма, таму, што тэхніка досыць простая і не патрабуе складаных прылад. Для работы патрэбны «дошчачкі» з адтулінамі — невялікія квадрацікі з пластыку, кардону, дрэва, металу ці аргшкла. Таксама спатрэбяцца чаўнок, пласцінкі для прыбівання ўточнай ніткі і для закладвання ў зеў, шпілька, кручок, нажніцы, ніткі — пажадана без ворсу. Сатканы ўручную пояс — рэч, якая становіцца ўсё болей запатрабаванай. Гэта і арыгінальны сувенір, і ўдалае дапаўненне да народнага строю, і мініяцюрны паясок для лялькі.

Метадыст-майстар Круглянскага раённага Дома рамёстваў, народны майстар Беларусі Ларыса Лямцава распавяла пра розныя тэхнікі ткацтва паясоў, характэрныя для Беларусі, і вылучыла дзве найбольш распаўсюджаныя на Магілёўшчыне — ткацтва на дошчачках і на бердзечку. Сама Ларыса Міхайлаўна — майстрыха на ўсе рукі. Умее ткаць на кроснах, старае тэкстыльныя лялькі, захапляецца вязаннем і вышыўкай. Неадназова займала прызавыя месцы на абласных, рэспубліканскіх выстаўках і конкурсах, летась атрымала Дыплом І ступені на выстаўцы Беларускага саюза майстроў народнай творчасці «Калядныя ўзоры».

Спачатку «навабранцам» было складана зразумець, у якой паслядоўнасці ніткі запраўляюцца ў адтуліны. І толькі калі майстрыха абышла ўсіх удзельніц і паказала ўсё «на пальцах» — працэс пайшоў. Скеміўшы, што да чаго, жанчыны жвава прыступілі да працы. Кожная выткала па некальі сантыметраў.

— Я даведалася шмат новага, — прызналася Ларыса Заклікоўская, дырэктар раённага Цэнтра рамёстваў аграгарадка Кароўчына Дрыбінскага раёна. — Лапікавае шыццё — гэта сапраўднае мастацтва, якое нясе ў сабе і задавальненне, і харaство. Некалі сама займалася пэчворкам, шыла дэкаратыўныя падушкі. А сёння мяне літаральна зачаравалі прыгожыя ёлачныя цацкі. Думаю, яны зацікавяць дзяцей, што займаюцца ў нашых гуртках. Мы штогод ладзім у Доме рамёстваў калядную выстаўку, дзе прадстаўлягм ёлачныя азд..обы і іншыя вырабы навагодняй тэматыкі ў розных тэхніках, але вось лапікавай там яшчэ не было. Што ж да паясоў, у нашым Доме рамёстваў іх пакуль ніхто не тчэ. І шкада. Ужо крыху засвоіла гэтую тэхніку, буду вучыцца далей і перадам свае навыкі дзецям.

## Афарызм

*Чытанне — малітва слову.*
*Руплівая самастойная вучоба на працягу жыцця.*

**Фёдар ЯНКОЎСКІ**

*З глыбінкі*

# Народная «Рунь»

Вось ужо 15 гадоў валожынскае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Рунь» носіць ганаровае званне «народнага». З нагоды юбілею ў зале валожынскага раённага Цэнтра культуры адбылося святочнае мерапрыемства «Нашы словы ад сэрца ідуць», якое сабрала прыхільнікаў творчасці «Руні», прадстаўнікоў мясцовых органаў улады, ганаровых гасцей.

Напачатку, больш як 30 гадоў таму, «Рунь» як літаратурнае аб'яднанне была створана пры рэдакцыі раённай газеты «Працоўная слава». Назву прыдумалі разам радыёжурналістка Галіна Шаблінская, паэт Віктар Шніп, які кіраваў тады аб'яднаннем, і паэтэса Валянціна Гіруць-Русакевіч. Дзесьці з 1994 года «Рунь» пашырылася, стала літаратурна-мастацкім аб'яднаннем і пачала працаваць пры раённым Цэнтры культуры, а ў 1997-м калектыў стаў «народным». Адсюль пачыналі свой творчы шлях паэты Пятро Бітэль, Хведар Чэрня, Казімір Камейша, Віктар Шніп.



*Валянціна Гіруць-Русакевіч і Вікенцій Адамовіч.*

Сёння аб'яднаннем кіруюць творчыя, апантаныя, улюбёныя ў сваю справу і родную Валожыншчыну людзі — Валянціна Гіруць-Русакевіч і Міхась Курыла. У склад «Руні» ўваходзяць школьнікі, студэнты, прадстаўнікі самых розных прафесій, якія маюць талент слова, шануюць родную мову і спадчыну, працягваюць слаўныя традыцыі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Канстанцыі Буйло, Вячаслава Рагойшы і іншых знакамітых творцаў Валожыншчыны. Сярод традыцыйных форм работы аб'яднання — вечары-партрэты, вечары-ўшанаванні, літаратурныя гасцёўні, прэзентацыі кніг, літаратурныя святы, літаратурна-пазнавальныя экскурсіі, выданне калектыўных і аўтарскіх зборнікаў і г. д.

Пасля творчай справаздачы пра дзейнасць «Руні» В. Гіруць-Русакевіч на свяце гучалі «Гімн Валожыну» і «Гімн Валожынскай зямлі» на словы рунеўца Сяргея Маляўскага, чыталіся вершы, песні на словы сябroў літаб'яднання выконваліся салістамі РЦК. Вельмі кранальна на юбілеі гучаў гармонік заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь, паэта і журналіста Рыгора Сакалоўскага, падораны аб'яднанню ўнукам паэта.

З віншаваннямі і падарункамі выступілі вядучы спецыяліст аддзела культурна-дасугавай дзейнасці Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Ірына Архіпава, намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама Пётр Бібік, начальнік аддзела культуры Валожынскага райвыканкама Вікенцій Адамовіч. Ад Саюза пісьменнікаў Беларусі і РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» выступіў паэт Рагнед Малахоўскі. Ён уручыў удзельнікам «Руні» дыпломы за актыўны ўдзел у літаратурным жыцці Міншчыны, а Валянціне Гіруць-Русакевіч — медаль за ўклад у літаратуру Беларусі. Віншавалі юбіляраў таксама прадстаўнікі бібліятэчнай сістэмы раёна, аддзела па справах моладзі райвыканкама, клуба пажылых людзей «Верас» РЦК.

**Людміла ГАТАВІЦКАЯ,**
**г. Валожын**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





**Юрыдычны адрас:** 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2713
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 27.12.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5542
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686